ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XI

№ 4
Красавік 1937 г.




ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 7.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару
20000, даб. 50.



## Лозунгі да 1 Мая 1937 года

1. *Няхай жыве 1-е Мая—баявы агляд рэвалюцыйных сіл міжнароднага пралетарыята!*

2. *Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся! Станавіцеся пад сцягі Камуністычнага Інтэрнацыянала!*

3. *Няхай жыве сацыялістычная рэвалюцыя ва ўсім свеце!*

4. *Братам па класу, афярам фашысцкага тэрору, вязням капіталізма ў дзень 1 Мая наша пралетарскае прывітанне!*

5. *Фашызм—гэта тэрарыстычная палітыка капіталістаў і памешчыкаў супроць рабочых і сялян. Фашызм—гэта захватніцкая вайна. Фашызм—гэта нацкоўванне народаў адзін на другога. Мабілізуем сілы на барацьбу з фашызмам!*

6. *Рабочыя, работніцы, сяляне і працоўныя ўсіх краін! Расшырайце і ўмацоўвайце народны фронт барацьбы супроць фашызма і вайны. За мір, за дэмакратычныя свабоды, за сацыялізм!*

7. *Брацкае прывітанне рабочым Іспаніі, якія вядуць гераічную барацьбу супроць фашызма і іншаземных інтэрвентаў. Няхай жыве народны фронт у Іспаніі! Далоў яўных і скрытых ворагаў народнага фронту!*

8. *Большэвіцкае прывітанне рэвалюцыйным пралетарыям Германіі. Няхай жыве гераічная камуністычная партыя Германіі! Няхай жыве таварыш Тэльман!*

9. *«Мы стаім за мір і адстойваем справу міру. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны» (Сталін).*

10. *Няхай жыве наша родная, непераможная Чырвоная Армія—магутны аплот мірнай працы народаў СССР, верны вартавы заваяванняў вялікай Кастрычніцкай Рэвалюцыі!*

11. *Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР!*

12. *Баявое прывітанне маладым байцам Чырвонай Арміі, якія прысягаюць 1-га Мая на вернасць савецкай уладзе, на вернасць нашай вялікай сацыялістычнай радзіме!*

13. *Прывітанне байцам пагранічнікам, пільным вартавым савецкіх граніц!*

*14. Няхай расце і мацнее, няхай авалодвае тэхнікай і загартоўваецца наша родная, магутная Чырвоная Армія!*

*15. Няхай жывуць совецкія лётчыкі—гордыя сокалы нашай соцыялістычнай радзімы!*

*16. Няхай жыве новая Канстытуцыя СССР, Канстытуцыя перамогшага соцыялізма і сапраўднага дэмакратызма!*

*17. Няхай жыве саюз рабочых і сялян—аснова совецкай улады!*

*18. Няхай жыве брацкі саюз і вялікая дружба народаў СССР!*

*19. Умацуем дыктатуру рабочага класа СССР—дзяржаўнае кіраўніцтва рабочага класа ўсім нашым грамадствам!*

*20. Многамільённай арміі ўдарнікаў і ўдарніц прамысловасці і транспарту, стаханаўцам, знатным людзям нашай краіны, большэвіцкае прывітанне!*

*21. Даб'емся выканання і перавыканання гаспадарчага плана 1937 года—дваццатага года Вялікай пролетарскай соцыялістычнай рэволюцыі!*

*22. Прывітанне работнікам прамысловасці і чыгуначнага транспарту, датэрмінова выканаўшым другі пяцігадовы план!*

*23. Узнімаем культурна-тэхнічны ўзровень рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы!*

*24. Прывітанне стаханаўцам соцыялістычных палёў, якія па-большэвіцку выконваюць план веснавой сяўбы!*

*25. Калгаснікі і калгасніцы, аграномы і работнікі соўгасаў! Змагайцеся за ўзорнае завяршэнне веснавой сяўбы і высокі ўраджай!*

*26. Шырэй разгорнем крытыку і самакрытыку нашых недахопаў! Яшчэ больш умацуем магутнасць соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян!*

*27. Па-большэвіцку падрыхтуемся да выбараў у Советы, палепшым работу Советаў, акружым іх новымі слаямі актыва рабочых, сялян, інтэлігенцыі!*

*28. «Сувязь з масамі, умацаванне гэтай сувязі, гатоўнасць прыслухоўвацца да голасу мас,—вось у чым сіла і непераможнасць большэвіцкага кіраўніцтва» (Сталін).*

*29. Прывітанне работнікам навукі і тэхнікі, мастацтва і літаратуры, чэсна выконваючым свой абавязак перад совецкай радзімай!*

*30. Няхай жыве роўнапраўная жанчына СССР, актыўная ўдзельніца ў кіраванні дзяржавай, у кіраванні гаспадарчымі і культурнымі справамі краіны!*

*31. Вырасцім здаровых, жыццерадасных совецкіх дзяцей, адданых сваёй радзіме!*

*32. Піонеры і піонеркі, авалодвайце ведамі і вучыцеся стаць барацьбітамі за справу Леніна!*

*33. Слаўным фізкультурнікам і фізкультурніцам совецкай краіны— першамайскае прывітанне!*

*34. Няхай жыве комсамольскае племя—магутны рэзерв і надзейны памочнік большэвіцкай партыі! Няхай жыве працоўная моладзь нашай радзімы!*

*35. Узмоцнім рэволюцыйную пільнасць! Пакончым з палітычнай бесклапотнасцю ў нашым асяроддзі!*

*36. Выкрыем да канца ўсіх і ўсякіх двурушнікаў! Ператворым нашу партыю ў непрыступную крэпасць большэвізма!*

*37. Выкаранім ворагаў народу, япона-германа-трацкіецкіх шкоднікаў і шпіёнаў! Смерць здраднікам радзімы!*

*38. Няхай жыве Ўсесаюзная Комуністычная Партыя (большэвікоў)—перадавы атрад працоўных СССР!*

*39. Няхай жыве Комуністычны Інтэрнацыянал—кіраўнік і арганізатар барацьбы супроць вайны, фашызма і капіталізма! Няхай жыве комунізм!*

*40. Няхай жыве вялікі неператожны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна! Няхай жыве ленінізм!*

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (большэвікоў).**

# Аб падручніку гісторыі ВКП(б)

*Пісьмо складальнікам падручніка гісторыі ВКП(б)*

Я думаю, што нашы падручнікі па гісторыі ВКП(б) нездавальняючыя па трох галоўных прычынах. Нездавальняючыя або таму, што яны выкладаюць гісторыю ВКП(б) па-за сувяззю з гісторыяй краіны; або таму, што абмяжоўваюцца расказам, простым апісаннем падзей і фактаў барацьбы плыней, не даючы неабходнага марксісцкага тлумачэння; або таму, што хварэюць няправільнасцю канструкцыі, няправільнасцю перыядызацыі падзей.

Каб пазбавіцца ад такіх недахопаў, аўтары павінны ўлічыць рад меркаванняў.

Трэба прадпасляць кожнай главе (або раздзелу) падручніка кароткую гістарычную спраўку аб эканамічным і палітычным становішчы краіны. Без гэтага гісторыя ВКП(б) будзе выглядаць не як гісторыя, а як лёгкі і незразумелы расказ аб справах мінулых.

Трэба, па-другое, не толькі выкладаць факты, дэманструючыя багацце плыней і фракцый у партыі і ў рабочым класе ў перыяд капіталізма ў СССР, але і даць марксісцкае тлумачэнне гэтым фактам, указаўшы а) на наяўнасць у дарэволюцыйнай Расіі як новых, сучасных з пункту погляду капіталізма, класаў, так і старых, дакапіталістычных класаў, б) на дробнабуржуазны характар краіны, в) на разнародны склад рабочага класа,—як на ўмовы, спрыяўшыя існаванню мноства плыней і фракцый у партыі і ў рабочым класе. Без гэтага багацце фракцый і плыней застаецца незразумелым.

Трэба, па-трэцяе, не толькі выкладаць у тоне простага расказу факты жорсткай барацьбы плыней і фракцый, але і даць марксісцкае тлумачэнне гэтым фактам, указаўшы, што барацьба большэвікоў з антыбольшэвіцкімі плынямі і фракцыямі была прынцыповай барацьбой за ленінізм, што ва ўмовах капіталізма і наогул ва ўмовах наяўнасці антаганістычных класаў унутрыпартыйныя супярэчнасці і рознагалоссі з'яўляюцца няўхільнасцю, што развіццё і ўмацаванне пролетарскіх партый пры ўказаных умовах можа адбывацца толькі ў парадку перамагання гэтых супярэчнасцей, што без прынцыповай барацьбы з антыленінскімі плынямі і групамі, без іх перамагання,

наша партыя немінуча перарадзілася-б, як перарадзіліся соц.-дэм. партыі ІІ-га Інтэрнацыянала, не прыемлючыя такой барацьбы. Можна было-б пры гэтым выкарыстаць вядомае пісьмо Энгельса Бернштэйну ў 1882 годзе, прыведзенае ў першай главе майго даклада VII-му пашыранаму пленуму ВККІ «Аб соц.-дэм. ухіле» у ВКП(б), і мае каментары да яго. Без такіх растлумачэнняў барацьба фракцый і плыней у гісторыі ВКП(б) будзе выглядаць, як незразумелая склока, а большэвікі,—як непапраўныя і неўгамаваныя склочнікі і задзіры.

Трэба, нарэшце, унесці які-небудзь парадак у справу перыядызацыі падзей з гісторыі ВКП(б).

Я думаю, што прыводзімая ніжэй, ці падобная ёй, схема магла-б легчы ў аснову.

*Схема:*

I

Барацьба за стварэнне марксісцкай, соц.-дэмакр. партыі ў Расіі.

(Ад стварэння Плеханаўскай «Групы вызвалення працы»—1883 г. да з'яўлення першых нумараў «Искры»—1900—1901 г.г.).

II

Стварэнне рас. соц.-дэм. рабочай партыі і з'яўленне ўнутры партыі фракцый большэвікоў і меншавікоў.

(1901—1904 г.г.).

III

Меншавікі і большэвікі ў перыяд руска-японскай вайны і першай рускай рэволюцыі.

(1904—1907 г.г.).

IV

Меншавікі і большэвікі ў перыяд Сталыпінскай рэакцыі і афармленне большэвікоў у самастойную соц.-дэм. раб. партыю.

(1908—1912 г.г.).

V

Партыя большэвікоў у гады ўздыму рабочага руху перад першай імперыялістычнай вайной.

(1912—1914 г.г.).

VI

Партыя большэвікоў у перыяд імперыялістычнай вайны і другой рускай лютаўскай рэвалюцыі.
(1914—люты—сакавік 1917 г.г.).

VII

Партыя большэвікоў у перыяд падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі.
(красавік 1917—1918 г.г.).

VIII

Партыя большэвікоў у перыяд грамадзянскай вайны.
(1918—1920 г.г.).

IX

Партыя большэвікоў у перыяд пераходу на мірную работу па аднаўленню народнай гаспадаркі.
(1921—1925 г.г.).

X

Партыя большэвікоў у барацьбе за соцыялістычную індустрыялізацыю краіны.
(1926—1929 г.г.).

XI

Партыя большэвікоў у барацьбе за калектывізацыю сельскай гаспадаркі.
(1930—1934 г.г.).

XII

Партыя большэвікоў у барацьбе за завяршэнне будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і правядзенне новай Канстытуцыі.
(1935—1937 г.г.).

*І. СТАЛІН.*

# Рашэнні Пленума і ўказанні таварыша Сталіна— праграма партыйнай работы

Рашэнні Пленума ЦК ВКП(б), даклад і заключнае слова таварыша Сталіна—буйнейшыя вехі ў гісторыі нашай партыі, у гісторыі барацьбы рабочага класа і ўсіх працоўных нашай краіны за соцыялізм. Таварыш Сталін даў глыбокі, вычарпальны аналіз недахопаў і памылак у партыйнай рабоце, паставіў перад кожнай партарганізацыяй і комуністам канкрэтныя задачы.

У палітычным жыцці нашай краіны адбываецца велізарны паварот. Новая Сталінская Канстытуцыя стварае ўмовы далейшага ўзмацнення актыўнасці працоўных краіны Советаў, яшчэ большага росквіту совецкай дэмакратыі.

> «Вынікам увядзення ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні,—гаворыцца ў рэзалюцыі Пленума ЦК ВКП(б) па дакладу тав. Жданава,—будзе далейшае ўзмацненне палітычнай актыўнасці мас, уцягненне новых пластоў працоўных у кіраванне дзяржавай. Тым самым дыктатура пролетарыята становіцца больш гібкай, а стала быць, больш магутнай сістэмай дзяржаўнага кіраўніцтва рабочага класа грамадствам, база дыктатуры рабочага класа расшыраецца, яе аснова становіцца больш моцнай».

Узначаліць палітычны паварот у жыцці краіны, зрабіць большэвіцкую партыю крэпасцю, непрыступнай для двурушнікаў і іншых ворагаў соцыялізма,—асноўная задача партарганізацый.

Таварыш Сталін з выключнай яснасцю ўскрыў карэнні недахопаў у нашай партыйна-палітычнай рабоце і вызначыў асноўнае звяно, ухапіўшыся за якое, мы здолеем выцягнуць увесь ланцуг чарговых задач. Сіла большэвіцкай партыі—ва ўменні своечасова знайсці асноўнае звяно ў рабоце. На кожным павароце гісторыі наша партыя, яе правадыры Ленін і Сталін высоўвалі асноўны лозунг, які ярка асвятляў шлях барацьбы за перамогу комунізма. Важнейшая задача цяперашняга перыяда—аўладаць большэвізмам, палітычна выхаваць большэвіцкі загартаваныя кадры, ліквідаваць палітычную бесклапотнасць.

Увядзенне ў жыццё новай Канстытуцыі СССР азначае сур'ёзны паварот у палітычным жыцці нашай краіны.

> «Каб сустрэць гэты паварот ва ўсеўзбраенні,—гаворыцца ў рашэнні Пленума ЦК ВКП(б),—партыя павінна стаць на чале гэтага павароту і забяспечыць поўнасцю сваю кіруючую ролю ў надыходзячых выбарах вярхоўных органаў краіны».

Партыйна-палітычная работа ў масах набывае зараз зусім новае, выключнай важнасці значэнне. Кожная партарганізацыя і комуніст

павінны праявіць сваю арганізатарскую здольнасць у бальшэвіцкай прапагандзе і агітацыі. А для таго, каб стаць на чале гістарычнага павароту ў жыцці краіны, у правядзенні разгорнутага, да канца соцыялістычнага дэмакратызма, неабходна, «каб партыя сама праводзіла паслядоўную дэмакратычную практыку, каб яна праводзіла да канца ва ўнутрыпартыйным жыцці асновы дэмакратычнага цэнтралізма, як гэтага патрабуе статут партыі, каб яна сама мела неабходныя ўмовы, у сілу якіх усе органы партыі з'яўляліся-б выбарнымі, каб крытыка і самакрытыка развіваліся ў поўнай меры, каб адказнасць партыйных органаў перад партыйнай масай была поўная і каб сама партыйная маса была поўнасцю актывізавана» (З рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б)).

Пленум ЦК ВКП(б) адзначыў рад выпадкаў скажэння ўнутрыпартыйнай дэмакратыі, парушэння выбарнасці кіруючых партыйных органаў, практыкі шырокай кааптацыі, адсутнасці бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі. Усё гэта ў поўнай меры адносіцца і да КП(б)Б. Цэнтральны Камітэт КП(б) Беларусі, раённыя, гарадскія камітэты і пярвічныя партарганізацыі таксама груба парушалі статут партыі. Дэмакратычны цэнтралізм быў падменен прамым назначэнствам, шырокай практыкай кааптацыі. Так, у Цэнтральным Камітэце КП(б)Б былі кааптаваны 24 члены і 10 кандыдатаў пленума, у Гомельскім гаркоме з 52 членаў пленума кааптавана 40, у Менскім гаркоме—10. Факты небальшэвіцкай практыкі кааптацыі мелі месца таксама ў Слуцкай, Бабруйскай, Клімавіцкай, Барысаўскай і радзе іншых партыйных арганізацый.

Па рашэннях многіх райкомаў і гаркомаў КП(б)Б у радзе пярвічных арганізацый па некалькі раз у год змяняліся сакратары парткомаў і парторгі. У скрытай форме па сутнасці працвітала назначэнства. Ясна, што многія назначэнцы не адчувалі ніякай адказнасці за сваю работу і не адчытваліся ў ёй перад партыйнаю масай.

У партарганізацыі гомельскай арцелі «Кааператар» за мінулы год змянілася 5 сакратароў парткома, і ні адзін не адчытаўся перад партарганізацыяй. У менскім палітэхнічным інстытуце за апошнія два гады змяніліся 4 сакратары парткома, і таксама ні адзін не адчытаўся за сваю работу. На менскай трыкатажнай фабрыцы «Чырвоны тэкстыльшчык» з 1934 года змянілася 9 сакратароў парткома без усякай справаздачы аб рабоце перад партарганізацыяй. Падобныя факты выяўлены ў Гомельскім, Менскім, Віцебскім, Бабруйскім і іншых раёнах. Але нават і там, дзе сакратары парткомаў і парторгі не змяняліся на працягу 1½—2 год, усёроўна яны не адчытваліся на агульных партсходах.

Практыка парушэнняў статута і асноўных прынцыпаў бальшэвізма прывяла да бескантрольнасці, безадказнасці, да адрыву кіруючых парторганаў ад партыйных мас, стварыла сярод кіраўнікоў атмасферу самасупакоенасці, благадушша і бяспечнасці, тармазіла і заціскала разгортванне бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, дала магчымасць контррэволюцыйным элементам—трацкісцкім бандытам, шпіёнам, дыверсантам і двурушнікам—пад гімн хвалебных песень і падхалімства ўсыпляць пільнасць паасобных партыйных кіраўнікоў, заручыцца іх давер'ем і пранікнуць на кіруючыя пасты не толькі ў савецка-гаспадарчы, але і ў партыйны апарат і спакойна тварыць там сваю гнусную падрыўную работу.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе і заключным слове на пленуме ЦК ВКП(б) рэзка асудзіў такую практыку работы, якая парушае а-



ноўныя прынцыпы большэвізма—дэмакратычны цэнтралізм і статут нашай партыі.

«Усе гэтыя факты парушэння асноў дэмакратычнага цэнтралізма наносяць партыі шкоду,—гаворыцца ў рэзалюцыі Пленума ЦК ВКП(б),—бо яны тармозяць рост актыўнасці членаў партыі, пазбаўляюць актыў, які мае асаблівае палітычнае значэнне ў жыцці нашай партыі, магчымасці ўдзелу ў кіруючай рабоце, пазбаўляюць членаў партыі іх законных праў кантролю над дзейнасцю парторганаў і тым самым парушаюць правільныя ўзаемаадносіны паміж кіраўнікамі і партыйнымі масамі.

... *Ліквідацыя гэтых і падобных ім недахопаў з'яўляецца той* неабходнай умовай, без якой не могуць быць выкананы новыя задачы партыі, узнікшыя ў сувязі з фактам павароту ў палітычным жыцці краіны».

Пленум ЦК ВКП(б) патрабуе ад усіх партыйных арганізацый перабудаваць сваю работу на аснове строгага правядзення ў жыццё асноў унутрыпартыйнага дэмакратызма і выканання статута партыі.

Пленум ЦК ВКП(б) пастанавіў «устанавіць пры выбарах парторганаў закрытае (тайнае) галасаванне кандыдатаў» і правесці выбары парторганаў, пачынаючы ад пярвічных партарганізацый і канчаючы ЦК нацкомпартый.

Сакавіцкі пленум ЦК КП(б)Б, абмяркоўваючы рашэнні пленума ЦК ВКП(б), па-большэвіцку раскрытыкаваў недахопы і памылкі ў рабоце партыйных арганізацый Беларусі і абавязаў неадкладна ліквідаваць гэтыя недахопы, строга выконваючы рашэнні пленума і ўказанні таварыша Сталіна, ператварыўшы статут партыі ў непарушную аснову партыйнага жыцця.

Зараз па ўсіх арганізацыях КП(б)Б разгарнулася работа па выбарах кіруючых парторганаў пярвічных і раённых партарганізацый і падрыхтоўка да XVI з'езда КП(б)Б.

Першыя вынікі справаздачна-выбарчых сходаў паказваюць, што не ўсе партарганізацыі і іх кіраўнікі засвоілі рашэнні Пленума і ўказанні ЦК ВКП(б).

Справаздачна-выбарчыя сходы праходзяць часта на нізкім ідэйна-палітычным узроўні, слаба разгортваецца большэвіцкая крытыка і самакрытыка недахопаў і памылак у рабоце парткомаў, парторгаў, гаркомаў, райкомаў партыі і іх кіруючых работнікаў.

Аб гэтым наглядна сведчаць факты.

Пасля справаздачнага дакладу сакратара парткома гомельскай швейнай фабрыкі «Комінтэрн» тав. Вільнера комуністы задалі яму пытанне: «А ці можна крытыкаваць на гэтым сходзе гарком?»

Слаба падрыхтавалася і партарганізацыя Наркамзема БССР. Справаздачна-выбарчы сход прашоў на вельмі нізкім ідэйна-палітычным узроўні. Сапраўдная крытыка і самакрытыка не разгарнуліся. Засталіся не ўскрытымі буйнейшыя недахопы ў рабоце партарганізацыі: засмечанасць апарата Наркамзема класава-варожымі элементамі, факты сямейственасці, падхалімства, заціску крытыкі. Такія «метады» правядзення справаздачна-выбарчых сходаў не мабілізуюць комуністаў, не ўзнімаюць іх рэволюцыйную пільнасць, не садзейнічаюць ліквідацыі палітычнай бесклапотнасці і самасупакоенасці. Кагановіцкі райком партыі адмяніў выбары ў партарганізацыі Наркамзема і прапанаваў правесці новы справаздачна-выбарчы сход на аснове разгорнутай большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, не гледзячы на асобы.

Крытыкай па-сямейнаму на справаздачна-выбарчым сходзе абмежаваліся і партарганізацыі Бешанковіцкага раёна. Моўчкі абойдзены факты грубейшага парушэння рэвалюцыйнай законнасці: няправільнае абкладанне падаткам, незаконныя штрафы, адабранне маемасці ў аднаасобнікаў і інш. Забыліся сказаць пра недахопы ў рабоце райкома і яго сакратароў, што сведчыць аб крытыцы па рангах, падхалімажы і чынапаважанні ў партыйнай арганізацыі Бешанковіцкага раёна.

На нізкім палітычным узроўні, пры слабым разгортванні крытыкі і самакрытыкі, праведзены паасобныя справаздачна-выбарчыя сходы ў Полацкай, Горацкай, Магілеўскай, Лагойскай, Ельскай, Сіроцінскай, Лёзненскай і радзе іншых арганізацый КП(б)Б.

Грубае парушэнне прынцыпаў выбарнасці парторганаў дапушчана і ва Уздзенскім раёне. У пярвічных партарганізацыях райкома партыі, рэдакцыі газеты «Калгаснік Уздзеншчыны», Магільнянскага і Сальбоўскага сельсоветаў, МТС і інш., наперакор прамым указанням ЦК ВКП(б), пры падліку галасоў, апрача выбраных партсходам членаў счотнай камісіі, прысутнічалі прадстаўнікі райкома. У Магільнянскай партарганізацыі справаздача парткома была заслухана на адкрытым партсходзе. Бюро ЦК КП(б)Б адмяніла выбары ў гэтых партарганізацыях і абавязала бюро і сакратара Уздзенскага РК пры правядзенні справаздачна-выбарчых сходаў разгарнуць сапраўдную большэвіцкую крытыку і самакрытыку, строга кіруючыся рашэннямі Пленума і ўказаннямі ЦК ВКП(б).

Факты парушэння пастановы ЦК ВКП(б) аб парадку выбараў парторганаў мелі месца ў Віцебскай, Гомельскай, Горацкай і радзе іншых партарганізацый.

З паданага відаць, што не ўсе партарганізацыі глыбока вывучылі рашэнні Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна.

Таварыш Сталін у сваім заключным слове ўказаў, што замазванне і ўтойванне ад мас недахопаў і памылак—не да твару большэвікам.

«Абавязкам большэвікоў з'яўляецца не замазванне сваіх памылак, не ўвільванне ад пытанняў аб іх памылках, як гэта бывае ў нас часта, а чэснае і адкрытае прызнанне сваіх памылак, чэснае і адкрытае намячэнне шляхоў для выпраўлення гэтых памылак, чэснае і адкрытае выпраўленне сваіх памылак. Бо толькі на гэтым шляху, толькі ў абстаноўцы адкрытай і чэснай самакрытыкі, можна выхаваць сапраўды большэвіцкія кадры» **(Сталін).**

Райкомы, гаркомы і ўсе пярвічныя арганізацыі КП(б)Б абавязаны ўзначаліць разгортванне большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі як на справаздачна-выбарчых сходах і канферэнцыях, так і ў практыцы ўсёй сваёй штодзеннай работы, каб, ліквідаваўшы выяўленыя недахопы, дабіцца далейшага ўздыму ўсёй партыйнай работы.

* * *

У дакладзе і заключным слове таварыша Сталіна і ў рашэннях Пленума ЦК ВКП(б) чотка вызначаны новыя задачы карэннай перабудовы работы ўсіх партыйных арганізацый у поўнай адпаведнасці з паваротам у палітычным жыцці нашай краіны.

Каб правільна зразумець і засвоіць гэтыя задачы, кожны большэвік павінен памятаць, што асновай яго работы з'яўляецца барацьба за аў-

ладанне большэвізмам, за ліквідацыю ўскрытых таварышом Сталіным сур'ёзнейшых недахопаў у партыйнай рабоце. А недахопы гэтыя заключаюцца ў тым, што значная частка партыйных кіраўнікоў, захапіўшыся гаспадарчымі поспехамі і дробнай апекай над совецкімі і гаспадарчымі арганізацыямі, стала адыходзіць ад партыйна-палітычнай работы і большэвіцкага выхавання партыйных і беспартыйных мас.

Забыццё асноў большэвізма, адрыў ад партыйных і беспартыйных мас, захапленне гаспадарчымі пытаннямі развілі палітычную бесклапотнасць у раду кіруючых партыйных, совецкіх і гаспадарчых работнікаў.

> «Справа ў тым,—гаварыў таварыш Сталін у сваім дакладзе,—што нашы партыйныя таварышы, будучы захоплены гаспадарчымі кампаніямі і каласальнымі поспехамі на фронце гаспадарчага будаўніцтва, забылі проста аб некаторых вельмі важных *фактах, аб якіх большэвікі не маюць права забываць.*
>
> ... Яны забылі, што Совецкі Саюз знаходзіцца ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння... Капіталістычнае акружэнне—гэта значыць, што ёсць адна краіна, Совецкі Саюз, якая ўстанавіла ў сябе соцыялістычныя парадкі, апрача таго, многа краін—буржуазныя краіны, якія прадаўжаюць весці капіталістычны вобраз жыцця і якія акружаюць Совецкі Саюз, чакаючы выпадку для таго, каб напасці на яго, разбіць яго або, ва ўсякім выпадку, падарваць яго магутнасць і аслабіць яго».

Многія партыйныя работнікі забываюць аб тым, што агалцелыя фашысты Трэцяй імперыі і іншыя буржуазныя краіны з кожным новым нашым поспехам у соцыялістычным будаўніцтве ўзмацняюць шалёную барацьбу супроць Совецкага Саюза, накіроўваючы шпіёнаў, дыверсантаў, тэрарыстаў для падрыўной работы ўнутры нашай краіны. У гэтых адносінах контррэволюцыйны трацкізм, які, як указаў таварыш Сталін, ужо даўно перастаў быць палітычнай плынню ў рабочым руху, з'яўляецца знаходкай для міжнароднай буржуазіі і фашызма.

Палітычная бесклапотнасць і страта большэвіцкай пільнасці стварылі на паасобных участках спрыяючыя ўмовы для падрыўной, шкодніцкай, контррэволюцыйнай дзейнасці ворагаў партыі і соцыялізма. Трацкісты і іншыя двурушніцкія элементы скарысталі іх для таго, каб пранікнуць у нашы партыйныя арганізацыі, а ў паасобных выпадках—прабрацца на адказную партыйную, совецкую і гаспадарчую работу.

Аб гэтым гаворыць справа трацкісцкага агента контррэволюцыянера Розенблюма (рэдакцыя газеты «Звязда»), трацкісцкіх паследышаў—Жукава і Мілова (Белдзяржвыдавецтва), справа контррэволюцыйнай дыверсійнай групы на Віцебскім чыгуначным вузле і радзе іншых участкаў соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР. За апошні час, дзякуючы большэвіцкай крытыцы і самакрытыцы, што разгарнуліся на справаздачна-выбарчых партсходах, выяўлена засмечанасць контррэволюцыйнымі трацкісцкімі і шпіёнскімі элементамі раду ўстаноў і партарганізацый Быхаўскага, Гомельскага, Віцебскага, Асіпавіцкага, Крычаўскага, Мсціслаўскага, Халопеніцкага і іншых раёнаў БССР.

Чаму гэта магло здарыцца? Таму, што партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі не заўважылі,

> «... што трацкізм перастаў быць палітычнай плынню ў рабочым класе, што з палітычнай плыні ў рабочым класе, якім ён

быў 7—8 год таму назад, трацкізмператварыўся ў агалцелую і беспрынцыпную банду шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў і забойцаў, якія дзейнічаюць па заданнях разведвальных органаў замежных дзяржаў» **(Сталін).**

Таварыш Сталін у сваім дакладзе ясна паказаў, у чым розніца паміж шкоднікамі і дыверсантамі шахцінскай справы і сучаснымі трацкісцкімі бандытамі і іх паплечнікамі з правых адшчапенцаў.

Працэс над удзельнікамі ленінградскага тарарыстычнага цэнтра—забойцамі Сергея Міронавіча Кірава, працэс над трацкісцкаю бандай тэрарыстаў і дыверсантаў з групы Зіноўева—Каменева, працэс над фашысцкай бандай шпіёнаў і забойц з групы Пятакова—Радэка з усёй нагляднасцю ўскрылі прадажны твар фашысцкіх агентаў. Рэстаўрацыя капіталізма, аднаўленне жудасных форм эксплаатацыі, саюз з нямецкім фашызмам і японскім імперыялізмам для паскарэння вайны супроць Совецкага Саюза, тэрытарыяльнае расчляненне СССР ва ўгоду капіталістычным драпежнікам, тэрор, шпіянаж, шкодніцтва, дыверсія для ажыццяўлення сваёй мэты—вось палітычная платформа сучаснага трацкізма.

Тав. Молатаў у сваім артыкуле падрабязна ўказаў на нашы задачы ў барацьбе з трацкісцкімі дыверсантамі, шпіёнамі і іншымі ворагамі соцыялістычнага будаўніцтва:

> «Вораг ідзе на ўсе сродкі барацьбы з соцыялізмам... Мы абавязаны адказаць ударам на ўдар, граміць усюды на сваім шляху атрады гэтых лазутчыкаў і падрыўнікоў з лагеру фашызма».

Задача ўсіх партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў—уважліва вывучыць артыкул тав. Молатава і на аснове рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна мабілізаваць шырокія масы працоўных на хутчэйшую ліквідацыю слядоў шкодніцкай дзейнасці класавых ворагаў, каб забяспечыць яшчэ больш шпаркія тэмпы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Мы ні на хвіліну не можам забываць таго, што знаходзімся ў капіталістычным акружэнні. Таварыш Сталін з выключнаю сілай папярэдзіў усю нашу партыю, усіх працоўных, што капіталістычныя краіны засылалі і ў далейшым будуць імкнуцца засылаць у Совецкі Саюз сваіх шпіёнаў, дыверсантаў, тэрарыстаў для контррэволюцыйнай падрыўной работы.

Асаблівую пільнасць да прошукаў агентаў замежных дзяржаў абавязаны праяўляць арганізацыі КП(б)Б, якія працуюць на мяжы з капіталістычным Захадам. Доўг і абавязак усіх большэвікоў—партыйных і беспартыйных—ператварыць БССР у непрыступны фарпост СССР на яго заходніх граніцах. Уменне своечасова распазнаць і выкрыць ворага, у якую-б вопратку ён ні апрануўся—пярвейшы абавязак кожнага комуніста.

* * *

Буйнейшыя недахопы ў партыйнай рабоце раду арганізацый КП(б)Б, адрыў кіраўнікоў ад партыйных і беспартыйных мас, страта густу да партыйнай работы, да большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі прывялі да грубага парушэння рэволюцыйнай законнасці. Аб гэтым гаворыць справа кіраўнікоў партыйных і совецкіх арганізацый Лепеля

і яго акругі, якія адарваліся ад масы, забыўшы неаднаразовыя ўказанні і папярэджанні ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна аб тым, што не камандваннем і адміністраваннем, а штодзеннай глыбокай палітычнай работай трэба перавыхоўваць шырокія масы працоўных у свядомых барацьбітоў за справу комунізма.

Усе партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі абавязаны зрабіць з лепельскай справы сур'ёзныя вывады, каб з коранем вырваць нягодную практыку і ў сваёй рабоце. А трэба сказаць, што факты парушэння рэволюцыйнай законнасці за апошні час выяўлены ў Багушэўскім, Жлобінскім, Добрушскім, Уварравіцкім, Петрыкаўскім, Бешанковіцкім, Халопеніцкім і ў радзе іншых раёнаў рэспублікі.

Задача партыйных, совецкіх арганізацый і іх кіраўнікоў—весці бязлітасную барацьбу з парушэннем рэволюцыйнай законнасці і строга захоўваць Сталінскую Канстытуцыю.

* * *

Ускрываючы адмоўныя бакі ў рабоце партыйных арганізацый, іх празмернае захапленне гаспадарчымі дробязямі, падмену совецкіх органаў, таварыш Сталін адначасова папярэдзіў іх аб недапушчальнасці і другой крайнасці.

Таварыш Сталін указаў, што нельга шарахацца ад адной крайнасці да другой, нельга адыходзіць ад гаспадаркі таксама, як нельга адыходзіць і ад палітыкі, бо

> «... той, хто думае ў нашай практычнай палітыцы аддзяліць гаспадарку ад палітыкі, узмацніць гаспадарчую работу цаной умалення палітычнай работы, ці, наадварот, узмацніць палітычную работу цаной умалення гаспадарчай работы,—той абавязкова пападае ў тупік».

Палітычную работу трэба ўмела спалучаць з гаспадарчай, не дапускаючы абязлічвання гаспадарчых органаў, сістэматычна ўзмацняючы іх большэвіцкі вытрыманымі кадрамі, кіруючы паасобнымі ўчасткамі гаспадарчага будаўніцтва і работай совецкіх органаў «не паміма гэтых органаў, а праз іх» **(Сталін).**

Аснова партыйна-палітычнай работы—аўладанне большэвізмам, большэвіцкая загартоўка і выхаванне партыйных, совецкіх і гаспадарчых кадраў.

Змагаючыся з палітычнай бесклапотнасцю, благадушшам і сляпым давер'ем, трэба правяраць людзей не па іх палітычнай дэкларацыі, славеснай балбатні і бахвальстве, а па фактычных выніках работы, правяраць не толькі зверху, а і знізу.

Нельга падбіраць і вырошчваць кадры на аснове дзяляцкага, абывацельска-мяшчанскага падыходу да іх, як гэта нярэдка практыкуюць кіраўнікі нашых партарганізацый.

Таварыш Сталін вучыць нас:

> «Што значыць—правільна падбіраць работнікаў і правільна расстаўляць іх на рабоце?
>
> Гэта значыць падбіраць работнікаў, па-першае, па палітычнай адзнацы, г. зн. ці заслугоўваюць яны палітычнага давер'я, і, па-другое, па дзелавой адзнацы, г. зн. ці прыгодны яны для такой-то канкрэтнай работы».

Побач з правільным падборам і расстаноўкаю наяўных кадраў на ўсіх участках нашай партыйнай работы і савецка-гаспадарчага будаўніцтва, важнейшай задачай партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў з'яўляецца падрыхтоўка і вылучэнне новых кадраў з гушчы партыйнай масы. Выхоўваць і вылучаць кадры, уцягваючы іх у актыўную партыйную работу, практычна дапамагаючы ім у павышэнні іх ідэйна-палітычнага ўзроўню. Выхоўваць вытрыманых большэвікоў на іх уласных памылках, своечасова ўскрываючы гэтыя памылкі і ўказваючы шляхі іх выпраўлення. Не замазваць памылкі, не ўтойваць іх ад партыйнай масы, а па-большэвіцку адкрыта прызнаваць і чэсна выпраўляць іх. Не толькі вучыць масы, але і вучыцца ў мас. Пры дапамозе мас выяўляць слабыя і хворыя бакі нашай работы. Так вучыць нас таварыш Сталін.

> «Сувязь з масамі, умацаванне гэтай сувязі, гатоўнасць прыслухоўвацца да голасу мас,—вось у чым сіла і непераможнасць большэвіцкага кіраўніцтва» **(Сталін).**

Пры цеснай сувязі з партыйнымі масамі, рабочым класам, калгасным сялянствам і ўсімі працоўнымі, прыслухоўваючыся да іх голасу і сігналаў, мы здолеем у найкарацейшы тэрмін выявіць і ліквідаваць недахопы ў нашай рабоце, забяспечыць большэвіцкае выхаванне кадраў для розных участкаў партыйнай, савецкай і гаспадарчай работы.

Правільнае выхаванне кадраў патрабуе ўважлівага падыходу да кожнага комуніста, да кожнага работніка.

Тым часам, у практыцы паасобных арганізацый КП(б)Б наглядаюцца бяздушна-бюракратычныя адносіны да комуніста. Замест індывідуальнага падыходу, дзейнічаюць наўздагад. Самастрахоўка пры разглядзе памылак комуніста прыводзіць у радзе выпадкаў да неабгрунтаванага выключэння з партыі.

На практыцы нашы партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі падыходзяць да комуністаў так, што

> «... або хваляць іх агулам без меры, або збіваюць іх таксама агулам і без меры, выключаюць з партыі тысячамі і дзесяткамі тысяч... Так могуць падыходзіць да членаў партыі толькі людзі, па сутнасці справы глыбока антыпартыйныя» **(Сталін).**

Агульны, фармальна-бюракратычны падыход да членаў і кандыдатаў, факты неабгрунтаванага выключэння з партыі мелі месца ў радзе арганізацый КП(б)Б. За другое паўгоддзе 1936 г. у Парткалегію пры ўпаўнаважаным КПК ЦК ВКП(б) па БССР паступіла 153 хадайніцтвы аб зняцці партспагнанняў і аднаўленні ў партыі. Пасля дэталёвага разбору Парткалегія задаволіла 149 хадайніцтваў.

Таварыш Сталін рэзка асудзіў няправільны падыход да выключэння з партыі так званых пасіўных і даў вычарпальна яснае ленінскае тлумачэнне аб членстве. Задача партарганізацый і іх кіраўнікоў— праявіць максімум клопатаў да выхавання кожнага комуніста, павышэння яго палітычна-тэарэтычнага ўзроўню, ідэалагічнай загартоўкі, рэволюцыйнай пільнасці.

Партыя заўсёды, нават у гады цяжкага падполля пры царызме, надавала агромнае значэнне палітычна-ідэалагічнаму выхаванню, павышэнню тэарэтычнага ўзроўню сваіх членаў.

У краіне перамогшага соцыялізма партыя і яе ленінска-сталінскі Цэнтральны Камітэт стварылі ўсе ўмовы для выхавання сваіх членаў у бясстрашных барацьбітоў за справу соцыялізма і комунізма. Мы

маем сотні і тысячы вышэйшых і сярэдніх партыйна-палітычных навучальных устаноў, школ, гурткоў, радыё-аўдыторый, партыйных кабінетаў і мноства іншых форм партыйнай вучобы. Кожны комуніст мае магчымасць павышаць свой палітычна-тэарэтычны ўзровень. Справа толькі за партыйнымі арганізацыямі і іх кіраўнікамі. Іх абавязак— добра арганізаваць і наладзіць бесперапынную вучобу.

Рашэнні Пленума ЦК ВКП(б), даклад і заключнае слова таварыша Сталіна з'яўляюцца баявою праграмай барацьбы кожнай партыйнай арганізацыі, кожнага комуніста за далейшыя перамогі соцыялізма, за перамогу комунізма.

---

**В. Молатаў**

# Урокі шкодніцтва, дыверсіі і шпіянажу япона-нямецка-трацкісцкіх агентаў *

## I. Факты шкодніцтва і твар шкоднікаў

У мінулым годзе наша прамысловасць перавыканала свае заданні. Цяжкая прамысловасць перавыконвала свой вытворчы план не толькі ў мінулым годзе, але за апошнія тры гады. Вядома таксама, што цяжкая прамысловасць, не гледзячы на дыверсійна-шкодніцкую работу трацкісцка-фашысцкіх агентаў, не толькі выканала першую пяцігодку ў чатыры з чвэрцю гады, але што яна ўжо зусім блізка да выканання плана другой пяцігодкі (ў 1936 годзе выканана 98,3 проц. ад праграмы апошняга года другой пяцігодкі). І ўсё-ж у сучасны момант мы павінны сканцэнтраваць выключна сур'ёзную ўвагу на пытаннях ліквідацыі вынікаў шкодніцтва, дыверсій і шпіянажу япона-нямецка-трацкісцкіх агентаў у нашай прамысловасці, якія нанеслі немалыя страты народнай гаспадарцы.

Шкодніцтву і дыверсіям у цяжкай прамысловасці, як і на чыгуначным транспарце, трацкісцкая і замежная шпіёнская агентура надавала вялікае значэнне. І гэта зразумела. Вораг імкнуўся біць па найбольш важных і адчувальных для народнай гаспадаркі і абароны месцах.

Мы яшчэ не ведаем усіх фактаў, якія адносяцца да шкодніцка-дыверсійнай дзейнасці трацкісцкіх і іншых агентаў у цяжкай прамысловасці і ў іншых частках нашага дзяржапарата. Але і таго, што мы ведаем, дастаткова, каб гаварыць аб сур'ёзнай страце, нанесенай імі народнай гаспадарцы і ў прыватнасці цяжкай прамысловасці.

Гаворачы аб шкодніцкай бандзе ў Наркомцяжпроме, перш за ўсё, прыходзіцца спыніцца на Пятакове. Пятакоў, былы намеснік наркомцяжпрома, прапрацаваў у цяжкай прамысловасці звыш дванаццаці год з невялікімі перапынкамі. Ён меў нямала сваіх людзей у апараце Наркомцяжпрома. Ён быў галоўным арганізатарам шкодніцка-дыверсійнай работы злачыннай шайкі ў цяжкай прамысловасці.

Вось што паказваў Пятакоў аб гэтай рабоце:

> «Маё службовае становішча—нам. Наркомцяжпрома—давала мне больш магчымасцей сваю контррэвалюцыйную работу будаваць у першую чаргу па лініі выканання дырэктыў Троцкага аб шкодніцтве ў народнай гаспадарцы.

* Гэты артыкул узнаўляе, з невялікімі зменамі, мой даклад на апошнім Пленуме ЦК ВКП(б).—*В. М.*

> Па гэтай лініі ў мяне складаліся і асабістыя сувязі з патрэбнымі людзьмі.
>
> Я будаваў таму сваю работу, выходзячы з наступных прынцыпаў:
>
> 1) Я падбіраў сабе людзей з трацкістаў, буйных гаспадарнікаў. Вылучаў іх, накіроўваў на самастойную работу ў адпаведныя прамысловыя цэнтры або ў Маскве, на кіруючую работу.
>
> 2) Гэтым людзям я даваў заданні (вядома, уводзіў іх у курс дырэктыў Троцкага) па самастойнаму падбору сабе іншых людзей (не толькі трацкістаў) і весці лінію на зрыў работы на іх участках.
>
> 3) Я рэкамендаваў сваім людзям (і сам гэта рабіў) не распыляцца ў сваёй шкодніцкай рабоце. Канцэнтраваць сваю ўвагу на асноўных буйных аб'ектах прамысловасці, якія маюць абароннае і агульнасаюзнае значэнне.
>
> У гэтым пункце я дзейнічаў па дырэктыве Троцкага: наносіць адчувальныя ўдары ў найбольш адчувальных месцах».

Такава ўстаноўка галоўнага кіраўніка шкодніцтва і дыверсій у Наркомцяжпроме. Ён меў заданне Троцкага біць соцыялістычную гаспадарку па найбольш адчувальных месцах і рабіў гэта з цынізмам агалцелага злачынцы, які ні перад чым не спыняецца. Нельга не прызнаць, што ў словах Пятакова наконт яго шырокіх магчымасцей шкодніцтва ў апараце цяжкай прамысловасці многа праўды. Дапусціўшы гэта, мы зрабілі вялікую памылку. З гэтага мы павінны вынесці сур'ёзны ўрок на будучае.

Шкоднікі, дыверсанты і шпіёны з трацкісцкай банды і замежнай агентуры, маючы на кіруючым пасту ў Наркомцяжпроме свайго чалавека, атрымлівалі вялікія магчымасці расставіць сваіх людзей у главках, у трэстах і ў прадпрыемствах. Ужо цяпер выкрыта не адна сотня гаспадарчых кіраўнікоў, меўшых партбілет, а таксама «беспартыйных» інжынераў і тэхнікаў, займаўшых адказнейшыя пасты ва ўстановах Наркомцяжпрома, якія на працягу раду год вялі тут злачынную, шкодніцкую работу. Трэба пажадаць, каб нам удалося як найхутчэй і да канца вытравіць з прамысловасці ўсе адгалінаванні гэтай злачыннай банды.

Перайду да паасобных галін цяжкай прамысловасці. Пачну з хіміі. Прывяду, перш за ўсё, паказанні таго-ж Пятакова:

> «У хімічнай і кокса-хімічнай прамысловасці была праведзена наступная шкодніцкая і дыверсійная работа:
>
> 1) Быў складзен, прадстаўлен і аформлен такі план развіцця ваеннай хіміі, які на справе прыводзіў да распылення і амярцвення сродкаў і зацяжкі тэрмінаў уводу ў эксплаатацыю патрэбных аб'ектаў.
>
> 2) У галіне азотнай прамысловасці зацягвалася будаўніцтва новых аб'ектаў, галоўным чынам шляхам сістэматычных і працяглых пераробак іх праектаў.
>
> 3) У серна-кіслотнай прамысловасці зрываліся сапраўдныя магутнасці шляхам паніжэння эксплаатацыйных каэфіцыентаў.
>
> 4) У содавай прамысловасці затрымлівалася развіццё магутнасці, дзякуючы чаму сода, якую маглі вырабляць у СССР у зусім неабмежаванай колькасці, увесь час з'яўляецца вострадэфіцытным прадуктам. Паміма гэтага, не прапускалася стварэнне новых содавых цэнтраў на базе адпаведных крыніц сыра-

віны (напрыклад, на базе адкідаў калійнай прамысловасці, або на базе ўсольскіх (Усходняя Сібір) саляных крыніц).

Такавы асноўныя факты шкодніцкай работы ў хімічнай і кокса-хімічнай прамысловасці, якую па маіх заданнях праводзіў Ратайчак».

Пятакову, вядома, нельга верыць, што ён сказаў усё, што ведаў аб шкодніцтве ў хімічнай або іншай прамысловасці. Наадварот, можна быць упэўненым у тым, што ён сказаў далёка не ўсё, што ён ведаў і мог ускрыць па шкодніцка-дыверсійнай частцы.

Дапоўнім гэтыя паказанні паказаннямі Дробніса наконт кемераўскага хімічнага камбіната. Дробніс паказваў:

«Занадта многа мы шкодзілі і разбуралі. Мне цяжка будзе гаварыць аб паасобных дэталях, але аб асноўнай нашай лініі ў падрыўной рабоце і застаўшыхся ў мяне ў памяці больш буйных актах разбурэнняў я раскажу.

Разбуральнай работай, якая праводзілася мною, Норкіным— нач. Кемераўскага хімкамбіната і Карцэвым—нам. нач. хімкамбіната па тэхнічнай частцы, пачынаючы з 1935 года і да моманту майго арышту, былі ахоплены Коксахімзавод, Азотна-тукавы завод, ЦЭЦ і жыллёвае будаўніцтва.

1. На працягу першай паловы 1935 г. наша разбуральная работа зводзілася да таго, каб усямерна перашкодзіць уводу ў тэрмін у эксплаатацыю раду прадпрыемстваў на правабярэжным будаўніцтве, г. зн. будаўніцтве спецыяльнай хіміі, якое мае абароннае значэнне.

З гэтай мэтай мы свядома затрымлівалі праектаванне электрастанцыі. Гэту работу, прадугледжаную нашым планам, праводзіў галоўным чынам Карцэў—праз праектуючыя арганізацыі ў Маскве і Ленінградзе.

2. Намі затрымлівалася праектаванне і па цэламу раду аб'ектаў спецыяльнай хіміі.

3. На аб'ектах спецыяльнай хіміі была праароблена такая падрыўная работа, што па першапачатковых праектах былі закладзены фундаменты раду будынкаў, нумары гэтых будынкаў я зараз не памятаю, але потым праекты былі забракаваны, і фундаменты гэтых будынкаў прышлося разбіраць. На адным з будынкаў былі ўзведзены нават сцены, якія потым былі разабраны.

4. З тых-жа меркаванняў разбуральнай работы Карцэў, з нашага ведама, у бытнасць яго ў Маскве ў 1935 г., забракаваў праект па галоўнаму будынку Азотбуда, а потым праз месяцы два мы былі вымушаны пачаць работу па гэтаму праекту.

5. У другой палове 1936 г. намі быў арганізован рад аварый. З найбольш буйных з'яўляліся аварыі на амселітры і мантанселітры».

Адзначу, далей, паказанні тэхнічнага дырэктара Горлаўскага азотна-тукавага камбіната шкодніка Асіноўскага. Ён гаварыў:

«Па Горлаўскаму Азотна-тукаваму заводу контррэвалюцыйнай арганізацыяй праведзены наступныя дыверсійныя акты:

1) Прыблізна ў красавіку месяцы 1934 года выведзена са строю аддзяленне нейтралізацыі цэха амселітры шляхам арганізацыі ўзрыву аміякапровада. Пры ўзрыве былі чалавечыя афяры. У рэзультаце ўзрыву цэх прастаяў сем дзён. Аб тым, што дадзены



ўзрыў быў праведзен контррэвалюцыйнай арганізацыяй, мне гаварыў Тамм пасля прыцягнення мяне ў арганізацыю.

2) У кастрычніку 1934 года арганізацыяй ажыццёўлен узрыў двух коксавых кампрэсараў. У рэзультаце завод быў спынены на дзве гадзіны. Са слоў Тамма, гэты дыверсійны акт быў праведзен Халезавым праз прыцягнутых ім новых членаў контррэвалюцыйнай арганізацыі. Прозвішчы гэтых асоб мне Тамм не назваў.

3) У канцы лістапада 1934 года контррэвалюцыйнай арганізацыяй праведзен абвал надземнага коксавага газаправода. Са слоў Тамма, гэты абвал быў арганізован членам арганізацыі Халезавым. Іншых удзельнікаў гэтага дыверсійнага акта Тамм мне не назваў.

4) У студзені 1935 года быў праведзен узрыў меланжавага калектара. У рэзультаце ўзрыву завод быў спынены на трое сутак. Са слоў Тамма, узрыў быў арганізован таксама Халезавым.

5) 11 лістапада 1935 года Халезавым і Крушэльніцкім быў арганізован узрыў паветраных кабін у аміячным цэху. У рэзультаце ўзрыву завод стаяў тры тыдні. Адбудоўчыя работы абыйшліся, прыкладна, паўтара—два мільёны рублёў».

На працягу раду год, з месяца ў месяц групы шкоднікаў і дыверсантаў, сядзеўшых на баявых участках нашай прамысловасці, рабілі сваю злачынную справу, усё больш наглеючы ад сваёй беспакаранасці. Мы не можам пры гэтым забываць аб тым, што гэтыя злачынствы былі толькі падрыхтоўкай, толькі пробай сіл у адносінах больш буйных і небяспечных для нашай краіны ўдараў у далейшым. Па заданнях Троцкага—Пятакова, шкоднікі, дыверсанты і шпіёны з іх кампаніі рыхтавалі нанясенне галоўных удараў к пачатку вайны. Калі-б дыверсійна-шкодніцкія шайкі япона-нямецка-трацкісцкіх агентаў засталіся не выкрытымі да гэтага моманту, то ў пачатку вайны мы сустрэліся-б з вялікімі цяжкасцямі пры выкананні раду баявых і гаспадарчых задач.

Возьмем другую галіну прамысловасці—вугаль. Тут таксама ўзмоцнена арудавала злачынная шайка шкоднікаў. Вось што паказваў вядомы Шэстоў у адносінах Кузбаса:

«Разбуральная работа была разгорнута ў напрамку:

1. Наўмыснага замаруджвання тэмпаў новага шахтнага будаўніцтва і рэканструкцыйных работ па старых шахтах.

2. Арганізацыя будаўніцтва новых шахт з разлікам на неадначасовае сканчэнне работ па важнейшых аб'ектах з задачай адцягнуць пачатак эксплаатацыі шахт на поўныя праектныя магутнасці.

3. Вядзенне сістэм эксплаатацыі магутных пластоў, пры якіх ствараліся найвялікшыя страты вугалю, з разлікам на ўзнікненне падземных пажараў, выводзячых са строю паасобныя месцараджэнні вугалю.

4. Зрыў падрыхтоўкі новых гарызонтаў і палёў, неабходных для разгортвання вуглездабычы ў адпаведнасці з планавымі заданнямі.

5. Штучнае стварэнне разрыву паміж падрыхтоўчымі і ачышчальнымі работамі з мэтай сарваць выкананне плана вуглездабычы.

6. Масавае папсаванне механізмаў, разлічанае на зрыў вуглездабычы.

7. Зрыў правільнай арганізацыі працы і процідзеянне разгортванню стаханаўскага руху ў апошні час.

Гэта асноўныя падрыўныя мерапрыемствы, якія праводзіліся па вугальных раёнах, дзе ўдзельнікамі арганізацыі была разгорнута разбуральная работа».

Цяпер Шэстоў расстрэлен і шкодзіць больш не можа. Але, чытаючы яго паказанні аб шкодніцкай падрыўнай рабоце, якая праводзілася ім з вялікім размахам ў вугальнай прамысловасці, мы не павінны забываць, што справа ідзе аб фактах усяго толькі ўчарашняга дня, што яшчэ ўчора многія з нашых таварышоў, на вачах якіх арудаваў Шэстоў са сваёй шайкай, не заўважалі яго злачынстваў. Хіба гэта не павінна служыць сур'ёзнаю перасцярогай нашым гаспадарнікам, ды і не толькі гаспадарнікам.

У вугальнай прамысловасці Кузбаса шкоднікі надавалі вялікае значэнне распаўсюджанню падземных пажараў. Па гэтаму поваду Шэстоў паказваў:

«Асноўным падрыўным мерапрыемствам па Пракоп'еўску, якое дало найбольшы эфект, з'явілася агульнае, без уліку асаблівасцей пластоў, вядзенне камерна-слупавой сістэмы, без выемкі міжкамерных цэлікаў і без закладкі выпрацаванай прасторы.

Гэтым мерапрыемствам побач са значнымі стратамі вугалю, якія дасягалі не менш 50 проц. пры дапусцімых 15—20 проц., былі выкліканы шматлікія падземныя пажары, не ліквідаваныя да апошняга часу. Пажары не далі і не даюць магчымасці эксплатаваць ніжнія гарызонты без рыску далейшага распаўсюджання пажараў і магчымасці вялікіх узрываў».

Шэстоў прыводзіў прыклад шкодніцтва і ў шахтным будаўніцтве:

«Чатыры буйныя ствалы шахты 7/8 у 1932 годзе былі закладзены на базе вельмі нездавальняюча разведаных пластоў. Гэтыя шахты можна было закласці на больш надзейных і лепшых месцанараджэннях».

Той-жа Шэстоў паказваў, як праводзіліся іншыя віды шкодніцтва ў вугальнай прамысловасці:

«Разбуральныя ўдары ў Анжэрцы накіроўваліся і на эксплаатацыйныя работы, дасягалася такое становішча, што руднік не выходзіў з прарыву.

Перш за ўсё эксплаатацыя механізмаў вялася так, што стваралася выключна вялікая аварыйнасць. Руднік механізаваны і гэта моцна адбівалася на вуглездабычы.

На работы з механізмамі дапускаліся зусім некваліфікаваныя рабочыя. Падрыхтоўка кадраў не вялася. Калі брыгадзіры адмаўляліся прымаць некваліфікаваных рабочых, то іх білі за тое, што яны не хочуць рыхтаваць кадры на-хаду».

Спынюся, далей, на такой важнай для абароны прамысловасці, як каляровая металургія. Аб тым, што Пятакоў быў асабліва блізкі да каляровай металургіі і прылажыў да яе сваю шкодніцкую руку, шырока вядома.

Вось што паказаў Пятакоў аб шкодніцтве ў меднай прамысловасці на Урале, куды ён сам не раз выязджаў:

«Маючы на ўвазе велізарнае народна-гаспадарчае і абароннае значэнне меднай прамысловасці Урала, шкодніцтва і было накіравана ў гэты бок.

Перш за ўсё, справа ішла аб затрымцы выплаўкі медзі дзеючымі заводамі. Мне цяжка сказаць, як гэта работа праводзілася па асобных заводах, але факт той, што ў рэзультаце шкодніцкай дзейнасці трацкісцкай групы найбольш магутны з трох уральскіх заводаў—Краснауральскі ўвесь час меў надта нізкія якасныя паказчыкі. Карабашскі завод па тых-жа прычынах працаваў з пастаяннымі зрывамі. На Кіраваградскім заводзе шкодніцтва закранула ў першую чаргу абагачальную фабрыку, і ўсе тры заводы далёка не давалі той колькасці медзі, якую яны могуць даваць.

Асабліва моцна шкодніцтва было разгорнута на новабудуючымся вялікім медным заводзе на Урале—на Срэдуралмедзьбудзе.

Перш за ўсё будаўніцтва гэтага завода намі ўсяляк тармазілася. Будаўніцтва, пачатае яшчэ ў 1932 г., к пачатку 1935 г. практычна не існавала, знаходзячыся ў поўным развале.

На будоўлі яшчэ Юлін на ўсіх участках насадзіў трацкістаў, якія, кожны на сваім участку, пад кіраўніцтвам Юліна зрывалі работу.

Калі я ў пачатку 1935 г. быў на будоўлі, то ўбачыў, што шкодніцтва ішло настолькі груба, што яно кідалася ў вочы, нават пры самым павярхоўным нагляданні. Я быў гэтым вельмі занепакоен і ўказаў Жарыкаву, што так рабіць нельга. Я прапанаваў яму знешне падцягнуць будоўлю і трымаць сябе асцярожней. У гэтых мэтах мы з Жарыкавым прынялі тады больш замаскаваныя метады шкодніцтва. Мы ўмовіліся, што ён «праявіць энергію», падцягне будоўлю, пачне будаўніцтва якіх-небудзь аб'ектаў, але з такім разлікам, каб медзі ўсё-ж не было.

Апрача таго, улічваючы ствaрыўшаеся напружанае становішча з меднай рудой на Урале, мы рашылі яшчэ больш адцягнуць работу на Дзегцярынскіх рудніках (рудная база Срэдуралмедзьбуда). Іменна ў гэтых мэтах у маі 1935 года я загадам аддзяліў рудную базу ад будаўніцтва завода і перадаў яе Уралмедзьрудзе. Пры гэтым мелася на ўвазе, што сродкі, адпускаемыя на Дзегцярынскія руднікі, будуць распыляцца ў вялікай гаспадарцы Уралмедзьруды, і Дзегцярынскія руднікі стануць тормазам работы Срэдуралмедзьбуда, нават пасля фармальнага ўводу яго ў эксплаатацыю.

У гэтых-жа мэтах ішла і ўрэзка асігнаванняў па лініі руднай базы. Гэта ўдавалася пратаскваць мне асабіста, праз апарат Наркомцяжпрома.

Апрача таго, па лініі Срэдуралмедзьбуда праведзена яшчэ адно вельмі сур'ёзнае шкодніцтва.

Я маю на ўвазе поўную адсутнасць будаўніцтва хімічнай часткі камбіната, якое мы наўмысна адсоўвалі.

Справа ў тым, што завод гэты можа быць эканамічна выгадным толькі ў камбінацыі з хімічным заводам. Так Срэдуралмедзьбуд і задуман. Дзегцярынскія руды—руды, вельмі бедныя

меддзю (каля 1 проц.). І калі сера, якая змяшчаецца ў іх, не будзе выкарыстана хімічным заводам, то 1) гэта надзвычай падарожыць медзь; 2) серныя газы меднага завода будуць атручваць навакольную мясцовасць.

Іменна таму Срэдуралмедзьбуд павінен быў будавацца, як камбінаванае прадпрыемства. Мы-ж яго ў шкодніцкіх мэтах раскамбінавалі. Хімічную частку перадалі Галоўхімпрому, дзе Ратайчак яе і замарозіў. У рэзультаце будуецца (і то шкодніцкі) толькі медная частка, а да будаўніцтва хімічнай часткі нават і не прыступалі».

Гэтыя паказанні Пятакова дапоўніў былы старшы інжынер-канструктар трэста Уралмедзьруда, шкоднік Пучкоў. Ён паказваў:

«Контррэволюцыйная дзейнасць контррэволюцыйнай арганізацыі ў меднай прамысловасці праводзілася ў напрамку:

па-першае, наўмыснага стварэння на рудніках падземных пажараў;

па-другое, тармажэння развіцця здабычы руды, шляхам наўмыснай затрымкі капітальнага будаўніцтва (пры ўпаўне дастатковых асігнаваннях) і затрымкі праектавання;

па-трэцяе, у прымяненні заведама непрыгодных праектаў».

Далей Пучкоў пералічыў канкрэтныя факты шкодніцтва:

«Неаднаразова бываўшыя на рудніку Арыстаў і Берман таксама ведалі, што ў месцах старых работ наглядаецца саграванне (павышэнне тэмпературы), але мер для ахаладжання гэтага ўчастка наўмысна не прымалі.

У рэзультаце ад самаўзгарання сернага калчадана 25/VI 1935 г. на рудніку ўзнік буйны падземны пажар.

Наўмыснае непрынянцце Берманам якіх-небудзь папераджальных мер (перамычак, затвораў) адразу-ж прывяло да таго, што ад гарэння сернага калчадана газы хутка распаўсюдзіліся па ўсіх забоях не толькі шахты Кампанейскай, але і шахтах Цэнтральнай і Комінтэрн, прыпыніўшы здабычныя падрыхтоўчыя работы па ўсіх шахтах з 25 чэрвеня па 26 верасня 1935 года.

Пажарам прычынена страта дзяржаве звыш 1.500.000 руб., недадана руды медзеплавільным заводам звыш 80.000 тон.

Вывад са строю шахт настолькі цяжка адбіўся на вытворча-эканамічным становішчы рудакіраўніцтва, што яно аказалася няздольным ліквідаваць пажар сваімі сродкамі. Наркомцяжпромам, для ліквідацыі пажару, асігнавана Краснагвардзейскаму рудніку адзін мільён рублёў.

У тых-жа дыверсійных мэтах і па прамому ўказанню Арыстава, Берман і Гайдэраў не толькі наўмысна не прынялі мер да папярэджання пажару, але і не склалі нават плана проціпажарных мерапрыемстваў.

Падземны пажар на Краснагвардзейскім рудніку працягваецца да гэтага часу.

Ужо пасля ўзнікнення пажару Арыстаў наўмысна правальваў дзейсныя мерапрыемствы па ліквідацыі пажару...

Хачу заявіць следству, што ў пагражаючым пажарным становішчы знаходзіцца і рад іншых руднікоў, таксама ў рэзультаце наўмысных дзеянняў Арыстава.

Я маю на ўвазе меўшыя месца падземныя пажары на Н. Левінскім рудніку і рудніку III Інтэрнацыянала.

Пад пагрозай пажарнай небяспекі знаходзіцца і Дзегцярынскі руднік...

Таўбе штучна падтасаваў праект рудапад'ёмкі Ольхаўскай шахты (руднік III Інтэрнацыянала), непрыгодны для шахты Кушайкі.

На гэтым тыповым праекце Ольхаўскай шахты было рукою невядомай асобы (калі я быў у камандзіроўцы ў Маскве) надпісана: «Прыняць для Кушайкі».

Аўтара гэтага надпісу я не мог устанавіць, але Таўбе ведае гэту асобу, бо гэты праект ён зацвердзіў.

Аб тым, што запраектаванне недастатковай вышыні копра шахты Кушайкі небяспечна для жыцця рабочых, я хачу ўказаць на выпікі праектоўкі такога-ж копра на шахце № 2 Лівіхінскага рудакіраўніцтва.

У красавіку месяцы 1936 г. на гэтай шахце абарвалася клець, іменна ў выніку перапад'ёму клеці пры недастатковай вышыні копра. Пры гэтай аварыі забіла двух рабочых».

Ці не ясна пасля гэтага, што ў адносінах меднай прамысловасці, да быстрага ўздыму якой мы асабліва імкнуліся ў інтарэсах забеспячэння патрэб абароны, мы дапусцілі і сур'ёзныя ўпушчэнні, прадаставіўшы занадта многа волі ворагам. Ці не ясна на прыкладзе меднай прамысловасці, што калі-б мы—і перш за ўсё Наркомцяжпром і уральскія арганізацыі—былі ўважлівей да абураючых бясчынстваў, якія тварыліся тут, мы значна раней ускрылі-б шкодніцтва і значна раней расправіліся-б са злачыннаю шайкай Пятакова. Тады мы напэўна здолелі-б рухаць наперад здабычу медзі значна быстрэй, чым гэта было.

Або возьмем такі прыклад, як шкодніцтва ў гумовай прамысловасці. Варта было нам праявіць своечасова крыху больш пільнасці ў адносінах падазроных спраў Біткера і К°, і мы папярэдзілі-б рад прама вызываючых шкодніцкіх актаў з боку гэтай цёмнай кампаніі.

Летам мінулага года ўсім нам кінуўся ў вочы факт зусім ненармальнага становішча з пакрышкамі для аўтамашын. На месцах асабліва моцна гэта адчувалася. Цяпер мы маем паказанні Біткера, дзе сказана наступнае:

«У рэзультаце падрыўной работы групы (на Яраслаўскім гумова-асбеставым камбінаце) на працягу мая—чэрвеня месяцаў 1936 г. выпушчана каля 200.000 дэфектных шын. Было гэта зроблена так—група ўвяла свой уласны рэцэпт і без праверкі, якая звычайна практыкуецца, на 1000—2000 шын па гэтаму рэцэпту была адразу пушчана серыйная вытворчасць, і завод на працягу больш 2-х месяцаў (з 11 мая па 21 ліпеня) выпускаў суцэльную бракаваную прадукцыю. У той-жа час быў ігнараваны рацэпт ВА, распрацаваны НІРП'ам, які пры іспытах даў станоўчыя рэзультаты і прадугледжваў вялікі процант укаранення СК.

Гэта шкодніцкая работа ў галіне якасці шын з'яўляецца часткай той шкодніцкай лініі, якую я праводзіў у галіне вырашэння адной з важнейшых гаспадарчых задач—асваення сінтэтычнага каўчука».

Няцяжка зразумець, што зрываючы вытворчасць аўтапакрышак, шкодніцкая шайка Біткера імкнулася нанесці ўдар уборачнай кампа-

ніі калгасаў і соўгасаў, а разам з тым і раду іншых нашых важнейшых мерапрыемстваў.

Нават па гэтых урыўкавых паказаннях шкоднікаў відаць, як разнастайны спосабы шкодніцка-дыверсійнай работы нашых ворагаў і як многа дзір у кіраўніцтве нашых гаспадарчых органаў, у якія пралазяць ворагі, наносячы нам удары. Толькі абывательскай бесклапотнасцю і палітычнай блізарукасцю можна вытлумачыць тое, што многія гаспадарчыя кіраўнікі з дня ў дзень праходзілі і праходзяць міма абураючых шкодніцкіх спраў. Нават у нямногіх прыведзеных вытрымках з паказанняў шкоднікаў можна знайсці нямала павучальных прыкладаў, на якіх мы павінны вучыцца выяўляць і папярэджваць шкодніцка-дыверсійныя акты.

Шкоднікі не маглі не быць злейшымі ворагамі стаханаўскага руху. І яны сапраўды вялі гнусную барацьбу супроць стаханаўцаў, супроць стаханаўскага руху.

Прывяду два паказанні па гэтаму поваду.

Першае—паказанне Дробніса. Вось яго словы:

«Пад выглядам нібы шырокага разгортвання стаханаўскага руху мы свядома дыскрэдытавалі гэты рух. Для гэтага мы не стваралі неабходных умоў, свядома падоўжвалі рабочы дзень да 10 гадзін, а каб пасеяць раздор паміж стаханаўцамі і не стаханаўцамі мы на Азотбудзе ўвялі прыпіску паасобным рабочым такой работы, якую яны фактычна не праводзілі. Гэтыя махінацыі праводзіліся намі сістэматычна».

Другое паказанне па гэтаму пытанню—паказанне Норкіна:

«Стаханаўскі рух мы падрывалі і тым, што даручалі стаханаўцам такую работу, якая потым павінна была перарабляцца. Такім чынам выходзіла, што рабочыя стараліся, будавалі, а калі работа была закончана—«аказвалася», што рабілася гэта не па праекту, не так, або не на тым месцы і таму зробленае ламалі і будавалі зноў. Так, напрыклад, было з кладкай фундаментаў на заводзе олеума, якія пасля сканчэння будаўніцтва былі ўзарваны, і рэзультаты стаханаўскай работы пайшлі на змарку».

І ўсё гэта рабілася не толькі на вачах некаторых чэсных гаспадарнікаў і інжынераў, але і на вачах нашых партыйных і прафесіянальных арганізацый, якія або не разумелі значэння адбываўшыхся перад імі фактаў, або не ўмелі змагацца з імі.

Шкоднікі імкнуліся да зрыву стаханаўскага руху і да таго, каб парадзіць нездаволенасць сярод рабочых. Гэтым ва многіх месцах займаліся ўсе гэтыя Пятаковы, пятакоўцы і іншыя мярзаўцы-шкоднікі.

У сваім паказанні па гэтаму пытанню Пятакоў гаварыў:

«На пляцоўцы будаўніцтва спачатку Юліным, а потым Жарыкавым ствараліся зрывы ў соцыяльна-бытавым абслугоўванні рабочых, ствараліся цяжкія бытавыя ўмовы, затрымлівалася выплата заработнай платы.

Гэта ў рэзультаце стварыла нездаволенасць сярод рабочых і садзейнічала зрыву стаханаўскага руху».

Прывяду яшчэ адзін прыклад таго, да якой злобы к совецкай уладзе і к рабочым даходзілі ўсе гэтыя вырадкі са шкодніцкай банды. Вось паказанні былога тэхнічнага дырэктара Ростсельмаша Равва:

> «У майскае свята 1936 года арганізацыяй было падрыхтавана і праведзена ў сталеліцейным цэху атручанне газам рабочых, у рэзультаце чаго былі атручаны рабочыя, якія знаходзіліся ў той момант у цэху, а таксама пажарнікі, што кінуліся іх ратаваць, у колькасці 17 чалавек, з якіх 6 чалавек загінула.
>
> Арганізавана яно было па заданню Глебава-Авілава. Непасрэднымі выканаўцамі гэтага дыверсійнага акта былі Шлыкаў—нам. нач. газастанцыі і Казлоў—механік сталеліцейнага цэха, прычым апошні да гэтай справы прыцягнуў аднаго або двух чалавек...
>
> Перад 1-м мая Глебаў-Авілаў выклікаў мяне да сябе ў кабінет і сказаў, што мне трэба скарыстаць з таго, што ў святочныя майскія дні завод стане на рамонт і арганізаваць атручванне рабочых газам. Ён заявіў мне, што 3-га мая, пасля сканчэння рамонту, маецца на ўвазе ўключыць газастанцыю,—«варта толькі пакінуць у адным з цэхаў засоўкі ў газаправодзе адчыненымі і газ пойдзе ў цэх». Ён мяне папярэдзіў, што пасля таго, як адбудзецца атручанне, трэба будзе вытлумачыць гэта нявопытнасцю рамонтнай брыгады, якая праводзіла рамонт газаправода».

Куды яшчэ ісці далей? Але-ж паказанні Раввы, які прабраўся па нашай блізарукасці нават у партыю, усяго толькі дадатак да таго, што ўсім вядома пасля студзеньскага судовага працэсу, і па многіх іншых падобных фактах.

Усё сказанае вышэй адносіцца да цяжкай прамысловасці. Гэта не значыць, што шкодніцка-дыверсійных актаў няма ў іншых галінах прамысловасці. Яны ёсць і ў лёгкай прамысловасці.

Нельга забываць аб тым, што, напрыклад, у сувязі з вядомай справай Промпартыі ў лёгкай прамысловасці былі выкрыты буйныя шкодніцкія арганізацыі.

У свой час, некалькі год таму назад, у мясной і кансервавай прамысловасці была выкрыта буйная шкодніцкая арганізацыя. Гэта трэба было-б сур'ёзна ўлічыць работнікам харчовай прамысловасці. Нельга пераменшаць небяспеку дыверсійна-шкодніцкай работы ў харчовай прамысловасці.

Няма чаго гаварыць аб тым, што ў лясной прамысловасці, дзе прыходзіцца лічыцца з вялікай палітычнай адсталасцю кіруючых кадраў, ёсць вельмі няўдалыя ўчасткі. Пара таварышам з Наркомлеса ўлічыць апошнія ўрокі шкодніцтва, улічыць факты выкрытай шкодніцка-шпіёнскай дзейнасці япона-нямецка-трацкісцкіх агентаў.

Усё гэта адносіцца і да іншых галін прамысловасці. Здаецца, мы ўжо дастаткова атрымалі ўрокаў, каб зразумець, што ва ўсіх галінах гаспадаркі, ва ўсіх дзяржарганізацыях шкоднікі і дыверсанты стараюцца знайсці сабе ўтульнае мястэчка, карыстацца бесклапотнасцю распладзіўшыхся ў нас самаздаволеных кіраўнікоў, каб рабіць сваю брудную справу.

У Наркомцяжпроме сядзеў намеснік наркома Пятакоў, які аказаўся шкоднікам-дыверсантам. Але, як вядома, і ў НКШЗ шкоднік Ліўшыц быў на пасту намесніка наркома. У Наркомлесе шкоднік Сакольнікаў быў таксама намеснікам наркома, а да таго гэты шпіён быў, як вядома, намеснікам наркома па замежных справах. У Дзяржаўным

банку шкоднік Аркус быў намеснікам упраўляючага Дзяржбанка. Упраўляючым Промбанка быў шкоднік Туманаў. У Наркомземе за апошнія гады выкрыт не адзін буйны шкоднік з асоб, якія сядзелі на самых адказных пастах у наркамаце. Такімі былі Маркевіч, Канор, Вольф, Рэйнгольд—усё гэта былыя намеснікі наркома земляробства. Шкоднікам аказаўся былы начальнік Цудортранса Серабракоў. У Наркомводзе быў адзін час намеснікам наркома шкоднік Зоф. Гэта-ж далёка не поўны пералік адпаведных фактаў, але і сказанага, здаецца, дастаткова, каб зразумець сур'ёзнасць пытання.

Варта спыніцца яшчэ на прыкладзе са шкодніцтвам у галіне харчовага снабжэння насельніцтва. У гэтым сэнсе заслугоўваюць вялікай увагі паказанні былога дырэктара Пермскага міжрайхарчгандля, шкодніка Язоўскіх. Ён паказвае:

«Пасля таго, як у ліпені 1936 года быў апублікован праект новай Канстытуцыі СССР, Гінзбург (нач. аддзела харчтавараў Облунутргандля ў Свердлоўску) паставіў перад удзельнікамі контррэвалюцыйных груп задачу знарок дыскрэдытаваць падсумаваныя ў Канстытуцыі дасягненні. У верасні месяцы 1936 года ў размове са мною ён сказаў, што нам неабходна к моманту VIII Надзвычайнага З'езда Советаў, які павінен зацвердзіць Канстытуцыю, арганізаваць масавую нездаволенасць насельніцтва. Гінзбург сказаў далей, што гэта лепш за ўсё можна зрабіць шляхам стварэння чаргі каля хлебных магазінаў, арганізаваўшы перабоі ў хлебаснабжэнні. Асноўную ўвагу, як гаварыў Гінзбург, трэба сканцэнтраваць на дэзарганізацыі хлебнага гандлю ў асноўных прамысловых пунктах Свердлоўскай вобласці, пры гэтым ён асабліва падкрэсліў неабходнасць дэзарганізацыі хлебнага гандлю іменна ў Свердлоўску, Пермі і Тагіле.

Указанае шкодніцтва нашы к.- р. групы ажыццявілі».

Другі свердлоўскі шкоднік, Варапаеў, былы комуніст, паказвае наступнае:

«Перабоі ў Свердлоўску ў перыяд з 25.XI па 5/XII 1935 г. г. зн. у перыяд работы Надзвычайнага VIII З'езда Советаў СССР, былі створаны наўмысна, у рэзультаце шкодніцка-дэзарганізатарскай работы з боку работнікаў Горунутргандля і Свердхарчгандля».

Як устаноўлена следствам, 25 лістапада 1936 года і ў наступныя дні ў г. Свердлоўску, пры наяўнасці дастатковых запасаў хлеба, шкодніцкай групе ўдалося наўмысна арганізаваць перабоі з хлебам і выклікаць стварэнне велізарнай чаргі ля магазінаў. Гэта было дасягнута тым, што значная частка магазінаў была недазабяспечана хлебам, частка магазінаў была перагружана хлебам, а ў 17 магазінаў з 87 хлеб у гэтыя дні зусім не завозіўся. Ну ці не ганьба гэта тым совецкім і партыйным кіраўнікам, на вачах у якіх беспакарана праводзіліся гэтыя гнусныя шкодніцкія акты?

Напомню яшчэ факты, якія адносяцца да дзейнасці кіруючых абласных совецкіх органаў. Нядаўна выкрыт, як шкоднік і трацкіст, старшыня Свердлоўскага абласнога выканкома Галавін; у Кіеве выкрыты, як шкоднікі, два намеснікі старшыні абласнога выканкома і т. д.

Спынюся далей на асаблівасцях шкодніцтва апошняга часу.

Для гэтага трэба параўнаць шкодніцка-дыверсійную работу апошняга часу са шкодніцтвам перыяду шахцінскага працэса.

Тады, у 1928—1930 гадах, калі была ўскрыта шахцінская справа, справа Промпартыі, справа Метро-Вікерса, шкодніцтва ў харчовай індустрыі, шкодніцка-дыверсійная арганізацыя фон Мекка на чыгуначным транспарце, перад намі стаялі шкоднікі з буржуазнага лагера, з буржуазных спецыялістаў. Тады мы мелі справу са шкоднікамі з буржуазіі. Гэтыя паны былі звязаны з рускімі белагвардзейцамі заграніцай, з іншаземнымі разведкамі і шпіёнамі, але яны і не прыкідваліся нашымі прыяцелямі, не кажучы ўжо аб тым, што яны былі далёкі ад нашай партыі.

Асаблівасць выкрытага зараз шкодніцтва заключаецца ў тым, што ў дыверсійна-шкодніцкіх арганізацыях цяпер актыўную ролю адыгрывалі людзі з партыйным білетам, выхадцы з нашай партыі. Асобая небяспека цяперашніх дыверсійна-шкодніцкіх арганізацый заключаецца ў тым, што гэтыя шкоднікі, дыверсанты і шпіёны прыкідваюцца комуністамі, гарачымі староннікамі совецкай улады і нават нярэдка маюць у мінулым тыя ці іншыя заслугі перад партыяй і совецкай дзяржавай. Усё гэта палягчае ім абман нашых органаў, абман нашых кіраўнікоў, асабліва тых, якія хварэюць бесклапотнасцю і палітычнай блізарукасцю. Тым часам, цяпер устаноўлена, што трацкісты не толькі самкнуліся з буржуазнымі шкоднікамі і агентамі разведак фашысцкіх і іншых замежных дзяржаў, але сталі прамымі арганізатарамі і кіраўнікамі шкодніцтва, дыверсій і шпіянажу. Маскуючыся пад комуністаў, адзяваючы лічыну нашых прыяцеляў, яны прабіраліся на віднейшыя пасты ў совецкай дзяржаве і ў партыйных арганізацыях для таго, каб палегчыць сабе злачынна-падрыўную работу. Трацкісты ператварыліся ў банду шкоднікаў і забойц, якія паступілі на службу іншаземных дзяржаў, выконваюць даручэнні фашысцкіх разведак у нашай краіне.

Так змянілася справа з часу шахцінскага працэса. Так перарадзіліся трацкісты ў злачынную банду, якая не сароміцца ў сродках барацьбы з совецкаю ўладай, не сароміцца ў сродках барацьбы з рабочым класам нашай краіны.

Трэба сказаць, што не толькі трацкісты, але і правыя пайшлі па гэтаму шляху. Усе гэтыя бухарынцы, рыкаўцы і ім падобныя цяпер таксама выкрыты ў адной кампаніі з трацкістамі—шкоднікамі, дыверсантамі і шпіёнамі.

У сувязі з гэтым прывяду паказанні аднаго даволі віднага работніка з правых. Я маю на ўвазе В. А. Якаўлева, які быў пры Угланаве сакратаром Хамоўніцкага раёна ў Маскве. У сваіх паказаннях былы начальнік Чэлябінскага электра-металургічнага камбіната, шкоднік В. А. Якаўлеў паказваў:

> «Сумесна з інжынерам Кібардзіным мною праведзены наступныя шкодніцкія мерапрыемствы:
>
> 1) На будаўніцтве над вялікім механічным цэхам, будавалася і была намі пабудавана крыша, сканструяваная Гіпраспецметам такім чынам, што ўсе ападкі (снег, дождж) затрымліваліся на ёй. Больш таго, было амаль немагчыма вывезці з гэтай крышы снег. Я разумеў, што канструкцыя шкодніцкая, я павінен быў прыпыніць будаўніцтва—я гэтага не зрабіў. У рэзультаце крыша хутка зношвалася і цякла, як рэшата, і ў выніку

гэтага псавалася каштоўнае абсталяванне вялікага механічнага цэха.

Гэты шкодніцкі акт быў настолькі відавочны, што нельга было не пісаць у Глаўк аб гэтым факце, што я і зрабіў для прыкрыцця сваёй ролі ў гэтым мерапрыемстве. Крыша будавалася ў 1932 годзе пад непасрэдным кіраўніцтвам інжынера Падасек, які выконваў мае ўказанні аб тармажэнні тэмпаў будаўніцтва.

2) Па праекту Гіпраспецмета трохтысячатонны прэс для цяжкіх паковак быў размешчан такім чынам, што яго вытворчы паток быў закрыт з трох бакоў цэхамі, з чацвертага-ж боку да яго доступ быў таксама загароджан. Гэты прэс быў пачат пабудовай Кібардзіным пад маім непасрэдным кіраўніцтвам. І ў гэтым выпадку я паднімаў шум, склікаючы нарады і пасылаючы ўсякія адносіны, адначасова з гэтым працягваў будаўнічыя работы для ўстаноўкі прэса. Рэзультат—зніжэнне магутнасці завода, паколькі гэта адзін з найбольш магутных прэсаў, і стварэнне дыспрапорцыі, бо ўзаемасувязь паміж цэхамі парушалася.

3) Пад кіраўніцтвам інжынера Кібардзіна быў распрацован праект плаціны нафтахавальні, ёмкасцю ў 10 тыс. тон. Стык паміж самой плацінай і целам бетоннага тунеля быў разлічан шкодніцкі і ў рэзультаце пры заліўцы нафтахавальні нафтай у лістападзе 1932 года яна прасачылася ў стыках, прарвала плаціну і 5 тыс. тон нафты пайшло ў Волгу».

Той-жа Якаўлеў далей паказваў:

«К моманту майго прыходу на будаўніцтва камбіната (1934 г.) становішча з каналізацыяй на пасёлках і камбінаце было наступным: па асноўнаму рабочаму пасёлку былі пакладзены трубы, былі таксама пракладзены сталёвыя трубы па дну ракі Міас (так званы дзюкер) для таго, каб усе фекальныя воды вывесці за раку на палі абваднення. Заставалася пакласці трубы, прыкладна, праз 200 метраў гранітнага грунту, злучыць каналізацыю пасёлка з дзюкерам і прадоўжыць іх да палёў абваднення. Да правядзення ўсіх гэтых работ усе сточныя воды з пасёлка, бальніцы, кіно, лазні і т. д. паступалі і паступаюць у сучасны момант у р. Міас. Прыкладна таксама абстаяла справа і з каналізацыяй на вытворчых прадпрыемствах: усе трубы былі пракладзены і выведзены за электродны завод, трэба было іх пракласці да ракі, улажыць дзюкер і вывесці на другі бок Міаса. Паколькі гэта не было зроблена, а каналізацыя за фера-сплаўным заводам разбурылася ў выніку дрэннай якасці работы, усе фекальныя воды выходзілі на паверхню і па канаве, агібаючы пасёлак цаглянага завода, паступалі ў р. Міас.

Такім чынам, усе фекальныя воды з пасёлка і з прадпрыемстваў паступалі ў раку, адкуль бралася вада для патрэб заводаў і для рабочых пасёлкаў камбіната і электрастанцыі. Само сабою зразумела, што гэтыя воды забруджвалі раку і выклікалі эпідэміі, аб чым я далей пакажу.

Кошт усёй сумы застаўшыхся работ па каналізацыі выражаўся ў 80, максімум 100 тысяч рублёў. Само сабою зразумела, што такую суму, пры агульным кошце камбіната 100 мільёнаў

рублёў, легка можна было знайсці і ўсю работу закончыць у адзін сезон.

Я гэтай работы не правёў зусім свядома, бо яна прывяла-б, разам з устанаўленнем вадаправода, да поўнай ліквідацыі эпідэміі і вырашэння пытання з піццявой вадою.

Я павінен паказаць, што гэтыя пытанні на працягу некалькіх год стаялі ў цэнтры ўвагі ўсіх грамадскіх арганізацый і рабочага насельніцтва пасёлкаў, выклікаючы вялікую нездаволенасць адсутнасцю клопату аб патрэбах і здароўі рабочых. Вядома, нездаволенасць гэта была накіравана не супроць мяне— канкрэтнага віноўніка, а супроць дзяржавы, якая «не клапоціцца» аб здароўі працоўных. Як я ўжо раней паказваў, узбуджэнне нездаволенасці сярод насельніцтва супроць кіраўніцтва партыі і краіны ўваходзіла складанаю часткай у дырэктыву правых аб шкодніцтве. Мая шкодніцкая работа ў галіне каналізацыі ёсць адзін з канкрэтных фактаў ажыццяўлення гэтай дырэктывы».

Да чаго прыводзіла гэта шкодніцтва, відаць з паказанняў самога Якаўлева:

«Я ўжо паказаў, што, па-першае, насельніцтва было вымушана карыстацца тэхнічнай вадой, якая паступала-б без ачысткі з р. Міас, і што, па-другое, усе фекальныя воды паступалі ў тую-ж раку, прычым гэтыя фекальныя воды паступалі ў р. Міас вышэй па цячэнню, чым была размешчана насосная станцыя, якая брала ваду, што ішла на бытавыя патрэбы рабочых. Адсюль, апрача пастаяннай нездаволенасці сярод рабочых, меў месца рад эпідэмій. Эпідэміі ўзнікалі іменна ў пасёлках завода і ДРЭС, насельніцтва якіх карысталася тэхнічнай вадою. Эпідэміі дызентэрыі летам 1935 года і ў маі 1936 года і брушнога тыфу ў снежні 1935 года, прычым захворвала ў дзень у сярэднім 8 чалавек, часам-жа захворванне даходзіла да 18 чалавек, і ў лютым 1936 г., калі ў дзень захворвала 5—7 чалавек. Апрача гэтага, пастаяннаю з'явай былі масавыя страўнікавыя захворванні, што зніжала выхад на работу і прадукцыйнасць працы».

Такавы факты. З іх відаць, што мы і тут маем справу са злейшымі ворагамі працоўных, з бандай злачынцаў.

Мы ўказваем на ўсе гэтыя факты для таго, каб зрабіць з іх большэвіцкія вывады. Наша задача не толькі ў тым, каб знайсці паасобных віноўнікаў злачынстваў і пакараць іх. Наша задача—зрабіць з гэтага правільныя практычныя і палітычныя вывады. Наша пярвейшая задача заключаецца ў тым, каб зразумець гэтыя факты і разгарнуць барацьбу са шкодніцтвам і шкоднікамі сапраўды па-большэвіцку.

Выступаючы на красавіцкім Пленуме ЦК ВКП(б) 1928 года па поваду шахцінскай справы, таварыш Сталін заастрыў увагу на крытыцы недахопаў нашай работы, ускрытых шкодніцтвам. Ён гаварыў тады аб неабходнасці «не тушыць самакрытыку, а раздуць яе».

Гэтае ўказанне таварыша Сталіна цалкам адносіцца і да сучаснага моманту. Мы павінны даказаць здольнасць да развіцця большэвіцкай самакрытыкі, даказаць здольнасць лічыцца з крытыкай, як бы яна часам ні была непрыемна для кіраўнікоў. Толькі так

можна даказаць на справе сапраўднае жаданне выправіць свае недахопы, якое без развіцця самакрытыкі нічога не варта. Наша задача заключаецца, перш за ўсё, у тым, каб зразумець, якія недахопы кіравання, якія недахопы нашай работы палегчылі здрадніцкую работу трацкісцкіх і іншых шкоднікаў, палегчылі падкопы гэтых і іншых агентаў іншаземных контрразведак у нашых гаспадарчых органах, на прадпрыемствах, у шахтах, на чыгунках, на электрастанцыях, у нашых дзяржаўных установах.

У сувязі з выявіўшыміся буйнейшымі недахопамі кіравання, мы павінны зараз сканцэнтраваць увагу на наступных асноўных задачах: па-першае, выхаванне кадраў, па-другое, падбор работнікаў і, па-трэцяе, метады кіраўніцтва.

Калі мы ўважліва аднясемся да ўрокаў шкодніцтва, да новых прыёмаў барацьбы з боку нашых ворагаў, то мы многаму навучымся і хутка вызвалімся ад некаторых абураючых недахопаў у рабоце кіруючых органаў. У гэтым сэнсе нават тыя нямногія прыклады шкодніцка-дыверсійнай работы трацкісцка-бухарынскіх і іншаземных агентаў, якія прыведзены вышэй, маюць нямала павучальнага. Было-б толькі на справе гэта жаданне вучыцца, сапраўднае жаданне вызваліцца ад некаторай самаздаволенасці, якая на глебе вялікіх поспехаў ёсць у некаторых нашых кіраўнікоў.

## II. Нашы задачы ў барацьбе з трацкісцкімі і іншымі шкоднікамі, дыверсантамі і шпіёнамі

### 1. Выхаванне кадраў

Пачну з першага пытання—з пытання аб выхаванні кадраў.

У свой час мы здолелі зрабіць патрэбныя вывады з шахцінскай справы. Шахцінская справа паказала, што мы знаходзіліся ў вельмі вялікай залежнасці ад старых, буржуазных спецыялістаў, варожых совецкаму ладу. Яна паказала, наколькі мы былі слабы па частцы большэвіцкіх кадраў, аўладаўшых тэхнікай і вытворчасцю. Урокі шахцінскага шкодніцтва мы выкарысталі для таго, каб паставіць пытанне аб выхаванні гаспадарча-тэхнічных кадраў на новыя рэйкі.

З 1928 года, да якога адносіцца справа шахцінскіх шкоднікаў, мы пачалі перабудову ўсёй тэхнічнай адукацыі. Тады партыя прама сказала, што больш нельга мірыцца з тэхнічнай адсталасцю нашых гаспадарчых кадраў. Задача стварэння большэвіцкіх тэхнічных кадраў, задача аўладання тэхнікай, была пастаўлена перад большэвікамі як адна з самых галоўных і неадкладных.

Таварыш Сталін у пачатку 1931 года на нарадзе гаспадарнікаў гаварыў:

> «Трэба прызнаць, к сораму нашаму, што і сярод нас, большэвікоў, ёсць нямала такіх, якія кіруюць шляхам падпісання папер. А вось, каб унікаць у справу, аўладаць тэхнікай, стаць гаспадаром справы,—на гэты конт—ні-ні.
>
> Як магло здарыцца, што мы, большэвікі, прарабіўшыя тры рэволюцыі, вышаўшыя з перамогай з жорсткай грамадзянскай вайны, вырашыўшыя буйнейшую задачу стварэння прамысловасці, павярнуўшыя сялянства на шлях соцыялізма,—як магло здарыцца, што ў справе кіраўніцтва вытворчасцю мы пасуем перад паперкай?

Прычына тут заключаецца ў тым, што падпісваць паперу лягчэй, чым кіраваць вытворчасцю. І вось многія гаспадарнікі пайшлі па гэтай лініі найменшага супраціўлення».

Далей таварыш Сталін гаварыў аб шахцінскай справе як аб першым важным сігнале наконт недапушчальнай адсталасці нашых гаспадарнікаў у тэхнічных адносінах:

«Само жыццё не раз сігналізавала нам аб тым, што не ўсё добра ў гэтай справе. Шахцінская справа была першым сігналам. Шахцінская справа паказала, што ў партарганізацый і прафсаюзаў нехапіла рэвалюцыйнай пільнасці. Яна паказала, што нашы гаспадарнікі агідна адсталі ў тэхнічных адносінах, што некаторыя старыя інжынеры і тэхнікі, працуючы бескантрольна, лягчэй скатваюцца на шлях шкодніцтва, тым больш, што іх безупынна даймаюць «прапановамі» ворагі з-за мяжы. Другі сігнал—працэс «Промпартыі».

Таварыш Сталін так растлумачваў урокі шахцінскага шкодніцтва:

«Як магло здарыцца, што шкодніцтва набыло такія шырокія памеры? Хто вінават у гэтым? Мы ў гэтым вінаваты. Калі-б мы справу кіраўніцтва гаспадаркай паставілі інакш, калі-б мы значна раней перайшлі да вывучэння тэхнікі справы, да аўладання тэхнікай, калі-б мы часцей і талкова ўмешваліся ў кіраўніцтва гаспадаркай,—шкоднікам не ўдалося-б так многа нашкодзіць».

У гэтай прамове таварыш Сталін сфармуляваў і новыя задачы, устаўшыя перад намі ў перыяд рэканструкцыі:

«Час пакончыць з гнілой устаноўкай неўмяшання ў вытворчасць. Час усвоіць другую, новую, адпаведную цяперашняму перыяду ўстаноўку: умешвацца ва ўсё. Калі ты дырэктар завода—умешвайся ва ўсе справы, унікай ва ўсё, не ўпускай нічога, вучыся і яшчэ раз вучыся. Большэвікі павінны аўладаць тэхнікай. Час большэвікам самім стаць спецыялістамі. Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё».

Лозунг аб аўладанні тэхнікай стаў у цэнтры задач партыі і рабочага класа, і гэта дало велізарныя станоўчыя рэзультаты. Не жадаючы гэтага, шахцінскія шкоднікі паскорылі стварэнне кадраў чырвоных спецыялістаў, паскорылі перабудову нашай тэхнічнай адукацыі.

Прывяду некаторыя лічбы па цяжкай прамысловасці. Параўнаем становішча па прадпрыемствах Народнага камісарыята цяжкай прамысловасці ў 1930 і 1936 гг.

У 1930 годзе на тысячу рабочых у прадпрыемствах Народнага камісарыята цяжкай прамысловасці прыходзілася 20 інжынераў, а ў 1936 годзе—ужо 33 інжынеры. Калі ўзяць інжынераў, тэхнікаў і майстроў разам, то атрымліваецца рост з 68 да 105 на тысячу рабочых. У каменавугальнай прамысловасці за той-жа перыяд колькасць інжынераў узрасла з 4 да 9, а ў хімічнай—з 33 да 52 на тысячу рабочых, занятых у вытворчасці.

Што рост новых тэхнічных кадраў прамысловасці ішоў у значнай меры за кошт комуністаў, відаць з наступных фактаў.

За тры гады—з 1933 па 1936—колькасць комуністаў узрасла з 9 да 24 проц. сярод агульнай колькасці галоўных інжынераў шахт, па якіх ёсць адпаведны ўлік. У хімічнай прамысловасці колькасць кому-

ністаў сярод галоўных інжынераў прадпрыемстваў за той-жа перыяд узрасла з 20 да 28 процантаў.

Індустрыяльныя ВНУ ў 1928 годзе выпускалі ўсяго каля 9 тысяч чалавек. У 1936 годзе выпуск з гэтых ВНУ ўзняўся да 36 тысяч, г. зн. павялічыўся за гэты тэрмін у 4 разы. Агульная колькасць вучняў у ВНУ Народнага камісарыята цяжкай прамысловасці з 1930 года, калі яна складала 57,5 тысяч чалавек, узнялася ў 1936 годзе да 108,6 тысяч чалавек, г. зн. павялічылася за 6 год прыкладна ў два разы. За гэты-ж перыяд колькасць вучняў у тэхнікумах Народнага камісарыята цяжкай прамысловасці павялічылася з 42,7 тысяч да 80 тысяч чалавек.

За апошнія гады разгарнулася тэхвучоба рабочых, занятых на вытворчасці. Ад $^2/_3$ да $^3/_4$ рабочых цяжкай прамысловасці ахоплены тэхвучобай у рознага роду школах і курсах. Тэхвучоба няўхільна разгортваецца і ў іншых галінах прамысловасці.

Усё гэта гаворыць аб тым, што ў справе падрыхтоўкі гаспадарча-тэхнічных кадраў, у стварэнні новых кадраў кваліфікаваных прамысловых работнікаў наогул за апошнія гады зроблена велізарная справа.

Цяпер мы ўжо не так слабы ў тэхнічных адносінах, як гэта было ў перыяд шахцінскай справы і ў перыяд «Прампартыі». Мы многае зрабілі для таго, каб правесці ў жыццё лозунг аб аўладанні тэхнікай і вытворчасцю. Мы маем цяпер свае, совецкія, гаспадарча-тэхнічныя кадры, у асноўным аўладаўшыя сваёй справай. Іх ужо нямала, яны цвёрда стаяць на нагах.

Аднак, трэба прызнаць, што правядзенне задачы аўладання тэхнікай праходзіла ў многіх выпадках аднабока, са стратай для большэвіцкага выхавання кадраў. Аўладаўшы тэхнікай, многія нашы работнікі адсталі ў сваім палітычным развіцці ад сучасных, больш складаных палітычных задач.

Вузкае дзялянцтва, абмежаванне светапогляду вузка-гаспадарчымі рамкамі, адрыў ад партыйна-палітычных задач і пароджаная ўсім гэтым палітычная блізарукасць сталі лёсам многіх нашых работнікаў гаспадарчага фронту. Замест павышэння большэвіцкай пільнасці, многія работнікі прамысловасці і транспарту палітычна адсталі, папалі ў русло абывательскай дабрадушнасці, палітычнай бесклапотнасці. Трэба прызнаць, што, захапіўшыся поспехамі і перавыкананнем планаў, многія з нашых таварышоў гаспадарнікаў, ды і не толькі гаспадарнікаў, аддалі вялікую дань самасупакоенасці і самаздаволенасці, якія так чужды большэвіцкім якасцям.

Партыя высунула лозунг—«Большэвікі павінны аўладаць тэхнікай». Здаецца, зразумела, што справа ішла аб аўладанні тэхнікай большэвікамі, што партыя заклікала гаспадарнікаў аўладаць тэхнікай так, як гэта належыць большэвікам. На справе зачастую атрымлівалася так, што, авалодваючы тэхнікай, нашы таварышы забывалі аб сваіх большэвіцкіх абавязках і палітычна ішлі не ўперад, а назад. Гэта скарыстаў вораг, каб не толькі зло пасмяяцца над палітычнай блізарукасцю некаторых, нават вельмі буйных, нашых работнікаў, але каб нанесці дзяржаве нямалую страту. У нас нярэдка атрымлівалася, што аўладанне тэхнікай ішло разам з аслабленнем большэвіцкіх якасцей работніка. Нам-жа патрабуецца аўладанне тэхнікай у поўным сэнсе гэтага слова з далейшым узмацненнем большэвіцкіх якасцей нашых кадраў.

З гэтага відаць, якія патрабаванні мы павінны прад'яўляць да нашых гаспадарчых кадраў. Спынюся на гэтым падрабязней.

Зразумела, што, па-першае, да ліку такіх патрабаванняў адносіцца **веданне сваёй справы,** інакш кажучы поўнае аўладанне тэхнікай, вытворчасцю і ўсёй даручанай справай, як гэта патрабуецца для сапраўднага кіраўніка. Ні аб якім аслабленні гэтага патрабавання да нашых кіруючых кадраў не можа быць і гутаркі. Наадварот, урокі шкодніцтва, дыверсій і шпіянажу трацкісцкай і замежнай агентуры, якая не раз вадзіла за нос нашых гаспадарчых кіраўнікоў, падкрэсліваюць неабходнасць далейшай упартай барацьбы за аўладанне тэхнікай. Той, хто яшчэ не ведае па-сапраўднаму даручанай работы, той павінен вывучаць справу, унікаць у яе, вучыцца працаваць. Вучыцца не толькі ў сяброў, але і ў ворагаў, не толькі ўнутры краіны, але і заграніцай—ва ўсіх, у каго можна, каб аўладаць сваёй справай пасапраўднаму ў поўным сэнсе слова. Без сур'ёзнага ведання сваёй справы зараз не можа быць сапраўднага кіраўніка ні ў адной галіне работы.

**Здольнасць да самакрытыкі,** развіццё гэтай здольнасці—такое другое патрабаванне да нашых кадраў, якое трэба рашуча падкрэсліць у сувязі з урокамі шкодніцтва трацкістаў. Без развіцця гэтай здольнасці, без сапраўднай самакрытыкі не можа быць сапраўднага руху нашых кадраў наперад. Без развіцця здольнасці да самакрытыкі нельга марыць аб дасягненні задачы дагнаць і перагнаць перадавыя па тэхніцы капіталістычныя краіны. Мы праводзім тэхнічную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі, мы хочам укараніць і ўкараняем новую тэхніку, перадавыя вытворчыя метады, вышэйшыя сучасныя вытворчыя нормы. Мы рухаемся па гэтаму шляху наперад, але яшчэ ва многім адстаем ад перадавых па тэхніцы капіталістычных краін. Каб хутчэй аўладаць усімі дасягненнямі сучаснай тэхнікі, мы павінны падвергнуць нашу работу, нашы дасягненні і поспехі стараннай праверцы, сур'ёзнай крытыцы. Нельга супакойвацца на наяўных поспехах, трэба дашуквацца прычын, па якіх мы яшчэ ва многіх выпадках далёка адстаем ад перадавых у тэхнічна-вытворчых адносінах замежных дзяржаў, ад дасягнутага імі ўзроўню прадукцыйнасці працы, ад дасягнутых імі вытворчых норм і якасці работы.

Без самакрытыкі, без развіцця здольнасці да сапраўднай самакрытыкі нельга рухацца наперад. У нашых умовах гэта асабліва важна. У нашых умовах ідзе хуткі рост новых тэхнічных кадраў, ёсць нямала людзей, здольных і жадаючых сваёй ініцыятывай, практычным вопытам і ведамі дапамагчы справе. Трэба выхоўваць у нашых работніках чуткасць і ўменне прыслухоўвацца да сігналаў, якія ідуць знізу, з боку радавых работнікаў і тэхнікаў. Трэба дабіцца таго, каб кіраўнік адносіўся да гэтых сігналаў не па-чыноўніцку бяздушна, не пасаноўнаму высокамерна. Патрэбна ўважлівасць нават тады, калі сігнал ідзе з чуждага асяроддзя і па чуждых нам матывах. Калі мы разаўем гэту здольнасць, здольнасць па-бальшэвіцку ўнікаць у гэтыя сігналы, падвяргаць праверцы любое, часам, здавалася-б, абсалютна правераннае становішча ў сваёй рабоце, тады мы хутчэй будзем выпраўляць нашы недахопы і папярэдзім прошукі многіх шкоднікаў і дыверсантаў. Аслабленне-ж самакрытыкі, няздольнасць да яе развіцця вядуць да бюракратызацыі і акасцянення, што лёгка выкарыстоўваюць нашы ворагі ў сваіх антысовецкіх мэтах, у мэтах шкодніцтва і дыверсійнашпіёнскай работы. Чым больш мы разаўем наша ўменне разбірацца ў недахопах сваёй работы, уменне адрозніваць станоўчае і творчае ад фармальна-бюракратычнага, тым хутчэй нашыя кадры будуць расці як сапраўдныя бальшэвіцкія арганізатары, і тым хутчэй народная гас-

падарка нашай краіны дагоніць і перагоніць перадавыя сучасныя паказчыкі ў тэхніцы, у вытворчасці і ў іншых галінах. Калі мы злучым такія якасці, як веданне справы і здольнасць да самакрытыкі, мы расчысцім наш шлях ад усялякіх шкоднікаў і забяспечым дасягненне любых сучасных тэхнічных і вытворчых паказчыкаў.

**Чэснасць у адносінах да дзяржавы**—такава яшчэ адна якасць гаспадарча-тэхнічных кадраў, якую мы павінны ўсямерна выхоўваць і ўмацоўваць. У нашай краіне, дзе асноўныя гаспадарчыя і культурныя каштоўнасці належаць дзяржаве, якая ажыццяўляе волю працоўных, дзе, з другога боку, многія кіраўнікі праяўляюць бесклапотнасць наконт барацьбы са злодзеямі і казнакрадамі і дзе так яшчэ моцны дробнабуржуазныя, або, інакш кажучы, драпежніцка-анархічныя звычкі ў работнікаў дзяржапарата—ніяк нельга лічыць зазорным напамінаць аб неабходнасці выхавання нашых кадраў у духу сапраўднай добрасумленнасці і чэснасці ў адносінах дзяржавы. Тым часам аб гэтым зноў і зноў прыходзіцца гаварыць, бо ў нас нямала фактаў ашуканства дзяржавы, якое часам, к нашаму сораму, праводзіцца з заахвочвання кіраўнікоў, у тым ліку і партыйных кіраўнікоў. Адны прыпіскі вуглездабычы ў Донбасе, што значаць! Колькі мы не асуджалі за гэта, колькі ні аддавалі пад суд, а і зараз яшчэ не выкарчавалі многіх жульніцтваў з прыпіскай здабычы вугалю на шахтах Донбаса і ў іншых раёнах. Хіба сярод нашых кіраўнікоў няма такіх работнікаў, якія глядзяць скрозь пальцы на прыпіску вуглездабычы, якія падпісваюць, каб прыхарошыць сваё становішча перад вышэй стаячымі органамі, няправільныя рапарты аб сканчэнні пабудоў і аб выкананні вытворчых планаў раней сапраўднага іх выканання? Для таго, каб хутчэй высунуцца, пакрасавацца хоць-бы на момант, іншы раз і нядрэнныя арганізатары-гаспадарнікі ідуць на фальш, на абман дзяржавы. А ўжо вакол такіх кіраўнікоў-кар'ерыстаў шукайце кучу падхалімаў і халуёў, за спіну якіх так зручна хавацца ўсялякім шкоднікам-мярзаўцам. У нашых умовах аслабленне працоўнай дысцыпліны на прадпрыемствах і ва ўстановах на руку толькі злейшым ворагам працоўных. У нашых умовах патуранне абману дзяржавы з боку кіраўнікоў устаноў і прадпрыемстваў, хоць-бы для таго, каб адрапартаваць і пахваліцца «поспехамі», або проста мяккацеласць у гэтых справах—шчыліна, у якую прасоўваюць сваю здрадніцкую лапу дыверсант, шкоднік і шпіён, якія такую маюць патрэбу ў «прыхільнасці» нашых кіраўнікоў, каб пакасціць дзяржаве. Без сур'ёзнай і пастаяннай барацьбы за выхаванне нашых кадраў у духу чэсных адносін да дзяржавы нельга забяспечыць поспеху ў вырашэнні вялікіх задач сацыялізма, нельга пакончыць з драпежніцкімі, дробнабуржуазнымі перажыткамі ў свядомасці людзей.

Мы павінны ўзнімаць веданне справы, здольнасць да самакрытыкі, чэснасць у адносінах да дзяржавы ў нашых гаспадарчых і інжынерна-тэхнічных кадраў. Мы павінны развіваць усе гэтыя якасці ў нашых работнікаў.

Але асабліва нам неабходна ўзняць **пільнасць да ворага**, перамагчы палітычную блізарукасць і прывіць усім нашым кіраўнікам сапраўднае большэвіцкае разуменне іх абавязкаў.

Без узмацнення гэтай якасці ні аб якім сур'ёзным выхаванні савецкіх кадраў не можа быць і гутаркі. Калі партыя высунула лозунг «Большэвікі павінны аўладаць тэхнікай», яна патрабавала, каб большэвікі аўладалі яшчэ адной зброяй, зброяй перадавой тэхнікі. А як

гэты лозунг праводзіўся на справе? На справе, рухаючыся наперад у галіне тэхнікі, многія таварышы бесклапотна аднесліся да сваіх палітычных абавязкаў, адарваліся ад палітыкі, аддаліся ганебнай бесклапотнасці ў адносінах да ворага. Вядома, справа нялёгкая—справіцца адначасова з абодвума задачамі: расці ў аўладанні тэхнікай і ў аўладанні большэвізмам. Але калі ты большэвік, то не павінен падмяняць адну задачу другой або, па крайняй меры, павінен нагнаць заўважанае ўпушчэнне. Урокі, аб якіх мы зараз гаворым, дастаткова павучальны, каб прызнаць, што ва многіх выпадках у нас гэтага не вышла. Гэтыя ўрокі патрабуюць ад нас таго, каб мы выправілі гэты буйны недахоп, каб мы не процістаўлялі аўладанне тэхнікай аўладанню большэвізмам, а дабіваліся-б таго, каб разам з аўладаннем тэхнікай нашы кадры раслі ў сваёй большэвіцкай свядомасці.

У рэзалюцыі Пленума ЦК ВКП(б) гаворыцца:

> «Пленум ЦК ВКП(б) не можа прайсці міма той нежаданай з'явы, што само выяўленне і выкрыццё трацкісцкіх дыверсантаў, пасля таго, як дыверсійная работа трацкістаў стала відавочнай, адбывалася пры пасіўнасці раду органаў прамысловасці і транспарту. Выкрывалі трацкістаў звычайна органы НКУС і паасобныя члены партыі—добраахвотнікі. Самі-ж органы прамысловасці і ў некаторай ступені таксама транспарту не праяўлялі пры гэтым ні актыўнасці, ні тым больш—ініцыятывы. Больш таго, некаторыя органы прамысловасці нават тармазілі гэту справу».

Правільна гэта ўказанне, ці няправільна? Правільна, што нашы гаспадарнікі не дапамагалі выкрыццю шкодніцтва, а часамі нават тармазілі яго? Так, правільна. Гэтага не аспрэчыш.

Мы маем велізарныя поспехі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве, але растуць і нашы палітычныя задачы. Нам прыходзіцца лічыцца і з тым фактам, што наш класавы вораг прыбягае да новых, больш хітрых, больш замаскаваных метадаў барацьбы. Ад нашых кіраўнікоў патрабуецца ўменне распазнаць і выкрыць гэтыя новыя манеўры ворага. Для гэтага неабходна пашырыць палітычны кругазор нашых кадраў, прывіць ім зоркасць да ворага, чым-бы ён ні маскаваўся. Толькі ў гэтым выпадку, толькі з гэтымі большэвіцкімі якасцямі нашы гаспадарнікі і іншыя работнікі будуць варты імені сапраўдных кіраўнікоў.

Шматлікія факты выкрытага шкодніцтва, дыверсій і шпіянажу япона-нямецка-трацкісцкіх агентаў гавораць аб тым, што патрэбныя большэвіцкія якасці ў нашых гаспадарча-тэхнічных кадраў ва многіх выпадках зараз адсутнічаюць. Таму ў нас распладзілася нямала шкоднікаў, дыверсантаў і шпіёнаў. Таму нашы работнікі дрэнна распазнаюць трацкістаў і іншых двурушнікаў. Час ужо ўсур'ёз узяцца за барацьбу з гэтымі ганебнымі з'явамі.

Прывяду прыклады таго, як у некаторых выпадках нам удавалася сарваць намеры трацкісцкіх шкоднікаў. Вазьму для прыкладу пытанні хіміі, дзе дзякуючы ўмяшанню тав. Орджанікідзе быў сарваны рад буйных шкодніцкіх планаў.

У серна-кіслотнай прамысловасці трацкісцкія шкоднікі ўсяляк стараліся знізіць вытворчыя магутнасці заводаў. Яны ўзмоцнена даказвалі, што магутнасць гэтых заводаў не забяспечвае выканання намечанага плана вытворчасці сернай кіслаты. Пасля праверкі аказалася, што шляхам інтэнсіфікацыі вытворчага працэса можна даць на дзеючым абсталяванні сернай кіслаты на 60 проц. больш таго, што

намячалася. Дзякуючы гэтаму ўжо на 1937 год серна-кіслотным заводам аказалася магчымым даць вытворчы план, які значна перавышаў называўшуюся раней «вытворчую магутнасць заводаў», хоць работы па інтэнсіфікацыі яшчэ не закончаны. Трэба прадоўжыць работу па выкрыццю шкодніцкіх спраў у гэтай галіне прамысловасці, і мы даб'емся далейшых поспехаў.

Вось другі прыклад. Па другой галіне прамысловасці Галоўоргхімпром Наркомцяжпрома для падваення вытворчай магутнасці прамысловасці патрабаваў капіталаўкладанняў не больш і не менш, як 1300 мільёнаў рублёў. І тут пастаўленая тав. Орджанікідзе задача інтэнсіфікацыі вытворчасці на заводах дазволіла рашыць справу інакш. Праведзеная ўжо работа па гэтых заводах дала магчымасць устанавіць, што для падваення магутнасці патрабуецца не 1300 мільёнаў рублёў, а 350 мільёнаў рублёў,—напэўна, і таго менш. І ў гэтай справе шкодніцкія планы з іх бясчэсна-рвацкімі патрабаваннямі ў адносінах да дзяржавы былі выкрыты.

Прыклады з серна-кіслотнай і іншымі галінамі прамысловасці, якія маюць вялікае значэнне для абароны краіны, даволі павучальны. На гэтых прыкладах відаць, як зарваўшыяся шкоднікі атрымалі адпор ад кіраўніцтва наркамата. Але і ў гэтых выпадках нам не ўдалося своечасова ўскрыць шкодніцтва і шкоднікаў. Шкодніцкія планы ў даным выпадку былі апракінуты, але арганізацыя шкоднікаў на чале з Ратайчаком і іншымі заставалася да нядаўнага часу нявыкрытай.

Усім вядома барацьба з так званым «прадзельчаствам» у Наркамаце шляхоў зносін. Трацкісцкія шкоднікі ў Наркамаце шляхоў зносін спрабавалі прыкрыць сваю антыдзяржаўную работу навукай і тэхнічнымі меркаваннямі, даказваючы немагчымасць далейшага росту пагрузкі на чыгуначным транспарце без новых вялікіх капіталаўкладанняў. Планы шкоднікаў «прадзельшчыкаў», як вядома, былі сарваны. Тав. Кагановіч паспяхова разгарнуў барацьбу з «прадзельшчыкамі» ў Наркамаце шляхоў зносін. І, як вядома, гэта дало вялікія станоўчыя рэзультаты. Псеўда-навуковыя і псеўда-тэхнічныя пярэчанні шкоднікаў-«прадзельшчыкаў» былі разгромлены практычнымі поспехамі чыгуначнага транспарту. Гэтым была зроблена вялікая справа для дзяржавы. Але ўся справа ў тым, што шкоднікі ў Наркамаце шляхоў зносін сядзелі не толькі ў планавых органах, якія прапаведвалі «тэорыю прадзелаў». Пасля разгрому «прадзельшчыкаў» трацкісцкая шкодніцкая арганізацыя ў Наркамаце шляхоў зносін засталася існаваць і прадаўжала сваю здрадніцкую справу, асабліва настраючыся на ўтварэнні аварый і крушэнняў. Гэта—нам лішні напамінак аб неабходнасці разгарнуць барацьбу са шкодніцтвам і шкоднікамі да канца.

Зразумела, выкрыццё шкоднікаў ляжыць перш за ўсё на органах Наркамата ўнутраных спраў. Але нельга ўсю адказнасць за выкрыццё шкоднікаў узвальваць на органы Наркамата ўнутраных спраў. Для чаго-небудзь сядзяць-жа кіраўнікі ў сваіх арганізацыях, атрымліваюцьжа яны сігналы ад работнікаў свайго апарата, павінны-ж яны хоць часам адчуць небяспеку з боку ворага, калі вораг вядзе падкопы!

Ці зразумелі нашы гаспадарчыя кіраўнікі зараз свае бальшэвіцкія абавязкі ў барацьбе са шкоднікамі, дыверсантамі і шпіёнамі—вось у чым галоўнае пытанне. Гэта яшчэ трэба даказаць. Гэта неабходна даказаць кожнаму кіраўніку на сваім пасту, на сваёй рабоце. Без гэтага нельга ўзняць палітычнае выхаванне кадраў, узмацніць пільнасць і уменне змагацца з ворагам. Кіраўнікі абавязаны, па крайняй меры зараз, калі многія факты ўжо ўскрыты, растлумачыць сваім работні-

кам, дзе яны памыліліся, хто дапусціў гэтыя ўпушчэнні, чаму адбыліся гэтыя факты. Як інакш можна прымусіць людзей задумацца над сваімі недахопамі, як інакш пашырыць палітычны кругазор работнікаў, калі мы не будзем іх вучыць, гэтаму на канкрэтных прыкладах, на канкрэтных памылках і недахопах работы.

Некаторыя думаюць адгаварыцца прызнаннем «некаторых недахопаў» у «некаторых звеннях». Але такія прамовы не варты ні гроша. Кіраўнік, у якога ўскрыты буйныя недахопы, небяспечныя шкоднікі, наяўнасць важных фактаў палітычнай бесклапотнасці, павінен чэсна, на канкрэтных прыкладах, растлумачыць сваім работнікам, свайму актыву, прычыны гэтых з'яў. Толькі так можна папярэдзіць новыя правалы і новыя падкопы ворагаў. Без гэтага нельга гаварыць аб большэвіцкім выхаванні кадраў, без гэтага кіраўнік—не кіраўнік, а бюракрат, саноўнік, што хочаце, але не большэвіцкі прадстаўнік на адказным пасту.

Нам прадстаіць вялікая практычная работа па ліквідацыі шкодніцтва. Наколькі паспяхова справімся мы з гэтай задачай, будзе залежаць ад таго, ці здолеем мы па-большэвіцку падыйсці да гэтага важнага пытання. Ёсць вялікая небяспека, што некаторыя нашы гаспадарнікі яшчэ дрэнна ўлічылі ўрокі шкодніцтва, яшчэ не вызваліліся ад палітычнай бесклапотнасці і адносяцца да гэтай справы павярхоўна, несур'ёзна.

Прывяду цяпер пару такіх прыкладаў, з якіх відаць, што выкрыццё фактаў шкодніцтва—справа няпростая.

Тыповым у гэтых адносінах можна лічыць становішча з волавам. На працягу доўгага часу многія нашы добрыя намеры шкоднікі ў алавянай прамысловасці правальвалі з трэскам. Мы адчуваем патрэбу ў волаве, трацім вялікія сродкі для яго імпарту, таму, здавалася, Наркамцяжпром павінен быў-бы дабіцца правільнай арганізацыі гэтай справы і пакончыць з ганебнымі разважаннямі ўсялякіх шкоднікаў і хвасцістаў аб адсутнасці залежаў волава ў СССР. Але, на наш сорам, нам да гэтага часу не ўдавалася гэтага зрабіць. Гады тры таму назад, наперакор глаўку, прышлося аддаць пад суд кіраўніцтва адпаведнага трэста і некаторых іншых работнікаў, яўна скрываўшых гэтую справу. Але праведзенае аднаўленне асабовага складу ў алавянай прамысловасці да істотнага палепшання не прывяло. Пятакову ўдалося пасадзіць у Галоўнікельволава, якому падпарадкавана алавяная прамысловасць, шкодніка з партыйным білетам—Языкова, і мы ўсё яшчэ застаемся з мізэрнай вытворчасцю волава ў краіне. Тым не менш, не падлягае сумненню, што зараз, прыняўшы меры да ачысткі алавянай прамысловасці ад шкоднікаў і ўлічыўшы нядаўні ўрок, мы хутка рушым гэту работу наперад.

Другім прыкладам нявыкрытага да канца шкодніцтва можна лічыць Уралвагонбуд. Справа ідзе аб буйнейшым вагонабудаўнічым заводзе, які павінен у бліжэйшыя гады даваць галоўную масу вагонаў сучаснага тыпу. На чале гэтага будаўніцтва на працягу раду год стаяў актыўнейшы шкоднік Мар'ясін, прычым сакратаром партыйнага камітэта на «Уралвагонбудзе» быў таксама шкоднік-трацкіст Шаліка-Окуджава. Некалькі месяцаў, як гэтыя шкоднікі выкрыты. Здавалася, трэба было з гэтага зрабіць адпаведныя ўрокі. Наколькі мы здолелі гэта зрабіць,—відаць з наступнага.

У лютым гэтага года па даручэнню Наркомцяжпрома, для праверкі шкодніцкіх спраў на «Уралвагонбудзе» выязджала спецыяльная аўта-

рытэтная камісія. На чале гэтай камісіі былі пастаўлены такія таварышы, як начальнік Галоўбудпрома тав. Гінзбург і кандыдат у члены ЦК ВКП(б) тав. Паўлуноўскі. Да якіх-жа вывадаў прышла гэта камісія? Камісія так сфармулявала агульныя свае вывады па Уралвагонбуду: «Азнаямленне з Уралвагонзаводам прывяло нас да цвёрдага пераканання, што шкодніцкая работа Пятакова і Мар'ясіна на будоўлі не атрымала вялікага развіцця».

Аказваецца, шкодніцтва ва «Уралвагонбудзе» «не атрымала вялікага развіцця». Камісія прабуе абгрунтаваць гэтыя свае вывады, звёўшы недахопы ў будаўніцтве да некаторых перавыдаткаў і да адставання ў будаўніцтве падсобнай гаспадаркі. Але палітычная блізарукасць камісіі зусім відавочна. Нават ранейшых паказанняў шкодніка Мар'ясіна было дастаткова для таго, каб зразумець, што камісія Гінзбурга—Паўлуноўскага змазала фактычнае становішча справы на будоўлі. Даволі сказаць, што гэта камісія не прызнала ні аднаго факта шкодніцтва на будоўлі. Выходзіць, што мацёры шкоднік Мар'ясін разам з другім шкоднікам, Окуджавай, самі на сябе ўзвялі паклёп. Тым часам, пакуль камісія ездзіла на Урал, Мар'ясін даў новыя паказанні, дзе больш канкрэтна ўказвае, у чым заключалася яго шкодніцкая работа на будоўлі. Ён указвае пры гэтым на цэлы рад фактаў шкодніцтва ва Уралвагонбудзе, якія прайшлі міма вачэй паважанай камісіі. Пасля гэтага, таварышы з Наркомцяжпрома, ці не належыць прызнаць, што трэба пасур'ёзней правяраць шкодніцкія справы розных Мар'ясіных і прызнаць, што некаторыя праверачныя камісіі схільны занадта павярхоўна адносіцца да сваіх задач.

Факт з праверачнай камісіяй па «Уралвагонбуду» гаворыць аб тым, што не гледзячы на ўсе ўрокі, мы вельмі туга перабудоўваемся, працягваем хварэць няўменнем распазнаваць ворага, праяўляем і цяпер лішак палітычнай блізарукасці.

Наркомцяжпром, мусіць быць, яшчэ разбярэцца ў гэтай справе больш сур'ёзна, але зараз важна зрабіць урок з работы гэтай камісіі для ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў цэлым. Работа гэтай камісіі паказала, наколькі недастаткова было пастаўлена палітычнае выхаванне гаспадарнікаў, нават калі мы маем справу з буйнейшымі прадстаўнікамі цяжкай прамысловасці. Нават такія буйныя работнікі, як Паўлуноўскі і Гінзбург, правяраючы работу шкоднікаў на месцы, не знайшлі патрэбным указаць хоць-бы на адзін факт шкодніцтва. Нават яны звялі ўсю справу да дробных недахопаў, не заўважыўшы шкодніцтва. Але-ж гэта дае тон, і дрэнны тон, іншым работнікам прамысловасці.

Відавочна, нават у Наркомцяжпроме, не кажучы ўжо аб Наркомлёгпроме, Наркомхарчпроме, Наркомлесе і іншых наркаматах, у адносінах палітычнага разумення выкрытых фактаў шкодніцтва справа абстаіць далёка не добра. Факты паказваюць, што аб наяўнасці палітычнай пільнасці ў адносінах ворага гаварыць рана. Нашы практычныя работнікі ва многіх выпадках так палітычна адсталі, палітычны кругазор іх так замкнуўся, што яны нялёгка разбіраюцца нават у відавочных палітычных фактах. З рэзультатаў работы камісіі Наркомцяжпрома трэба зрабіць урок для ўсёй нашай работы: **у нас няма належнай пільнасці да ворага, трэба ўзняць справу большэвіцкага выхавання кадраў.**

Мы запусцілі справу палітычнага выхавання гаспадарнікаў. Цяпер мы павінны ўзняць іх палітычную пільнасць, расшырыць іх палітычны кругазор, прывіць і ўзмацніць іх большэвіцкія якасці. Задача ўзмац-

нення палітычнага выхавання гаспадарчых кадраў—актуальнейшая задача дня.

Узмацненне большэвіцкай пільнасці—важнейшая ўмова паскорання далейшага росту ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва.

## 2. Падбор работнікаў

Другое пытанне, значэнне якога ў сувязі з урокамі шкодніцтва нельга пераўвялічыць, гэта—падбор работнікаў. І ў гэтых адносінах перад намі ўскрыліся цяпер вялікія недахопы нашай работы, з якімі належыць сур'ёзна лічыцца.

Пачну з пытання аб адносінах да былых трацкістаў. Цяпер можна чакаць у некаторых выпадках шарахання з адной крайнасці ў другую: ад бесклапотнасці ў адносінах трацкістаў-шкоднікаў да агульнага паходу супроць былых трацкістаў. Гэтага нельга дапусціць. Мы часценька чуем цяпер такое пытанне: значыць, нельга мець справу з былымі трацкістамі? Значыць, трэба знімаць з пастоў усіх былых трацкістаў? Такі агульны падыход і ў гэтым выпадку, вядома, няправільны. Мы не можам лічыць памылкай усякае прызначэнне былога трацкіста на адказны пост. Мы не можам адмовіцца ад выкарыстання на адказнай рабоце былога трацкіста толькі за адно тое, што калісьці, у свой час, ён выступаў супроць партыйнай лініі. Трэба разабрацца і сур'ёзна разабрацца ў гэтай справе, перш чым адмовіцца ад выкарыстання яго на той ці іншай рабоце ў даны момант. Дапамагаючы такім таварышам канчаткова выжыць іх мінулыя памылкі, правяраючы іх на рабоце, пад кантролем партыйнай арганізацыі, мы выконваем патрэбную для партыі справу. Але мы ні ў якім разе не можам лічыць правільным такое становішча, калі, прызначаючы былога трацкіста або каго-б там ні было іншага, мы не ўмеем арганізаваць належнага кантролю за яго работай. Гэта ўжо наша віна, віна кіраўнікоў, калі мы не ўмеем на справе правяраць, належным чынам кантраляваць работу былых трацкістаў і іншых работнікаў.

Але сярод нашых людзей ёсць і такія, якія разважаюць на гэты конт зусім няправільна. Яны гатовы адным махам прызнаць мінулую барацьбу трацкістаў з партыяй неістотнай справай для данага моманту. Яны гатовы выкарыстаць усіх былых трацкістаў без разбору, паколькі, бачыце, без іх не абыйдзешся, што ўжо проста смехатворна. Нельга не прызнаць, што ў гэтым сказваюцца зусім небольшэвіцкія адносіны да справы, што гэта абывательскі апалітыцызм, у корані чужды большэвізму. У гэтым нельга не бачыць спробы адмахнуцца ад аднаго з самых важных абавязкаў кіраўніка—ад абавязку сур'ёзна займацца расстаноўкай і падборам работнікаў. Займацца гэтай справай вядома не так проста, як здаецца тым таварышам, якія перадаручаюць гэту справу абы каму з свайго апарата. Трэба ведаць сваіх работнікаў, трэба сачыць за іх работай, правяраць іх работу, крытыкаваць адстаючых і звальняць няздольных і абюракрацеўшыхся, заўважваць новых, растучых работнікаў і актыўна дапамагаць іх вылучэнню.

Большэвіцкі падыход да справы патрабуе ўмення правяраць работнікаў з улікам іх дзелавых і палітычных якасцей. Нельга правяраць работнікаў проста па анкетах аб іх мінулай дзейнасці. Гэта—не сапраўдная праверка. Нельга кіравацца выпадковымі ўспамінамі і спраўкамі аб іх ранейшай рабоце. Так лёгка можна падвесці справу. Недапушчальна вырашаць пытанне аб прыгоднасці работніка па асабі-

стых прывязанасцях і сімпатыях. Тады ад падхалімства проста не будзе куды дзецца. Няправільна таксама меркаваць аб работніках па рапартах, хоць-бы і па рапартах аб перавыкананні планаў. Крытэрыем у падборы работнікаў павінны быць як іх дзелавыя, так і іх палітычныя якасці, аб якіх кіраўнік павінен ведаць,—ведаць не па чутках і не па паперках, а ўсур'ёз, на падставе штодзеннага нагляду за работай і на падставе пастаяннай праверкі работы гэтых людзей. Толькі такі падбор работнікаў можна лічыць большэвіцкімі адносінамі да справы.

Тады мы пакончым з такімі фактамі, якія інакш як ганебнымі, назваць нельга. Прывяду прыклад.

Былы галоўны інжынер Осінаўскага рудніка ў Кузбасе, шкоднік Ежоў, паказваў аб рабоце тагочаснага галоўнага інжынера «Кузбасвугаля», шкодніка Страілава, наступнае:

„Тэхнічную палітыку ў „Кузбасвугалі" непадзельна творыць Страілаў, расстаноўка асноўных інжынерных кадраў праводзіцца ім-жа. Ен выжывае совецкіх спецыялістаў і акружае сябе інжынерствам старой фармацыі, якое беспярэчна яму падначальваецца".

Нельга сказаць, каб такія факты служылі ўпрыгожаннем гаспадарчых кіраўнікоў, якія адказвалі за «Кузбасвугаль». Але-ж гэта толькі адзін з вельмі многіх фактаў, якія паказваюць, як небяспечна выпускаць падбор работнікаў з рук кіраўніка, як небяспечна пачыноўніцку адмахвацца ад гэтай справы.

Пара прызнаць, што кіраўнік адказвае за падбор работнікаў. Якога-б высокага звання і чыну не быў чалавек, але калі ён не здолен прымеціць шкоднікаў, якія працуюць пад носам, і нават не хоча ўнікаць у такія пытанні,—ён не кіраўнік, а канцылярыст, пусты чыноўнік. Ніхто не застрахован ад таго, што да яго не пракрадзецца, пад той ці іншай лічынай, вораг і прамы здраднік,—памылкі, зразумела, магчымы. Але калі ты дапусціш у сваім акружэнні суцэльную гніль, калі акружыш сябе ўсякімі чуждымі і падазронымі людзьмі, калі ты сам не праявіш ініцыятывы ў барацьбе з гэтым акружэннем, то як-жа можна зняць з цябе адказнасць за бесклапотнасць, за неразборлівасць, за палітычную блізарукасць? Не так лёгка разгадаць ворага-двурушніка, які прыкрываецца лічынай адданасці, а часам і мінулымі заслугамі. Але мы павінны зразумець, што кіраўнік павінен развіваць у сабе тыя якасці, якія неабходны для распазнавання ворага. Хто з кіраўнікоў не клапоціцца аб развіцці гэтых якасцей, не развівае ў сабе здольнасці распазнаваць усе і ўсякія прыёмы ворагаў, у тым ліку прыёмы самых спрытных у прыспасабленцтве і двурушніцтве здраднікаў, той адмахваецца ад аднаго з асноўных большэвіцкіх абавязкаў.

Хто не ведае, што нам прыходзіцца выкарыстаць на рабоце і людзей, варожых совецкай уладзе? Мы і ад гэтага адмаўляцца не можам. Ёсць людзі з буржуазных спецыялістаў, якія пад добрым кантролем, пры належнай пільнасці кіраўнікоў могуць прынасіць і прыносяць немалую карысць дзяржаве. Для таго, каб папярэдзіць магчымыя ў гэтым выпадку памылкі, кіраўнікі павінны па сутнасці ўнікаць у іх работу, сачыць за адпаведнымі сігналамі аб іх рабоце, правяраць усімі даступнымі сродкамі сапраўдны характар іх работы, вынаходзіць новыя сродкі праверкі, дзе не хапае старых.

Напомню на гэты конт выдатныя словы Леніна. У артыкуле «Лепш менш, ды лепш» Ленін спецыяльна вучыў гэтаму комуністаў. Там ён

непасрэдна гаварыў аб работніках РСІ, але па сутнасці гэтыя ўказанні адносяцца да ўсіх нас, да ўсіх кіраўнікоў. Ленін гаварыў тады:

«... ім прыдзецца падрыхтоўваць сябе да работ, якія я не пасароміўся-б назваць падрыхтоўкай да лоўлі, не скажу—машэннікаў, але накшталт таго, і прыдумваннем асобых хітрыкаў для таго, каб прыкрыць свае паходы, падыходы і т. п.

Калі ў заходне-еўрапейскіх установах падобныя прапановы выклікалі-б нечуванае негадаванне, пачуццё маральнага абурэння і т. д., то я спадзяюся, што мы яшчэ недастаткова абюракраціліся, каб быць здольнымі на гэта... У нас яшчэ так нядаўна пабудавана совецкая рэспубліка і навалена такая куча ўсякага хламу, што пакрыўдзіцца пры думцы аб тым, што сярод гэтага хламу можна рабіць раскопкі пры дапамозе некаторых хітрыкаў, пры дапамозе разведак, накіраваных часам на даволі аддаленыя крыніцы або даволі кружным шляхам, наўрад ці прыдзе камунебудзь у галаву, а калі і прыдзе, то можна быць упэўненым, што над чалавекам мы ўсе ад душы пасмяемся».

Ленін гаварыў далей так:

«Калі я пісаў вышэй аб тым, што мы павінны вучыцца і вучыцца ў інстытутах па вышэйшай арганізацыі працы і т. п., то гэта ні ў якім разе не азначае, што я разумею гэта «вучэнне» колькі-небудзь па-школьнаму, або каб я абмежаваўся думкаю аб вучэнні толькі па-школьнаму. Я спадзяюся, што ні адзін сапраўдны рэволюцыянер не западозрыць мяне ў тым, што я пад «вучэннем» у гэтым выпадку адмовіўся зразумець якую-небудзь напоўжартоўную прадзелку, якую-небудзь хітрыку, якую-небудзь каверзу або нешта накшталт гэтага. Я ведаю, што ў заходнееўрапейскай чыннай і сур'ёзнай дзяржаве гэта мысль выклікала-б сапраўдны жах, і ні адзін парадачны чыноўнік не згадзіўся-б нават дапусціць яе да абмеркавання. Але я спадзяюся, што мы яшчэ недастаткова абюракраціліся, і што ў нас нічога, апрача вясёласці, абмеркаванне гэтай мыслі не выклікае.

На самай справе, чаму не спалучыць прыемнае з карысным? Чаму не скарыстаць якую-небудзь жартоўную або напоўжартоўную прадзелку для таго, каб накрыць што-небудзь смешнае, што-небудзь шкоднае, што-небудзь поўсмешнае, поўшкоднае і т. д.?»

Вось як вучыў Ленін правяраць работнікаў, калі справа ідзе аб ахове інтарэсаў дзяржавы, аб абароне інтарэсаў працоўных. Каб выкрыць ворага, або поўворага, каб выкрыць што-небудзь «шкоднае» або «поўшкоднае», Ленін раіў прыбягаць да «хітрыкаў», да «разведак», да «каверз», да «прадзелак». Калі-б мы гэтыя ўказанні Леніна сур'ёзна выкарысталі ў нашай рабоце, мы многіх шкоднікаў выкрылі-б раней, мы не дапусцілі-б раду дыверсій, падкопаў і шпіёнскіх вылазак на заводах, у шахтах, на чыгунцы. Па крайняй меры на будучае мы павінны ўлічыць гэтыя парады Леніна так, як належыць большэвікам.

Мы нярэдка чуем ад адказнейшых таварышоў, што работнікаў ім дае партыя, партыйная арганізацыя. Гэтым хочуць сказаць, што, так званы, «адказны работнік» не адказвае за падбор работнікаў свайго апарата, што калі гэтыя работнікі дрэнны, або аказаліся прама вора-

гамі, то адказнасць быццам нясе не непасрэдны кіраўнік, а партыйная арганізацыя, паслаўшая работніка. Такія гутаркі, бадай, можна яшчэ зразумець з боку тых беспартыйных, для якіх партыя—чужая справа. Комуністы не могуць так гаварыць: партыйная арганізацыя, зразумела, нясе адказнасць за комуніста і за тых, каго яна накіроўвае на тую ці іншую работу, але гэта не значыць, што каму-б там ні было дано права пэцкаць імя партыі.

Наадварот, нашым пярвейшым абавязкам, абавязкам кіраўнікоў, з'яўляецца абавязак правяраць на рабоце прысланых партыйнай арганізацыяй работнікаў. Накіроўваючы работніка, партыйная арганізацыя патрабуе правільнага яго выкарыстоўвання, праверкі яго здольнасці на справе, кантролю за яго работай. Абавязак кіраўніка своечасова папярэдзіць партыйную арганізацыю аб недахопах, а тым больш аб злачынствах тых, хто непасрэдна працуе ў данага кіраўніка. Але мы нешта не сустракаемся з такім становішчам, што, скажам, кіраўнік-гаспадарнік выкрыў таго ці іншага шкодніка, а партыйная арганізацыя яго абараняе. На справе мы маем звычайна адваротнае. Нават пасля выкрыцця шкодніка, і не гледзячы на законнае патрабаванне партыйнай арганізацыі замяніць яго чэсным работнікам, гаспадарнікі нярэдка выступаюць абаронцамі чуждых людзей, праяўляючы то і знай абывательскую неразборлівасць, палітычную слепату. Хіба гэта не верна?

Мы нямала ўзнагароджваем гаспадарнікаў ордэнамі, праслаўляем іх поспехі. Будзем гэта рабіць і далей. Але ў нас ёсць такія людзі, якія ахвотна прыпісваюць сабе ўсе поспехі прадпрыемства або цэлай галіны прамысловасці, але лічаць сябе свабоднымі ад адказнасці за грубыя палітычныя памылкі ў сваёй рабоце, за бесклапотнасць, і слепату ў адносінах шкоднікаў. Таму прыходзіцца напомніць нашым кіраўнікам не толькі аб іх маральнай і юрыдычнай адказнасці за праяўленне палітычнай блізарукасці, але трэба прама сказаць такім людзям, што яны ставяць сябе ў становішча, калі за іх спіной трацкісцкія і іншыя шкоднікі здзекваюцца над іх бездапаможнасцю, насміхаюцца над іх палітычнай блізарукасцю. Хоць-бы гэты зларадны смех ворага прымусіў некаторых пагразшых у бесклапотнасці кіраўнікоў узяцца за розум, стражэй правяраць адказныя ўчасткі сваёй работы, пільней глядзець за работай свайго апарата!

Урокі выкрытай шкодніцка-дыверсійнай работы трацкісцка-фашысцкай шайкі падкрэсліваюць неабходнасць высоўвання на кіруючыя пасты палітычна-правераных, чэсных у адносінах да дзяржавы работнікаў. Там, дзе слабы нашы кадры, мы павінны больш рашуча высоўваць палітычна правераных, хоць і недастаткова падрыхтаваных, але здольных і жадаючых вучыцца работнікаў. Такіх людзей нямала. Іх можна і патрэбна навучыць працаваць, узняць іх дзелавую кваліфікацыю.

Кіраўнік павінен умець падабраць сваіх асноўных работнікаў, правяраць іх работу, дапамагаць ім выпраўляць недахопы ў рабоце, садзейнічаць іх палітычнаму развіццю. Кіраўнік, які не займаецца падборам асноўных работнікаў або не ўмее па-большэвіцку падыйсці да гэтай справы,—не кіраўнік, а пусты канцылярыст ці балбатун. У нас шмат недахопаў у падборы работнікаў таму, што многія кіраўнікі пагарджаюць гэтай справай, забываючы аб сваёй палітычнай адказнасці, забываючы аб тым, што **праверка, асабліва палітычная праверка, і расстаноўка работнікаў з улікам не толькі дзелавых, але і**

**палітычных якасцей—важнейшая справа кожнага кіраўніка-бальшэвіка.**

Кіраўнік адказвае за свае кадры. Кіраўніка трэба правяраць, перш за ўсё, па ўменню расставіць работнікаў, па ўменню падбіраць кадры з улікам як дзелавых, так і палітычных іх якасцей. Мы не вынесем належных урокаў з выкрытай дыверсійна-шпіёнска-шкодніцкай работы трацкісцкай банды, калі не даб'емся сур'ёзнага палепшання ў падборы работнікаў у нашых гаспадарчых органах і на прадпрыемствах, калі нашы кіраўнікі не зразумеюць сваёй сур'ёзнай адказнасці за гэтую справу. Палепшыўшы-ж арганізацыю гэтай справы, мы яшчэ хутчэй будзем крочыць наперад ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Узняць адказнасць кіраўнікоў за падбор работнікаў—вось яшчэ адзін важны вывад з урокаў шкодніцтва.

## 3. Метад кіраўніцтва

Нарэшце, трэцяе пытанне—аб метадах кіраўніцтва.

За апошнія гады гэтаму пытанню партыя ўдзяляла выключную ўвагу. Напомню ў першую чаргу аб пастановах Соўнаркома СССР і ЦК ВКП(б): «Аб рабоце вугальнай прамысловасці Донбаса» і «Аб рабоце чыгуначнага транспарту», якія адносяцца к лету 1933 года.

У пастанове аб Донбасе, справы якога тады былі вельмі дрэнныя, СНК СССР і ЦК ВКП(б) сказалі, што:

> «...галоўнай прычынай гэтага ганебнага руху назад з'яўляецца ўсё яшчэ нязжыты, канчаткова абанкроціўшыйся канцылярска-бюракратычны метад кіраўніцтва вугальнай прамысловасцю, пачынаючы ад шахты і канчаючы Галоўным апалавым кіраўніцтвам Народнага Камісарыята Цяжкай Прамысловасці.

У пастанове аб чыгуначным транспарце ЦК ВКП(б) і СНК СССР сказалі, што лічаць:

> «...галоўнай прычынай зусім нездавальняючай работы чыгунак недахопы кіраўніцтва, недахопы арганізацыйнага характару, усё яшчэ нязжыты, канчаткова абанкроціўшыйся канцылярска-бюракратычны метад кіраўніцтва чыгункамі, пачынаючы ад раёнаў і дырэкцый і канчаючы цэнтральнымі кіраўніцтвамі Народнага Камісарыята Шляхоў Зносін».

У гэтых рашэннях партыі і ўрада ўдар быў накіраван па канцылярска-бюракратычных метадах у рабоце гаспадарчых органаў. У перамаганні бюракратызма ў апараце прамысловасці і транспарту партыя бачыла галоўную задачу пад'ёму іх работы. Жыццё цалкам пацвердзіла правільнасць гэтай устаноўкі. Кожны сур'ёзны крок у перамаганні бюракратызма ў нашых гаспадарчых арганізацыях даваў нам сур'ёзныя поспехі. Мы бачылі гэта не толькі на прыкладзе вугальнай прамысловасці і чыгуначнага транспарту.

Важным момантам у палепшанні метаду гаспадарчай работы за апошнія гады была барацьба з так званай «функцыяналкай».

Адзін час у функцыянальнай пабудове апарата нашы гаспадарчыя органы зайшлі занадта далёка. Недахоп практычнага вопыту і ведаў спрабавалі замяніць стварэннем шматлікіх, не склееных паміж сабой, функцыянальных органаў. У выніку нярэдка ствараўся складанейшы бюракратычны апарат з заблытанымі ўзаемаадносінамі яго

частак, са шматлікімі, паралельна працуючымі органамі, якія блыталіся адзін у аднаго ў нагах. Такі апарат не можа не пладзіць бюракратычную безадказнасць і лішак бюракратычных скажэнняў. Не толькі ва ўстановах, але і ў прамысловых прадпрыемствах «функцыяналка» прынесла нам нямала шкоды.

Так, некалькі год назад у баваўняна-папяровай прамысловасці заняліся было скасаваннем такіх прафесій, як ткацтва з заменай ткачоў і ткачых некваліфікаванымі рабочымі, выконваючымі паасобныя спрошчаныя вытворчыя функцыі, на якія разбілі работу па ткацтву. Гэта «ноўшаства» у тэкстыльнай прамысловасці сяму-таму з нашых таварышоў спадабалася. На правядзенні гэтай справы склаўся свайго роду саюз шкоднікаў і галавацяпаў. Добра, што мы хутка выправілі гэту недарэчнасць.

Партыя разгарнула рашучую барацьбу з раздутай функцыянальнай сістэмай ва ўсіх галінах і, бясспрэчна, зрабіла гэта правільна.

У сувязі з фактамі выкрытай дыверсійна-шпіёнска-шкодніцкай работы трацкісцкіх і іншых элементаў ускрыліся многія недахопы нашага гаспадарчага апарата.

Так, цяпер ясна, што трацкісцкія шкоднікі, дыверсанты і шпіёны ва многім выкарысталі ў сваіх злачынных інтарэсах існуючыя ў нашых гаспадарчых органах бюракратычныя скажэнні прынцыпу адзінаначалля. Рэзалюцыя Пленума ЦК ВКП(б) гаворыць па гэтаму поваду:

> «Бюракратычныя скажэнні прынцыпу адзінаначалля, якія зводзяцца к таму, што многія гаспадарчыя кіраўнікі лічаць сябе на падставе адзінаначалля зусім свабоднымі ад кантролю грамадскай думкі мас і радавых гаспадарчых работнікаў, не прыслухоўваюцца да голасу гаспадарча-вытворчага актыва, не лічаць патрэбным абаперціся на гэты актыў, адрываюцца ад актыва і тым самым пазбаўляюць сябе падтрымкі актыва ў справе выяўлення і ліквідацыі недахопаў і прарэх, выкарыстоўваемых ворагамі для іх дыверсійнай работы».

Гэта вельмі важнае ўказанне. Не можа быць ніякай барацьбы з канцылярска-бюракратычнымі метадамі, калі мы будзем праходзіць міма такіх скажэнняў прынцыпу адзінаначалля.

У мэтах карэннага палепшання гаспадарчага кіраўніцтва партыя ўказвае на вытворча-гаспадарчыя актывы, як на важнейшую апору кіраўнікоў. Гаспадарчае кіраўніцтва настолькі ўскладнілася, абавязкі гаспадарчых кіраўнікоў настолькі пашырыліся, што справіцца з гэтай справай без дапамогі актыва, без яго падтрымкі—нельга. Добрыя гаспадарнікі і цяпер ведаюць аб гэтым і бачаць у актывах сваю верную апору.

Мы за цвёрдае правядзенне прынцыпу адзінаначалля, але мы не можам мірыцца з такім разуменнем гэтага прынцыпу, калі кіраўнік процістаўляе сябе астатнім сваім работнікам, калі ён лічыць сябе свабодным ад грамадскага кантролю мас і радавых гаспадарнікаў, адрываецца і пагарджае актывам—замест таго, каб у падтрымцы актыва бачыць сваю асноўную апору. Падняць актывы ў гаспадарчых органах і на прадпрыемствах, прыцягнуць туды не толькі партыйных, але і беспартыйных актывістаў—адна з важнейшых задач палепшання нашай гаспадарчай работы, адна з верных гарантый далейшых сур'ёзных поспехаў. Хто з кіраўнікоў не зразумее гэтай бальшэвіцкай устаноўкі, той акажацца ў хвасце падзей, акажацца ў палоне адсталых і абюракраціўшыхся. Гаспадарча-вытворчыя актывы дапамогуць нам

хутчэй рушыць усю работу наперад, яны ўскрыюць многія прарэхі, дапамогуць выкрыццю і знішчэнню трацкісцкіх і іншых шкоднікаў. Гэтыя актывы правільна зробяць, калі не пашкадуюць некаторых дутых аўтарытэтаў, але таксама і высунуць нямала новых людзей, здольных рухаць справу па-большэвіцку. Граміць трацкістаў і іншых шкоднікаў і вылучаць новых, здольных, адданых работнікаў совецкай уладзе—гэта два бакі адной і той самай задачы.

Нашы гаспадарнікі справяцца з гэтай задачай, калі часцей будуць успамінаць указанне таварыша Сталіна аб тым, што патрабуецца для таго, каб наладзіць кіраўніцтва па-новаму. Сярод іншых указанняў таварыш Сталін на летняй нарадзе гаспадарнікаў у 1931 годзе падкрэсліваў такое:

«Патрабуецца далей, каб старшыні аб'яднанняў і іх намеснікі часцей аб'язджалі заводы, даўжэй заставаліся там для работы, лепш знаёміліся з заводскімі работнікамі і не толькі вучылі мясцовых людзей, але і вучыліся ў іх. Думаць, што можна кіраваць цяпер з канцылярыі, седзячы ў канторы, воддаль ад заводаў,— значыць заблуджацца. Каб кіраваць заводамі, трэба часцей мець зносіны з работнікамі прадпрыемстваў, трэба падтрымліваць з імі жывую сувязь».

Час зразумець, што без развіцця самакрытыкі і крытыкі мы не даб'емся сур'ёзных рэзультатаў у барацьбе з бюракратычнымі скажэннямі. Супроць злоўжыванняў у гэтай справе ў нас даволі сродкаў. Але развіццё крытыкі з боку мас і радавых гаспадарчых работнікаў не паспела яшчэ зрабіць колькі-небудзь істотных новых заваяванняў, а ўжо некаторыя таварышы гатовы біць адбой.

Перад самым Пленумам ЦК ВКП(б) на імя тав. Орджанікідзе паступіла пісьмо дырэктара Днепрапетроўскага металургічнага завода тав. Бірмана. Вось як пачынаецца гэта пісьмо тав. Бірмана:

«Становішча, якое ствараецца асабліва ў апошні час тут, у Днепрапетроўску, вымушае мяне звярнуцца да Вас, як да старэйшага таварыша, як да члена Палітбюро, за ўказаннямі і за садзейнасцю.

Мне здаецца, што дырэктыву вышэйшых партыйных інстанцый аб усямерным разгортванні крытыкі і самакрытыкі тут у Днепрапетроўску ў некаторых адносінах зразумелі няправільна. Замежнае слова «крытыка» тут часта блытаюць з рускім словам «трепаться». Я думаю, што дырэктыва партыі накіравана на тое, каб шляхам добрасумленнай крытыкі выявіць сапраўдных ворагаў, ускрыць сапраўдныя недахопы. Тут-жа многія зразумелі так, што трэба ва што-б там ні стала абліваць граззю адзін аднаго, але ў першую чаргу пэўную катэгорыю кіруючых работнікаў.

Гэтай пэўнай катэгорыяй кіруючых работнікаў і з'яўляюцца ў першую чаргу гаспадарнікі, дырэктары буйных заводаў, якія, як па манавенню таямнічай чараўнічай палачкі, зрабіліся цэнтральнай мішэнню гэтай часткі самакрытыкі. Устаноўлена, што адной з асноўных прычын усяго таго, што адбылося, з'яўляецца забыццё партыйнымі арганізацыямі партыйнай работы. Аднак, у выступленнях не малой колькасці партыйных работнікаў на толькі што адбыўшымся трохдзенным пасяджэнні абласнога партыйнага актыва замест сапраўднай самакрытыкі атрымалася так, што прычынай усіх бед з'яўляюцца гаспадарнікі».

Нельга адмаўляць права тав. Бірмана абараняцца ад няправільнай крытыкі. Відаць ён мае пэўныя падставы крытыкаваць выступлення некаторых партыйных работнікаў.

З пісьма відаць, што некаторыя партыйныя работнікі Днепрапетроўска спрабуюць накіраваць крытыку аднабакова—супроць кіраўніцтва завода, супроць гаспадарнікаў. З гэтым ніяк нельга згадзіцца. Але тав. Бірман упадае ў другую аднабаковасць: ён лічыць няправільным усе недахопы валіць на гаспадарчых работнікаў, але, на жаль, сам не хоча гаварыць аб недахопах у гаспадарнікаў і бачыць недахопы толькі ў партыйных работнікаў. Гэта няправільная, не наша ўстаноўка. Гэта аднабокая, ведамственая ўстаноўка, якую мы не можам падтрымаць.

Мы за тое, каб усяляк дапамагаць нашым гаспадарнікам у іх рабоце, не звальваць на іх чужую віну, але і не замазваць іх недахопы. Здаецца, цяпер, пасля выкрыцця такой колькасці шкоднікаў, дыверсантаў і шпіёнаў у гаспадарчым апараце, якіх мы прамаргалі, вельмі своечасова пакрытыкаваць нашых гаспадарнікаў, каб узняць іх работу, палепшыць метады іх работы. Але гэта не значыць, што трэба абыходзіць недахопы, промахі і памылкі партыйных работнікаў, партыйных кіраўнікоў. І тых і другіх трэба крытыкаваць, выпраўляючы іх памылкі. Адкрыўшыяся язвы ў нашым апараце, дзе хаваліся трацкісцкія і іншыя агенты замежных контрразведак, дастаткова гавораць аб тым, што ёсць нямала недахопаў у рабоце як гаспадарчых, так і партыйных работнікаў. Нам трэба ўсім падцягнуцца ў рабоце, у гаспадарчай і ў партыйнай, ды і ў прафсаюзнай, аб якой мала гавораць, але зусім не таму, што там справа абстаіць добра.

Цяпер аб праверцы выканання. Трэба прама сказаць: хай лепш будзе паменш распараджэнняў, паменш папяровай «аператыўнасці», але пабольш праверкі выканання прынятых рашэнняў і распараджэнняў. Тым часам па частцы арганізацыі праверкі выканання ў нас шмат грахоў.

Нядаўна мы мелі павучальны прыклад з Наркомлесам.

Восенню Цэнтральны Камітэт сабраў нараду лесазагатоўшчыкаў для палепшання гэтай справы. Гэта якраз супала з назначэннем тав. Іванова наркомам лясной прамысловасці. На нарадзе ўскрылася шмат недахопаў. Адзін з іх асабліва кінуўся ў вочы. Аказалася, што кіруючыя работнікі Наркомлеса не ведаюць, ці не памятаюць,—не ведаюць, што лепш,—аб важнейшых рашэннях партыі і ўрада, якія адносяцца да іх работы. Так, на нарадзе доўга абмяркоўвалася пытанне ад дагаворах з калгасамі па забеспячэнню лесазагатоўшчыкаў рабочай сілай. Пры гэтым лесазагатоўшчыкі нясмела падыходзілі да пытанняў аб неабходнасці заключаць дагаворы не з калгасамі ў цэлым, як рабілася звычайна, а з паасобнымі калгаснікамі. Толькі к канцу нарады ўдалося высніць, што гэта пытанне, пытанне аб мэтазгоднасці заключэння дагавораў з паасобнымі калгаснікамі было станоўча вырашана партыяй і ўрадам яшчэ ў пачатку мінулага года. Аказалася, што таварышы леснікі забылі аб гэтым рашэнні, а тым часам, яно мае першаступеннае значэнне для пераходу лесазагатовак ад старых поўсаматужных метадаў работы праз калгасы—да індустрыяльных метадаў з апорай на свае сталыя кваліфікаваныя кадры. Ці можна чакаць сур'ёзнага палепшання работы лесазагатоўшчыкаў, калі яны будуць «забываць» аб тым, што мае рашаючае значэнне ў іх рабоце? Але калі так быстра «забываюцца» важнейшыя рашэнні, то аб якой праверцы выканання можна тут гаварыць? А гэта-ж толькі адзін з

многіх паказчыкаў бесклапотнасці і безадказнасці гаспадарчых кіраўнікоў.

Возьмем далей становішча ў Наркомсоўгасаў. Нядаўна ў Соўнарком і Камісію Совецкага Кантроля паступіла пісьмо ад намесніка наркома, начальніка паліткіраўніцтва Наркомсоўгасаў тав. Сомса. Намеснік наркома тав. Сомс пісаў наступнае:

> «З цэнтральнага планава-фінансавага аддзела Наркомсоўгасаў арыштаваны НКУС за ўдзел у контррэволюцыйнай трацкісцкай рабоце Прэабражэнскі—намеснік начальніка ЦПФА тав. Майстровага, які адначасова з'яўляецца і начальнікам сектара зводнага планіравання; парторг групы ЦПФА—Бармін і Пушчын (беспартыйны)—начальнік групы зернасоўгасаў».

Напісана гэта не зусім граматна і проста не асабліва зразумела, але тав. Сомс робіць з гэтых слоў вывад, што

> «можна меркаваць, што ў ЦПФА Наркомсоўгасаў за час работы вышэйпаказаных антысовецкіх асоб вялася шкодніцкая работа па стварэнню цяжкага фінансавага становішча соўгасаў»

і далей:

> «Я прашу Вас назначыць спецыяльную рэвізію становішча работы і спраў ЦПФА Наркомсоўгасаў для праверкі магчымай шкодніцкай работы ў галіне фінансаў Наркомсоўгасаў з боку Прэабражэнскага, Барміна, Пушчына і інш. работнікаў».

Замест таго, каб намесніку наркома самому, разам з наркомам, узяцца за ачышчэнне свайго апарата, тав. Сомс хоча наваліць гэту справу на другіх. Такія адносіны да сваіх абавязкаў вельмі пахнуць безадказнасцю. Незразумелы таксама і дабрадушныя паводзіны наркома тав. Калмановіча, які наогул адмаўчваецца ў такіх выпадках. Ці не час ім, наркому і яго намеснікам, самім заняцца чысткай свайго апарата? Для чаго-ж яны там сядзяць?

Комуністам кіраўнікам час зразумець, што яны адказваюць за свой апарат, за ўменне яго правяраць і накіроўваць работу па прызначэнню. Нельга звальваць абавязак па праверцы апарата на Наркомунутсправ або на Камісію совецкага кантроля або на якія-небудзь іншыя органы. Так могуць паступаць безадказныя чыноўнікі, але не большэвікі, якім дорага справа, якія не лянуюцца ў рабоце, якія маюць сувязь з сваім актывам.

Для палепшання метадаў гаспадарчай работы мае вялікае значэнне яшчэ адно ўказанне Пленума ЦК, дзе гаворыцца аб неабходнасці забяспечыць прадпрыемствы тэхнічнымі правіламі і інструкцыямі.

За апошнія гады нашы заводы і фабрыкі ва многім пераабсталяваны і пабудаваны занова. Працаваць па-старынцы ўжо нельга. Трэба, каб у вытворчым жыцці быў строгі парадак, каб былі тэхнічныя правілы і інструкцыі ў цэхах, каб гэтыя правілы і інструкцыі добра ведалі адпаведныя работнікі, каб іх інструктавалі інжынеры ў штодзённай рабоце, каб уся гэта работа правяралася дырэктарам і яго памочнікамі. У нашых прадпрыемствах многа новых варштатаў, машын, тэхнічнага абсталявання і інш. З гэтым новым абсталяваннем нельга працаваць без ведання адпаведных тэхнічных правіл і інструкцый, без штодзеннага жывога інструктажу рабочых у правядзенні гэтых правіл і інструкцый, без сур'ёзнай арганізацыі гэтай справы. Толькі некультурнымі адносінамі да вытворчасці можна растлумачыць пагарджанне гэтай справай.

Трэба памятаць таксама аб тым, што нашы ворагі—трацкісцкія і іншыя шкоднікі карыстаюцца кожным непарадкам, каб перашкаджаць прадпрыемству, пакасціць рабочаму класу. І тут трэба памятаць аб указаннях Леніна, як трэба змагацца з сабатажнікамі і шкоднікамі. Яшчэ ў 1919 годзе ў «Пісьме да рабочых і сялян па поваду перамогі над Калчаком» Ленін пісаў аб сабатажніках і ўсякіх ворагах совецкай улады:

«З гэтымі ворагамі працоўных, з памешчыкамі, капіталістамі, сабатажнікамі, белымі, трэба быць бязлітасным.

А каб умець лавіць іх, трэба быць умелым, асцярожным, свядомым, трэба ўважлівейшым чынам сачыць за малейшым беспарадкам, за малейшым адступленнем ад добрасумленнага выканання законаў Совецкай улады. Памешчыкі і капіталісты моцны не толькі сваімі ведамі і сваім вопытам, не толькі дапамогай багацейшых краін свету, але таксама і сілай прывычкі і цемнаты шырокіх мас, якія хочуць жыць «па-старынцы», і не разумеюць неабходнасці выконваць строга і добрасумленна законы Совецкай улады.

Малейшае беззаконне, малейшае парушэнне совецкага парадку ёсць ужо **дзіра,** якую недкладна выкарыстаюць ворагі працоўных...»

З гэтага відаць, што карысна часцей напамінаць указанні Леніна аб тым, як нам трэба працаваць.

Калі мы здолеем па-сапраўднаму абаперціся на актывы ў прадпрыемствах і ва ўстановах, наша кіраўніцтва ўзнімецца на новую, больш высокую ступень, і работа пойдзе куды больш паспяхова. Ад палепшання метада кіраўніцтва цяпер залежыць вельмі многае. Мы павінны лічыцца з вялікімі недахопамі, з вялікімі бюракратычнымі наслаеннямі ў нашым гаспадарчым кіраўніцтве, як з фактам. Але ў нас ёсць магутны сродак узняцця справы гаспадарчага кіраўніцтва, якога не мае і не можа мець ні адна краіна, ніякая ўлада, апрача совецкай ўлады. Трэба **ліквідаваць бюракратычныя скажэнні ў кіраўніцтве, узняць гэту барацьбу, па-большэвіцку ўзяўшыся за арганізацыю гаспадарча-вытворчых актываў.**

* * *

Такім чынам, на ўроках шкодніцтва, дыверсій і шпіянажу трацкісцкай і замежнай агентуры мы павінны навучыцца таму, як перамагчы ўскрыўшыяся сур'ёзныя недахопы ў справе выхавання работнікаў, у падборы кадраў, у метадах гаспадарчага кіраўніцтва. Без настойлівай работы па большэвіцкаму выхаванню гаспадарча-тэхнічных кадраў, без сур'ёзнага палепшання гэтай справы, мы не справімся з новымі задачамі, мы не выкарчуем да канца трацкісцкіх і іншых ворагаў народу. Без рашучай барацьбы з абывательска-беспрынцыпнымі адносінамі да падбору работнікаў, без узняцця гэтай справы на больш высокі палітычны ўзровень, нашы кіраўнікі не могуць лічыцца сапраўднымі большэвіцкімі кіраўнікамі, якія стаяць на ўзроўні сучасных задач. Без жорсткай крытыкі бюракратычнай безадказнасці і канцылярщчыны ў метадах работы, як бы гэта ні закранала тыя ці іншыя раздутыя аўтарытэты, нельга рухацца наперад, як гэта патрэбна краіне социялізма, як гэта патрэбна большэвікам. Да галоўных умоў нашых поспехаў мы павінны аднесці ўмацаванне большэвіцкіх якасцей нашых кіраўнікоў, забеспячэнне большэвіцкіх адносін

да справы выхавання нашых кадраў. Гэта павінны зразумець нашы гаспадарнікі, ды і не толькі гаспадарнікі.

Цяпер нярэдка можна сустрэцца з такім разважаннем: размовы аб шкодніцтве моцна раздуты; калі-б шкодніцтва сапраўды прадстаўляла буйнае значэнне, то ў нас не было-б тых поспехаў, якімі мы ганарымся. Поспехі нашай прамысловасці, моў, гавораць аб тым, што шкодніцтва некім раздута.

Такое разважанне—вядома, грубая памылка, памылка палітычнай блізарукасці. Факты гавораць аб іншым. Шкодніцтва прычыніла нам не мала страт, замазваць гэты непрыемны факт лёгкадумна, неразумна.

Каб зразумець урокі шкодніцтва, трэба даць адпор і такога роду разважанням. Па-абывательску настроеныя гаспадарнікі гавораць часам так: у нас выкрываюць шкодніцтва, а тым часам планы мы выконваем. І сапраўды, у нас ёсць цэлыя галіны прамысловасці, на чале якіх стаялі на працягу раду год трацкісты-шкоднікі, а заводы усё-ж выконвалі вытворчыя планы. Нават хімічны главк Наркомцяжпрома, на чале якога стаяў Ратайчак, перавыканаў свой план і за 1935 і за 1936 г. Ці значыць гэта, што Ратайчак—не Ратайчак, шкоднік—не шкоднік, трацкіст—не трацкіст? Вядома, не значыць. Гэта значыць, што і шкоднікі не могуць займацца толькі шкодніцтвам, бо тады яны не ўцалеюць. Гэта значыць, далей, што на справе выкананне нашых планаў залежыць ад усяго калектыва рабочых, служачых і інжынераў, пра якіх, вядома, нельга сказаць, што яны заадно са шкоднікамі. Нарэшце, гэта значыць, што многія нашы планы заніжаны. Калі мы грунтоўна выкарчуем трацкісцка-шкодніцкія групы ў прамысловасці, мы напэўна будзем рухацца наперад яшчэ быстрэй, чым гэта было. Значыць, фальшывы аргумент аб перавыкананні планаў, высоўваемы для таго, каб змазаць шкодніцкія справы, нельга абараняць, а трэба выкрываць, як і ўсякую іншую фальшыўку.

З другога боку, многія работнікі паспрабуюць цяпер звальваць усе свае грахі на шкоднікаў. Дзе што-небудзь дрэнна, будуць гаварыць—шкоднік вінаваты. Некаторым работнікам з ліку бездапаможных гэта здасца вельмі зручным. Знойдуцца бюракраты, якія такім прыёмам паспрабуюць адвесці ўдар ад сябе. Але з гэтым ніяк нельга мірыцца. Такім спробам трэба проціпаставіць сур'ёзную праверку фактаў, уменне безумоўна аддзяліць памылкі ад шкодніцтва. Толькі ў гэтым выпадку мы паставім на сваё месца бюракратаў і ачысцім нашы арганізацыі ад шкоднікаў і дыверсантаў усіх масцей.

Ёсць і такія гора-кіраўнікі, якія ў свой час не ўмелі змагацца за выкрыццё шкоднікаў, а цяпер праяўляюць няздольнасць зразумець свае абавязкі ў адносінах ліквідацыі вынікаў выкрытага шкодніцтва. Як можна інакш зразумець тых таварышоў, якія гатовы цяпер звесці ўсю барацьбу за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва да размоў аб развіцці стаханаўскага руху. Безумоўна, без стаханаўцаў мы не мыслім далейшага руху нашай прамысловасці наперад. Але нельга свае палітычныя і дзелавыя грашкі звальваць на стаханаўцаў, нельга хавацца за іх спіну. Лепш па-чэснаму прызнаць свае промахі і недахопы і па-бальшэвіцку іх выправіць, ліквідаваць да канца. Што стаханаўцы малайцы і сваю задачу выконваюць нядрэнна—гэта вядома кожнаму. Але што многія кіраўнікі па сваёй палітычнай бесклапотнасці праспалі шкоднікаў, а цяпер спрабуюць адгаварыцца добрымі словамі аб стаханаўцах—гэта таксама праўда. Мы не павінны прайсці міма гэтай памылкі, хоць-бы ўжо па аднаму таму, што яна можа нанесці вялікую шкоду і самому стаханаўскаму руху. Нельга-ж забываць аб тым, што

поспехі стаханаўскага руху ў вельмі вялікай меры залежаць ад работы кіраўніка цэха, прадпрыемства і вышэйстаячых органаў. Каб забяспечыць далейшыя поспехі стаханаўскага руху, мы павінны не на словах, а на справе паклапаціцца аб палепшанні метадаў работы нашых гаспадарчых кіраўнікоў, аб ліквідацыі прарэх у гаспадарчым кіраўніцтве. Без гэтага справы не паправіш.

Возьмем хоць-бы Донбас, якому належыць ініцыятыва ў стаханаўскім руху. Хіба не ясна, што цяперашні правал вугальнай прамысловасці Донбаса ляжыць не на адказнасці стаханаўцаў, якія гатовы рабіць сваю справу не горш, чым раней, а на адказнасці тых кіраўнікоў, якія падводзяць нас зараз з выкананнем вытворчай праграмы. Як ні сумна, а ў Донбасе студзень і люты 1937 года далі менш вугалю, чым студзень і люты 1936 года. Хіба ў гэтым вінаваты стаханаўцы? Хіба хто-небудзь абвінавачвае Донбас у тым, што там перавяліся рабочыя-стаханаўцы? Аб гэтым не можа быць і гутаркі. Але што нашы гаспадарчыя кіраўнікі ў Донбасе не справіліся са сваёй задачай, што яны не здолелі забяспечыць патрэбную арганізацыю вытворчасці і стаханаўскага руху, што яны не здолелі выкарыстаць уздым стаханаўскага руху для далейшага прасоўвання наперад і нават пакаціліся назад—гэта ясна, гэта бясспрэчна. Значыць нельга гаспадарчым кіраўнікам хавацца за спіну стаханаўцаў, а лепш смялей ускрыць недахопы кіраўніцтва і хутчэй паправіць справу.

Поспехі соцыялістычнага будаўніцтва былі-б яшчэ буйней, калі-б мы лепш змагаліся з недахопамі ў нашай гаспадарчай рабоце, калі-б мы лепш выхоўвалі нашы кадры, лепш арганізоўвалі падбор работнікаў, больш рашуча выкаранялі канцылярска-бюракратычныя элементы ў гаспадарчай рабоце.

Да буржуазных шкоднікаў, дыверсантаў і шпіёнаў перайшлі адшчапенцы партыі—трацкісты і правыя. Але яны не больш, як дагніваючыя адкіды буржуазнага грамадства. У нашы рады ўліваюцца ўсё новыя тысячы высокакваліфікаваных і адданых савецкай уладзе спецыялістаў. Рост арміі стаханаўцаў адлюстроўвае вялікі ўздым ўсяго рабочага класа.

Наколькі моцна нашы поспехі залежаць ад нас саміх, ад нашага жадання ўзняць работу, мы ведаем па многіх прыкладах. Адзін з самых яркіх сярод іх—уздым чорнай металургіі за апошнія гады. Дзякуючы выключнай увазе тав. Орджанікідзе, чорная металургія не толькі выканала другую пяцігодку ў чатыры гады, але дала такія тэхнічныя паказчыкі па домнах і мартэнах, якія перавысілі намёткі пяцігодкі. Нашы домны з пачатку першай пяцігодкі палепшылі свой каэфіцыент выкарыстання больш, чым на 70 проц. З'ём сталі з квадратнага метра плошчы поду ў мартэнах павялічыўся за гэты-ж тэрмін на 56 проц.

Ва ўсёй прамысловасці рост прадукцыйнасці працы ідзе цяпер быстрэй, чым у мінулыя гады, засваенне новай тэхнікі стала рухацца быстрэй—вось зарука нашых новых вялікіх поспехаў.

Трэба памятаць, аднак, што задачу дагнаць і перагнаць перадавыя па тэхніцы капіталістычныя краіны мы яшчэ не ажыццявілі. Нам ніяк нельга зазнавацца. Прыдзецца яшчэ многа папрацаваць, каб дабіцца выканання гэтай задачы. Выкарчоўванне шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў і іншай брыдоты з прамысловасці і з усяго дзяржаўнага апарата—адна з важнейшых прадпасылак паскорання гэтай справы.

Шкодніцка-дыверсійна-шпіёнская дзейнасць трацкістаў і ўсіх іх саюзнікаў сведчыць аб тым, што на адкрытую барацьбу з савецкаю

ўладай яны ўжо не могуць ісці ў выніку сваёй слабасці. Па цёмных дарожках двурушніцтва яны ходзяць не таму, што не хацелі-б адкрытага нападу на соцыялізм і яго будаўнікоў, а таму, што сілы соцыялістычнага ладу нязмерна больш таго, што яны могуць ім проціпаставіць. Яны баяцца святла і таму жывуць як двурушнікі, прыкрываючыся лічынай лаяльнасці і нават адданасці совецкай уладзе.

Але той факт, што на працягу раду год яны маглі незаўважанымі весці сваю здрадніцка-падрыўную работу ў прамысловасці і ва многіх іншых органах, на адказнейшых пастах, паказвае, наколькі моцны ў нашым асяроддзі небяспечная самасупакоенасць і палітычная бесклапотнасць. Нельга мірыцца з такой палітычнай блізарукасцю, з такой небяспечнай бесклапотнасцю, асабліва з боку тых, хто заклікан на кіруючыя пасты. У такіх выпадках боязнь крытыкі і няздольнасць да самакрытыкі—злачынства. Пакуль ёсць хоць адзін двурушнік-шкоднік у нашым асяроддзі, нельга забываць пра небяспеку, нельга супакойвацца, нельга цешыцца тым, што масы за намі. Мы страцілі-б права называцца большэвікамі, калі-б не зрабілі гэтых вывадаў з новых, багатых небяспекамі прыёмаў барацьбы двурушнікаў.

Выкрыццё шкодніцтва, дыверсій і шпіянажу япона-нямецка-трацкісцкіх агентаў падкрэсліла астрыню і сур'ёзнасць барацьбы паміж капіталізмам і соцыялізмам у наш час. Вораг ідзе на ўсе сродкі барацьбы з соцыялізмам. Учарашнія хістанні няўстойлівых комуністаў перайшлі ўжо ў акты шкодніцтва, дыверсій і шпіянажу па зговару з фашыстамі, каб ім дагадзіць. Мы абавязаны адказаць ударам на ўдар, граміць усюды на сваім шляху атрады гэтых лазутчыкаў і падрыўнікоў з лагера фашызма. Мы ведаем, што гэта адпавядае інтарэсам і жаданню не толькі працоўных нашай краіны, але і рабочых усяго свету. Учора яшчэ мы не дапускалі, што нашыя праціўнікі з былых комуністаў дакаціліся да апошняй мяжы, што яны пойдуць на ўсякую здраду і прадажніцтва ў адносінах сваёй радзімы. Сёння, пасля стольніх выкрыццяў, мы ведаем іх сапраўдны твар. Астрыня форм барацьбы гаворыць аб безнадзейнасці справы нашых ворагаў і аб іх роспачы, але таксама аб тым, што мы павінны яшчэ больш павысіць рэволюцыйную пільнасць, соцыялістычную арганізаванасць, большэвіцкую свядомасць. Тады выкрыццё подлай работы трацкісцкіх, бухарынскіх і іншых груп паслужыць далейшаму ўмацаванню нашага ладу і забяспечыць яшчэ большыя перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

Няма чаму дзівіцца, што некаторыя з учарашніх нашых спадарожнікаў пайшлі ў лагер ворага, ператварыліся ў агентуру фашызма, сталі бандытамі контррэволюцыі. Мы ўсё яшчэ адзіная соцыялістычная краіна ў кальцы капіталістычных дзяржаў. Нашы поспехі вялікі, але іменна яны ўсё больш азлабляюць класавага ворага, які бачыць у іх набліжэнне сваёй пагібелі. Буржуазія, якая займае пануючае становішча ва ўсіх краінах, апрача СССР, зусім не збіраецца дабраахвотна здаць свае пазіцыі і ўступіць уладу рабочым.

Яна знаходзіць яшчэ не мала сродкаў для таго, каб трымаць у пакорнасці сабе і ў страху перад сваёй магутнасцю тых, хто насычан буржуазнымі забабонамі і заражан нявер'ем у рэволюцыйныя сілы працоўных. А такіх нямала, асабліва сярод дробнай буржуазіі.

Перабежкі з рэволюцыйнага лагера да ворага даўно вядомы рабочым. Іх нямала ведае гісторыя барацьбы за соцыялізм. Набліжэнне новых буйных рэволюцыйных падзей, апорай якіх з'яўляюцца поспехі соцыялізма ў СССР, узнімае ва ўсіх краінах дух сярод рабочых, якія

рвуцца да вызвалення, але і параджае паніку ў людзей, насычаных буржуазнымі забабонамі і нявер'ем у сілы рабочага класа. Перабежкі трацкістаў і бухарынцаў у лагер буржуазіі, ператварэнне іх у банду шкоднікаў, дыверсантаў, забойц і шпіёнаў гавораць іменна аб гэтым.

Ад нас пайшлі тыя, хто няздольны да барацьбы з буржуазіяй, хто лічыць за лепшае звязаць свой лёс з капіталізмам, а не з рабочым класам. Мы павінны радавацца таму, што выкрылі ворага ў момант, калі ідзе падрыхтоўка да новых баёў, яшчэ да пачатку гэтых баёў. Мы павінны спяшацца дарабіць гэту справу, не адкладаючы яе і не праяўляючы хістанняў.

Совецкі Саюз спаборнічае з капіталістычнай сістэмай. Барацьба набывае ўсё больш буйны маштаб. Аб астрыні яе сведчаць многія меры, якія капіталістычныя краіны прымаюць у падрыхтоўцы новых войн. Шкодніцкія шайкі ўсіх гэтых трацкістаў і іншых—адзін з актыўнейшых атрадаў у гэтай падрыхтоўцы. Забываць аб гэтым, аддавацца бесклапотнасці—значыць забываць аб сваім пярвейшым доўгу перад народам, перад працоўнымі.

Каб перамагчы ў гэтым спаборніцтве, мы павінны няўхільна ісці наперад, мы павінны мераць нашы поспехі не меркай даваеннай Расіі, а сучаснымі меркамі. Пакуль ёсць час, мы павінны выкарыстаць кожны момант для таго, каб падцягнуцца на слабых участках, каб дасягнуць прадукцыйнасці працы і тэхнічных норм найбольш развітых капіталістычных краін. Трэба яшчэ мацней уцягваць ва ўсю нашу работу шырокую масу працоўных, радавых работнікаў, актывы. Трэба ўзняць большэвіцкае выхаванне кадраў і па-большэвіцку паставіць падбор работнікаў ва ўсіх арганізацыях. Трэба лічыцца з тым, што вораг ідзе цяпер на ўсё, выкарыстоўвае ўсякія прыёмы барацьбы, лезе ва ўсе шчыліны; вораг выкарыстоўвае і наш партыйны білет, каб ашукаць нас, пракрасціся туды, куды ён не мае іншага доступу. Лічыну комуніста вораг прымае для таго, каб забрацца на кіруючыя пасты, бачачы, што ўсё кіраўніцтва, ва ўсіх галінах, знаходзіцца ў руках комуністаў. Выкрыццё і выгнанне ворага з дзеючай арміі будаўнікоў соцыялізма, узмацненне нашай арміі, уздым яе сіл—гарантыя новых поспехаў.

Таму кожны з нас павінен памятаць аб свяшчэнным абавязку комуніста, развіваць сваю большэвіцкую зоркасць, узнімаць большэвіцкую свядомасць кадраў. Галоўнае цяпер залежыць ад нас—большэвікоў. Наколькі мы, большэвікі, зразумеем свае задачы і зробім патрэбныя вывады, большэвіцкія вывады,—настолькі паскорыцца наш рух наперад.

---

І. Лейзер

Сакратар Парткалегії пры Упаўн. КПК па БССР

# Забяспечыць індывідуальны падыход да кожнага комуніста

Таварыш Сталін у сваім дакладзе і заключным слове на апошнім пленуме ЦК ВКП(б) ускрыў цэлы рад сур'ёзных недахопаў у рабоце партыйных арганізацый, у тым ліку і ў рабоце сярод членаў і кандыдатаў партыі.

Адным з сур'ёзнейшых недахопаў работы з комуністамі, як адзначыў таварыш Сталін, з'яўляюцца *нячулыя, фармальна-бюракратычныя* адносіны да людзей, да лёсу паасобных членаў і кандыдатаў партыі, адсутнасць індывідуальнага падыходу:

> «... або хваляць іх агулам, без меры, або збіваюць іх таксама агулам і без меры, выключаюць з партыі тысячамі і дзесяткамі тысяч,.. не клапоцячыся аб «адзінках», аб паасобных членах партыі, аб іх лёсе» **(Сталін).**

Такі агульны, несур'ёзны падыход у паасобных выпадках прыводзіць, з аднаго боку, да неабгрунтаванага выключэння з партыі, да незаслужанага пакарання комуніста, і, з другога,—дае магчымасць ворагу ашукаць партыю, пазбегнуць заслужанай кары.

Практыка работы раду партыйных арганізацый Беларусі наглядна паказвае, што партарганізацыі Беларусі не забяспечылі строга індывідуальнага падыходу пры вырашэнні пытання аб выключэнні з партыі. Аб гэтым гавораць наступныя лічбы. З агульнай колькасці апеляваўшых на рашэнні райкомаў партыі (за 6 месяцаў) Парткалегія пацвердзіла 67,5%, змяніла 30,4% і адмяніла як неабгрунтавана выключаных—2,1%.

У ліпені 1936 г. Парткалегія паставіла пытанне перад ЦК аб тым, што пры разборы партспраў партарганізацыі парушаюць статут партыі і рашэнні III Пленума КПК. У сувязі з гэтым бюро ЦК прыняло ў жніўні спецыяльнае рашэнне. Праведзеная ў апошні час праверка выканання рашэнняў III Пленума КПК паказала, што кіраўнікі некаторых партарганізацый не лічаць сваім абавязкам выконваць гэтыя рашэнні і працуюць па-старынцы.

Карыстаючыся бескантрольнасцю з боку райкомаў і гаркомаў пярвічныя партарганізацыі вырашалі справы комуністаў на паседжаннях парткома, ігнаруючы агульны сход, зацягвалі разгляд, мала ўдаваліся ў расследванне фактаў.

Партком Магілеўскай шоўкавай фабрыкі, абмеркаваўшы 5 кастрычніка хадайніцтвы членаў партыі Брука і Вераса аб зняцці парт-

спагнанняў, задаволіў іх і прадставіў сваё рашэнне ў райком, не абмеркаваўшы гэтага пытання на партсходзе. Не зважаючы на тое, што рашэнне парткома не было зацверджана партсходам, райком зняў спагнанні з комуністаў, штампуючы тым самым дапушчанае парткомам парушэнне дырэктыў і ўказанняў ЦК.

Партком Аршанскага мясакамбіната абвясціў суровую вымову з папярэджаннем тав. Раскіну за выдачу даведкі трацкісту Гаварху. Не гледзячы на палітычную важнасць пытання, яно не абмяркоўвалася на партсходзе і не зацвярджалася райкомам.

У Магілеве дапушчана ігнараванне партсходаў партарганізацыямі горсовета (справа Смелькінсона), трубаліцейнага завода (справа Савасцёнка), аўтарамонтнага завода (справа Бязменa, Ляшчэнка), завода імя Дзімітрава (справа Бедынермана і інш).

Калі некаторыя парткомы абыходзяць агульныя сходы, то некаторыя з райкомаў, у сваю чаргу, ігнаруюць пярвічныя партарганізацыі. Так, Полацкі райком у мінулым годзе зняў партспагнанні з тт. Шалевіча, Вульшонка, Добыша, Гардона, Кавалёва, Башкіна, Кавальчука, Праве, Малаўнава, Осіпава і іншых без абмеркавання ў пярвічных партарганізацыях. Праз галаву пярвічных партарганізацый Полацкі райком практыкаваў і выключэнне з партыі. Так, напрыклад, з партыі былі выключаны старшыня калгаса «Авангард» тав. Еронька, старшыня калгаса тав. Кузьмін; абвешчана вымова тав. Шэндэлю за развал работы ў калгасе і вытварэнне рэлігійнага абраду, тав. Міцкевічу за ненаведванне партвучобы. Такім парадкам выключан завочна кандыдат партыі тав. Тімошчанка. Усё гэта райком правёў самачынна, праз галаву пярвічных партарганізацый.

Ад завочнага абмеркавання справы і выключэння комуністаў не адмовіліся і некаторыя іншыя райкомы партыі. Дрысенскі райком у прысутнасці сакратара акругкома тав. Ліхачова завочна разгледзеў справы тт. Мінькоўскага і Быкавай, выключаных з партыі пры абмене партдакументаў. Мазырскі райком завочна выключыў з партыі тав. Русілка—бyўшага загадчыка райана.

Полацкі акругком партыі адным са спосабаў паспяховага выканання гаспадарча-палітычных кампаній абраў завочнае вынясенне партспагнанняў, аб чым комуністы даведваюцца толькі праз акруговую газету. Так, напрыклад, 17 снежня бюро акругкома абвясціла старшыні калгаса «Чырвоная зорка», Полацкага раёна, тав. Казакову вымову за невыкананне плана лесавывазак. Аб вымове Казакоў даведаўся толькі праз газету. У снежні была апублікавана вынесеная завочна вымова старшыні Дрысенскага райвыканкома тав. Гуцаву і заг. Дрысенскім райза тав. Мажайскаму. У той-жа Полацкай акрузе пры праверцы выяўлен факт масавага вынясення партспагнанняў членам і кандыдатам партыі Дрысенскай арганізацыі за яўку на сход без партыйных дакументаў. Неахайнасць у абыходжанні з партдакументамі—справа вельмі сур'ёзная. Ратазейства ў гэтым пытанні не павінна заставацца беспакараным. Але такі метад партыйнага ўздзеяння, які абраў Полацкі АК і Дрысенскі РК прынцыпова супярэчыць рашэнням вышэйшых партыйных органаў і ні ў якой меры не садзейнічае выхаванню комуністаў.

Прыводзім гэта рашэнне раённага партыйнага сходу, прынятае 2/VI—36 г., па прапанове сакратара Полацкага АК тав. Ліхачова.

**«Слухалі»:** Перад адкрыццём партсходу тав. Ліхачоў прапануе зрабіць праверку ў прысутных наяўнасці пры сабе партдаку-

ментаў. У выніку праверкі аказалася, што 6 комуністаў прыбылі на раённы партсход без партыйных дакументаў пры сабе, пакінуўшы іх дома. Тав. Ліхачоў зрабіў пазачарговае выступленне на агульным райпартсходзе, звязанае з нядбайнымі адносінамі да хавання партдакументаў тт. Кантара, Свідэрскай, Хоцінай, Еўрэінава, Шчэрбінскага і Шульга.

Па прапанове тав. Ліхачова вылучаны тт. Вайнер, Напіра, Кац, Рыклін, Будо і Навак для праверкі на даму, дзе хаваюцца партбілеты тт. Еўрэінавым, Свідэрскай, Хоцінай, Кантарам, Шчэрбінскім і Шульгай.

Праверкай на месцы ўстаноўлена, што партбілет тав. Кантара ляжаў у адкрытай шафе на кватэры.

Тав. Свідэрскай партбілет ляжаў у скрыні разам з адзежай у адкрытай кватэры.

Тав. Хоцінай партбілет ляжаў у адкрытай шафе на кватэры, якая была таксама адкрыта, і ў кватэры нікога не было.

Тав. Еўрэінава партбілет ляжаў у службовым кабінеце у тужурцы.

Тав. Шчэрбінскага кандыдацкая картка ляжала на кватэры, у стале пад замком.

Тав. Шульга меў пры сабе партдакумент, але не ведаў аб гэтым спачатку сходу і толькі па дарозе, калі ішлі правяраць хаванне партдакументаў, успомніў, што партдакумент пры ім.

Учынак паказаных таварышоў абмяркован партсходам і прызнан як антыпартыйны, даючы магчымасць крадзежу партбілетаў.

**Пастанавілі:** Абмеркаваўшы антыпартыйны ўчынак таварышоў, пакінуўшых партбілеты дома, што давала магчымасць кражы іх,—партсход пастанавіў:

Тав. Еўрэінаву—абвясціць вымову;
Тав. Кантару—паставіць на від;
Тав. Свідэрскай—паставіць на від;
Тав. Шчэрбінскаму—паставіць на від;
Тав. Хоціну—папярэдзіць;
Тав. Шульга—папярэдзіць».

Гэта рашэнне ёсць ні што іншае, як «кавалерыйскі наскок», але ні ў якім разе не метад выхавання. На-хаду вынеслі спагнанне і ў далейшым аб ім не ўспаміналі.

Парткомы іншы раз падмяняюць сабою дзейнасць гаспадарнікаў, праяўляючы пры гэтым своеасаблівыя месніцкія тэндэнцыі. Адзначым такі факт. Загадчык магілёўскай базай Швейснабзбыта адмовіў дырэктару швейнай фабрыкі прадаставіць грузавую машыну. Пытанне, здавалася-б, чыста гаспадарчае. Але што вышла на справе? Дырэктар фабрыкі з'явіўся ў партком і патрабаваў неадкладна абмеркаваць «учынак» заг. базай Швейзбыта. Услужлівы сакратар неадкладна склікае партком, які выносіць наступнае рашэнне: «Указаць тав. Лесаву (заг. базай Швейзбыта) на яго непартыйны ўчынак, які выразіўся ў самаадхіленні ад фабрыкі толькі па той прычыне, што Швейзбыт—самастойная, непадпарадкаваная фабрыцы арганізацыя. Прапанаваць тав. Лесаву неадкладна прадаставіць машыну ў распараджэнне фабрыкі».

Партком у даным выпадку зрабіў падвойную памылку: падмяніў гаспадарнікаў і неабгрунтавана абвінаваціў члена партыі ў непартыйным учынку.

Прыведзеныя вышэй факты сведчаць аб тым, што важнейшыя ўказанні таварыша Сталіна і рашэнні III Пленума КПК аб парадку разгляду партыйных спраў, налажэнні партспагнанняў і чуткіх адносінах да членаў і кандыдатаў партыі, яшчэ, на жаль, не засвоены многімі кіраўнікамі партарганізацый. Адсюль—адміністраванне, неабгрунтаваныя рашэнні.

Трэба рашуча пакончыць з фармальнымі, бяздушна-бюракратычнымі адносінамі да лёсу паасобных членаў і кандыдатаў партыі, да пытання аб выключэнні ці аднаўленні іх у партыі.

* * *

Выходзячы з рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна, парткалегія правяла ў вытворчых пярвічных партарганізацыях г. Менска выбарачную праверку складу выключаных з партыі ў апошнія 3 гады за пасіўнасць, палітнясграматнасць і адрыў ад партыйнага жыцця.

Вынікі праверкі яшчэ раз пацвярджаюць правільнасць указанняў таварыша Сталіна аб несур'ёзным, агульным падыходзе да выключэння з партыі за пасіўнасць. Сярод выключаных за пасіўнасць аказаліся людзі, якія па свайму соцыяльнаму паходжанню, адносінах да вытворчасці і адданасці партыі варты быць членамі партыі. Палітычна адсталі яны таму, што партарганізацыі ў свой час не працавалі над іх выхаваннем, не стварылі ўмоў для вучобы, і, каб не мець лішняга клопату, палічылі за лепшае пры праверцы і абмене партдакументаў выключыць іх з партыі.

Прывядзем два характэрныя ў гэтых адносінах факты.

**Лейчык** Анна Маісееўна 1896 года нараджэння з 1928 года з'яўлялася членам партыі. Пры чыстцы ў 1933 годзе пераведзена ў кандыдаты за палітнясграматнасць. Вучылася ў лікбезе. Соцыяльнае становішча—сялянка, працавала ў соўгасе «Блонь», была на курсах ясельных работнікаў, пасля чаго працавала ў дзіцячых яслях, а з 1933 года працуе на фабрыцы «Комунарка».

У студзені 1936 года Менскі гарком пры праверцы партдакументаў выключыў тав. Лейчык з кандыдатаў партыі за тое, што яна не апраўдала сябе за час прабывання ў партыі. Зараз тав. Лейчык працуе па-стаханаўску на канвейеры ў брыгадзе з 7 чалавек. Партком, адміністрацыя і іншыя фабрычныя арганізацыі заяўляюць, што за ўвесь час работы на фабрыцы тав. Лейчык ніякіх заўваг не мела і з'яўляецца прыкладнай работніцай. Яе адзіны недахоп—малаграматнасць, якая перашкаджае праявіць патрэбную актыўнасць у партыйным і грамадскім жыцці.

Пасля выключэння тав. Лейчык працягвае акуратна наведваць адкрытыя партсходы, палітшколу і займаецца ў школе малаграматных. Сапраўдных прычын выключэння яна не ведае, таму і не падавала апеляцыі.

Або такі факт.

**Екельчык** Рыва Наумаўна—б. кандыдат партыі партарганізацыі фабрыкі імя Крупскай. Выключана з кандыдатаў партыі ў студзені 1936 года Менскім гаркомам пры праверцы за нядбайныя адносіны да хавання партдакументаў.

А справа з кандыдацкай карткай Екельчык абстаяла наступным чынам. Увесну 1933 года паводкаю быў затоплен пакой Екельчык.

Яе кандыдацкая картка, папаўшы ў ваду, моцна прамокла і прышла ў нягоднасць. Екельчык здала яе сакратару парткома тав. Гос для замены. Гос, прыняўшы картку, ніякіх мер да замены яе на новую не прыняла. Калі Екельчык праз некаторы час напомніла ёй, што трэба паскорыць выдачу карткі, то Гос заявіла, што ніякай карткі яна не атрымлівала і нічога аб ёй не ведае. Пытанне аб страце карткі Екельчык не было пастаўлена на абмеркаванне ні пярвічнай партарганізацыі, ні гаркома.

Да праходжання чысткі партыі 1933 года тав. Екельчык дапусцілі без кандыдацкай карткі. Чыстку яна прайшла і лічыцца праверанай. Пасля чысткі, да 1936 г., на фабрыцы змянілася чатыры сакратары парткома (Гос, Гарэлік, Шусцер, Раскін). Тав. Екельчык перад кожным з іх ставіла пытанне аб выдачы ёй карткі, аднак справа не кранулася з месца.

Толькі праз паўтара гады, у студзені 1935 года, партком выносіць рашэнне абвясціць Екельчык вымову за неахайныя адносіны да захавання партдакумента і хадайнічае аб выдачы новага. Рашэнне парткома ў студзені 1935 года паступіла ў гарком, дзе праляжала без разгляду роўна год, а ў студзені 1936 года гарком выключае яе з партыі за страту партдакумента, не разабраўшыся ў сапраўдных прычынах і не ўлічыўшы таго, што справа на працяту года не была разабрана па яго-ж уласнай віне.

Екельчык—выхаванка дзіцячага дома, працавала 8 год хатняй работніцай, а з 1930 года—на фабрыцы імя Крупскай. У комсамол уступіла ў 1929 годзе і ў кандыдаты партыі—у 1932 годзе.

За ўдарную работу па выкананню промфінплана прэміравалася 6 раз. Акрамя таго прэміравалася за ўдарную работу па мабілізацыі фінансаў у 16 ашчадкасе. Герой першай пяцігодкі. Член камітэта ЛКСМБ і член горсовета апошняга склікання. У 1933 годзе была вылучана на профработу і зараз працуе культработнікам фабрычнага інтэрната.

Екельчык, паводле водзываў парткома і дырэкцыі фабрыкі,—актыўны, адданы партыі работнік, звязаны з партарганізацыяй.

Выключэнне Екельчык з партыі ёсць вынік фармальнага, бяздушнага падыходу да разгляду спраў комуністаў.

Таварыш Сталін рэзка асудзіў такія адносіны да выхавання комуністаў і разбору іх спраў аб партыйных праступках.

> «...Каб выправіць нашу палітыку па пытанню аб членстве ў партыі і аб выключэнні з партыі, неабходна пакончыць з цяперашнім галавацяпскім талкаваннем пытання аб пасіўнасці». **(Сталін).**

Трэба раз і назаўсёды пакончыць з агульным падыходам да вырашэння пытання аб лёсе члена партыі. Індывідуальны падыход з'яўляецца адзіна правільным, большэвіцкім падыходам. Больш чуткасці і таварыскага клопату пры вырашэнні пытання аб аднаўленні ці выключэнні з членаў партыі.

Рашэнні пленума ЦК ВКП(б), даклад і заключнае слова таварыша Сталіна з'яўляюцца для партыйных арганізацый праграмай выхавання комуністаў. Абавязак кожнага партыйнага кіраўніка, кожнай партыйнай арганізацыі—сур'ёзна і глыбока вывучыць гэтыя гістарычныя дакументы і забяспечыць іх няўхільнае выкананне.

**Н. Сігналаў**

**Інструктар ЦК КП(б)Б**

# Перападрыхтоўка прапагандысцкіх кадраў— важнейшая партыйная справа

У верасні мінулага года Цэнтральны Камітэт ВКП(б), абмеркаваўшы пытанне аб перападрыхтоўцы прапагандысцкіх кадраў у беларускай партыйнай арганізацыі, прызнаў, што гэта справа пастаўлена ў нас нездавальняюча, што яна не адпавядае патрабаванням ідэйнага ўзброення партыйных прапагандысцкіх кадраў.

У сваім рашэнні ЦК ВКП(б) указаў на адзін з буйнейшых недахопаў у справе перападрыхтоўкі прапагандыстаў. Гэта—стварэнне 12 курсавых баз, што павяло да распылення сіл і сродкаў, не дало магчымасці арганізаваць кантроль і кіраўніцтва ўсімі курсамі, забяспечыць іх кваліфікаванымі выкладчыкамі.

Наколькі гэта рашэнне правільна, можна пацвердзіць радам фактаў. Прывядзем некаторыя з іх. Возьмем адну з курсавых баз—Аршанскую. Яна абслугоўвала, акрамя горада Оршы, Талачынскі, Сенненскі і Дубровенскі раёны. З прысланых на курсы 22 таварышоў толькі 6 мелі невялікі вопыт прапагандысцкай работы, астатнія-ж ніколі прапагандыстамі не былі. Палітычная падрыхтоўка і агульна-адукацыйны ўзровень курсантаў былі надта нізкімі. Курсанты не маглі адказаць на элементарнейшыя пытанні. Заняткі праходзілі самацёкам і часта зрываліся. Выкладчык гісторыі партыі тав. Кантаровіч прапусціў больш дзесяці заняткаў, на што своечасова не рэагавалі ні загадчык курсамі, ні райком партыі. Калі-ж да гэтага дадаць, што курсы змяшчаліся ў бараку, што курсанты жылі ў адным пакоі, спалі на саломенных матрацах, з якіх сыпалася труха, то стане зразумелаю і іх работа. Курсы Оршы—яркая ілюстрацыя таго, як можна праваліць жывую партыйную справу.

Аршанскія курсы—не выключэнне. Дрэнна працавалі курсы пры Мазырскім акруговым камітэце партыі. Курсанты былі пакінуты на саміх сябе. Выкладчыкі—кіруючыя партработнікі—глядзелі на курсы, як на абузу, і адносіліся да іх абыякава.

Курсы ў Лепельскай акрузе былі распушчаны на час сельскагаспадарчых работ. Яны нават не мелі памяшкання, займаліся ў будынку акруговага суда.

На бабруйскіх курсах вучоба ішла таксама наогул. З 28 курсантаў 16 зусім не мелі вопыту прапагандысцкай работы.

Якасць выкладання на ўсіх курсах была вельмі нізкай. Курсанты вучыліся пераважна па падручніку, мала выкарыстоўваючы першакрыніцы: рашэнні з'ездаў, канферэнцый, пленумаў партыі.

Курсы, як указана ў рашэнні ЦК ВКП(б), павінны былі камплектавацца здольнымі, вопытнымі прапагандыстамі для далейшага павышэння іх ідэйна-палітычнага ўзроўню. А на самай справе на курсы пасылаліся людзі, у якіх райкомы не былі зацікаўлены, палітычна няграматныя, і нават людзі, якія былі пад следствам. З прыбыўшых 292 курсантаў 92 ніколі не вялі прапагандысцкай работы.

«Самацёчныя» настроі пры камплектаванні курсаў скажалі сэнс перападрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў.

Буйным недахопам у арганізацыі курсаў з'яўлялася недастатковасць інфармацыі курсантаў па партыйна-палітычных пытаннях, тым часам як такая інфармацыя пашырае палітычны і культурны ўзровень прапагандыста.

Адзначыўшы вялікія недахопы і промахі ў перападрыхтоўцы прапагандыстаў, ЦК ВКП(б) абавязаў сакратароў ЦК КП(б)Б асабіста займацца работаю курсаў, а тав. Коніка, які дапусціў зрыў работы, вызваліць ад абавязкаў загадчыка аддзела партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК.

* * *

Рашэнне ЦК ВКП(б) аб становішчы перападрыхтоўкі прапагандыстаў у Беларусі—сур'ёзны ўрок і папярэджанне для арганізацый КП(б)Б.

Якія-ж меры прыняў аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б, каб ліквідаваць недахопы і па-большэвіцку разгарнуць справу падрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў?

Прашло 8 месяцаў пасля рашэння ЦК ВКП(б). Пытанне аб курсах двойчы абмяркоўвалася на бюро ЦК КП(б)Б. Бюро намеціла рад канкрэтных мер. Перш за ўсё—ліквідаваць 12 курсавых баз і замест іх стварыць дзве базы—у Менску і Гомелі. Гэтыя базы зусім падрыхтаваны ўжо для нармальнай работы і могуць абслужыць адначасова звыш 300 курсантаў. Пад курсы ў Гомелі адведзен адзін з лепшых будынкаў горада—былы палац князя Паскевіча; прыгожыя, светлыя аудыторыі, вялікая лекцыйная зала. Абедзве базы маюць багатыя бібліятэкі марксісцка-ленінскай літаратуры. Адрамантаваны і абсталяваны інтэрнаты і сталовыя для курсаў.

Падрыхтаваўшы матар'яльную базу, ЦК КП(б)Б прыступіў да новага набору. На курсы было выклікана 210 прапагандыстаў, а прыбыла 180 чал. Старадарожскі, Асіпавіцкі і іншыя райкомы, не зразумеўшы сутнасці рашэння ЦК ВКП(б), знайшлі магчымым на курсы нікога не вылучаць, хоць ім не раз рабілася напамінанне. Парыцкі, Сіроцінскі і інш. райкомы, наперакор дырэктыве ЦК, вылучалі на курсы таварышоў, заведама няграматных, без вопыту прапагандысцкай работы. Іх прышлося адправіць назад.

Выконваючы ўказанні ЦК ВКП(б) аб персанальным падборы курсантаў, ЦК КП(б)Б стварыў спецыяльныя мандатныя камісіі для Менска і Гомеля. Камісіі дэталёва знаёміліся з палітычным і культурным узроўнем прыбываўшых на курсы прапагандыстаў. Пасля адбору мандатнай камісіяй кожную кандыдатуру праглядаў сакратар ЦК КП(б)Б, і ўвесь склад курсантаў зацвярджаўся бюро ЦК. Індывідуальны падыход даў магчымасць забяспечыць курсы высокаякасным складам слухачоў.

На курсы было прынята: 109 беларусаў, 17 рускіх, 36 яўрэяў і 16 чал. іншых нацыянальнасцей.

Па стажу прапагандысцкай работы: 60 чал.—да 1 года, 80—ад 1 да 3 год і 40—звыш 3 год.

Да паступлення на курсы 57 прапагандыстаў кіравалі гурткамі па гісторыі партыі, 56—школамі палітграматы і 67—іншымі гурткамі.

Па роду работы: 44 партыйныя работнікі, 41 савецкі работнік, 18 прапагандыстаў, 11 рабочых ад станка, 10 калгаснікаў і 46 з іншых участкаў кіруючай гаспадарчай работы.

Прыведзеныя даныя сведчаць аб сур'ёзным, прадуманым падыходзе да камплектавання курсаў.

Падабраны і зацверджаны на бюро выкладчыцкі персанал Курс гісторыі ВКП(б) даручан таварышам з салідным вопытам выкладчыцкай работы. Для вядзення геаграфіі былі запрошаны таксама лепшыя выкладчыкі. Курс гісторыі грамадзянскай вайны вялі інструктары аддзела партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б. Аднак зусім дрэнна было пастаўлена выкладанне гісторыі народаў СССР. У Менску запрошаныя выкладчыкі не здолелі забяспечыць высокай якасці ў сваёй рабоце, і гэту дысцыпліну прышлося зусім зняць з вучэбнага плана. У Гомелі гісторыю народаў СССР чытаў беспартыйны таварыш, які таксама не мог задаволіць курсантаў. У яго выкладанні зусім не было палітычнай завостранасці, якая зараз асабліва патрэбна.

На двухмесячных курсах прапагандыстаў у Менску выкладчык па гісторыі партыі тав. Віхота ўмудрылася за адну лекцыю разабраць рашэнні XVI і XVII з'ездаў партыі. Добра, што гэты недахоп быў своечасова заўважан. Як у Гомелі, так і ў Менску адчувалася нічым не апраўданая спешка, асабліва ў канцы курсаў. Зніжалася якасць вучобы, комкаўся навучальны план. Дрэнна таксама былі наладжаны кансультацыі.

Не зусім удала быў складзены вучэбны план. Як паказаў вопыт, для праходжання праграмы па гісторыі партыі аказалася мала 104 гадзін, курс фактычна ўкладаўся ў 140—150 гадзін. Гэта трэба ўлічыць пры новым скліканні курсаў і некалькі змяніць вучэбны план.

Адным з буйнейшых недахопаў у рабоце райкомаў, гаркомаў КП(б)Б на фронце партыйнай прапаганды з'яўляецца тое, што не ўсе комуністы, скончыўшыя курсы прапагандыстаў, замацоўваюцца на прапагандысцкай рабоце.

Таксама сур'ёзным недахопам у рабоце курсаў прапагандыстаў з'яўляецца слабая іх сувязь з тымі, якія скончылі курсы і ўжо працуюць на прапагандысцкай рабоце.

Аддзел партпрапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) у пісьме тав. Стэцкага прама ўказвае, што неабходна мець сталую сувязь са скончыўшымі курсы, дапамагаць ім у іх рабоце, праз год зноў выклікаць іх на курсы для далейшага ўздыму іх палітычных тэарэтычных ведаў. На жаль, гэтага ў нас яшчэ няма.

Паставіць справаздачу курсантаў аб іх рабоце ў раёнах, дапамагаць ім—важнейшая задача курсаў і аддзела партпрапаганды ЦК КП(б)Б.

Разам з тым трэба ўвесці ў практыку абавязковыя іспыты па асноўных пытаннях і дысцыплінах вучэбнага плана курсаў, каб вызначыць, на якім участку прапагандысцкай работы могуць быць выкарыстаны скончыўшыя курсы, якім гуртком ці школай здольны кіраваць. Гэта мера, бясспрэчна, узмоцніць адказнасць саміх курсантаў і

дасць ім магчымасць пазбегнуць раду памылак, якія мелі месца ў мінулым.

Не гледзячы на недахопы ў пастаноўцы партыйнай вучобы, курсы першага склікання закончаны з наступнымі паказчыкамі:

**Паспяховасць курсантаў групы кіраўнікоў школамі па гісторыі партыі**

| Назва прадметаў | Выдатна | Добра | Здавальн. | Дрэнна | Не высвет. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Гісторыя ВКП(б) . . | 8 | 44 | 49 | 3 | — | 104 |
| Пытанні ленінізма . . | 18 | 49 | 35 | 2 | — | 104 |
| Геаграфія . . . . | 18 | 48 | 36 | 2 | — | 104 |
| Гістор. грам. вайны . | 6 | 33 | 25 | 1 | — | 65 |

Вось яшчэ адзін паказчык.

Да адкрыцця курсаў на гомельскай базе не было ні аднаго прапагандыста, які кіраваў-бы гуртком павышанага тыпу па вывучэнню гісторыі ВКП(б). Цяпер курсы выпусцілі 17 прапагандыстаў гэтай кваліфікацыі. Гурткамі паніжанага тыпу па вывучэнню гісторыі ВКП(б) кіравалі да курсаў 36, а пасля курсаў—44 чал. Школамі палітграматы адпаведна: 16 і 4. Такое-ж, прыкладна, становішча і на курсах менскай базы.

Многім прапагандыстам курсы далі магчымасць вырасці палітычна. Сярод іх такія таварышы, як Цофін. Веды яго па гісторыі партыі абмяжоўваліся падручнікам Кнорына. За тры месяцы работы на курсах ён поўнасцю прапрацаваў трохтомнік Леніна—Сталіна, «Дзяржава і рэволюцыя» і рад іншых твораў Леніна. Зараз намечана вылучыць яго на работу ў якасці раённага прапагандыста. Значны рост паказаў тав. Амбросенка, які працаваў парторгам пры сельсовеце. Зараз ён рэкамендуецца ў якасці раённага прапагандыста ці інструктара райкома партыі. Тое-ж самае можна сказаць і пра тав. Курбака з Дзержынскага раёна. Таварышы Осіпаў і Піменеў—нам. дырэктара МТС па палітчастцы ў Даманавічах і ў Парычах, Холад—дырэктар соўгаса з Глуска, Яцкевіч—інструктар Талачынскага райкома партыі, Грушын—прапагандыст гомельскага шклозавода, Гурэвіч з Рагачова і рад іншых атрымалі на курсах сур'ёзную палітычную зарадку. Іх выступленні на канферэнцыях адметны былі лагічнасцю, асмысленым асвятленнем фактаў і падзей з гісторыі партыі. Аб гэтых прапагандыстах можна сказаць, што яны здолеюць зацікавіць слухачоў.

На курсах былі і адстаючыя. Тут сказаліся і нізкі палітычны ўзровень і нерацыянальнае выкарыстанне часу для вучобы і тое, што выкладчыкі своечасова не аказалі ім патрэбнай дапамогі. Сюды трэба аднесці Аронава з Лёзны, Лабоўскую з Глуска, Цімафееву з Клічава і некаторых іншых таварышоў.

Дрэнная арганізацыя дапамогі адстаючым тлумачыцца таксама і перагружанасцю выкладчыцкага складу курсаў. Так, у Гомелі выкладчыкі гісторыі партыі тт. Гарэлік і Далангоўскі давалі па 4, а то і па 6 гадзін у дзень. Гэта, вядома, адбівалася на якасці выкладання, на падрыхтоўцы да заняткаў, на паспяховасці курсантаў.

Апрача праграмнага матар'ялу курсанты вывучылі Канстытуцыю СССР, даклад таварыша Сталіна на VIII з'ездзе советаў СССР, прамову тав. Вышынскага на працэсе над антысовецкім контррэволюцыйным трацкісцкім цэнтрам.

На працягу трох месяцаў вучобы курсанты праслухалі рад лекцый па літаратуры: аб творчасці Пушкіна, Гогаля, Салтыкова-Шчэдрына, Некрасава. Па пытаннях міжнароднага становішча раз у два тыдні чыталі даклады кваліфікаваныя таварышы. У парадку пазавучэбнай работы курсанты праслухалі рад лекцый і па пытаннях партыйнай прапаганды.

Многа ўвагі ўдзелена было культурнаму абслугоўванню курсантаў. Прабыванне курсантаў у Менску было выкарыстана для азнаямлення з навейшымі тэатральнымі пастаноўкамі і кіно-фільмамі. Курсанты былі на такіх п'есах як «Арыстакраты», «Жыццё кліча», «Ваўкі і авечкі», «Капітанская дачка», «Платон Крэчат», «Ворагі», «Закат», «Трактіршчыца», у оперным тэатры слухалі «Еўгенія Онегіна», «Пікавую даму», у кіно глядзелі фільмы: «Салавей-Саловушка», «Наталка-палтаўка», «Беспрыданіца», «Заключаныя» і інш. Усе курсанты былі на фільме «Даклад таварыша Сталіна аб праекце Канстытуцыі СССР». Акрамя таго, раз у пяць дзён на экране клуба, дзе займаліся курсы, даваліся розныя кіно-пастаноўкі. Курсанты наведалі Музей рэволюцыі, Гістарычны музей, былі на заводах імя Варашылава, імя Кірава, у Доме Чырвонай арміі і т. д.

У Гомелі пры Доме партыйнага актыва, дзе змяшчаюцца курсы, устаноўлена зараз гукавое кіно, якое сістэматычна абслугоўвае курсантаў навейшымі фільмамі.

Культурнае выкарыстанне вольнага часу садзейнічала павышэнню агульнага ідэйна-палітычнага ўзроўню прапагандыстаў, дало ім зарадку ў рабоце.

У рашэнні ЦК ВКП(б) указана на неабходнасць шырокай інфармацыі курсантаў па партыйна-палітычных пытаннях. На менскіх курсах даклад аб палітычных выніках працэсу над антысовецкім контррэволюцыйным трацкісцкім цэнтрам і аб задачах партарганізацый зрабіў сакратар ЦК КП(б)Б тав. Валковіч. Некалькі дакладаў (аб VIII з'ездзе советаў, аб лепельскіх справах і інш.) зрабіў заг. аддзела партпрапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б тав. Готфрыд. Аб выніках праверкі і абмену партдакументаў зрабіў даклад нам. заг. АКПО тав. Тавакальян. На жаль, заг. аддзеламі ЦК КП(б)Б тт. Рубінштэйн, Картукоў, не гледзячы на спецыяльнае рашэнне бюро ЦК КП(б)Б і напамінанні, ні разу на курсах не былі. Курсанты ў Менску мелі магчымасць праслухаць даклад тав. Лазоўскага аб міжнародным становішчы, даклад старшыні СНК тав. Галадзеда аб Канстытуцыі БССР і рад іншых дакладаў. У горшым становішчы аказаліся курсанты гомельскай курсавой базы. За тры месяцы яны праслухалі толькі адзін даклад аб выніках працэсу над контррэволюцыйным трацкісцкім цэнтрам, зроблены сакратаром Гомельскага гаркома тав. Стакуном. Ні адзін кіруючы работнік ЦК на курсах не быў, калі не лічыць інструктароў аддзела партпрапаганды. Даклады аб міжнародным становішчы чыталіся мясцовымі сіламі. У гэтай галіне аддзел партпрапаганды ЦК не аказаў гомельскім курсам патрэбнай увагі.

Сістэматычнай інфармацыі курсантаў па партыйна-палітычных пытаннях у далейшым неабходна ўдзяляць самую сур'ёзную ўвагу.

У палітычнай інфармацыі курсантаў асобнае месца павінны заняць

пытанні асвятлення міжнароднай і ўнутранай палітыкі. Мы павінны памятаць прамое ўказанне таварыша Сталіна аб тым, што

«Совецкі Саюз знаходзіцца ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння... Капіталістычнае акружэнне—гэта не пустая фраза, гэта вельмі рэальная і непрыемная з'ява. Капіталістычнае акружэнне—гэта значыць, што ёсць адна краіна, Совецкі Саюз, якая ўстанавіла ў сябе соцыялістычныя парадкі, і ёсць, апрача таго, многа краін—буржуазныя краіны, якія прадаўжаюць весці капіталістычны вобраз жыцця і якія акружаюць Совецкі Саюз, чакаючы выпадку для таго, каб напасці на яго, разбіць яго або, ва ўсякім выпадку—падарваць яго магутнасць і аслабіць яго».

Указанне таварыша Сталіна аб неабходнасці памятаць пра капіталістычнае акружэнне павінна быць у цэнтры ўвагі пры палітычнай інфармацыі прапагандыстаў.

Як вялікую справу, трэба адзначыць паездку курсантаў у Маскву, у Музей Леніна. Са 160 прапагандыстаў, наведаўшых Музей Леніна, 90% ніколі не бачылі Масквы. Гэта паездка ў іх жыцці была вялікаю падзеяй. У Маскве курсанты прабылі 6 дзён. Каля 3 дзён правялі ў Музеі Леніна, дзе наглядна знаёміліся з гісторыяй нашай партыі. У першы дзень на працягу 4—5 гадзін пад кіраўніцтвам вопытнага экскурсавода яны вывучалі перыяд да 1917 года ўключна. Другі дзень быў прысвечан паслякастрычніцкаму перыяду. Трэці дзень працавалі самастойна над вывучэннем тэмы, якая іх асабліва цікавіла.

Цікава прывесці некаторыя ўражанні прапагандыстаў.

Тав. **Валодзькін** піша: «Для мяне наведанне Музея Леніна з'явілася вялікім шчасцем». Тав. **Ярашэнка:** «За 37 год свайго жыцця я ўпершыню ў чырвонай пролетарскай сталіцы—Маскве. Выключнае ўражанне зрабіў на мяне Музей Леніна. Ён з'ўляецца лепшаю школай для вывучэння гісторыі партыі і аўладання большэвізмам». Тав. **Максіменка:** «Я, як удзельнік грамадзянскай вайны, чырвонагвардзеец, партызан адчуваў вялікае захапленне, бачачы плады нашай шматгадовай барацьбы. Яна не прапала дарма. Як нам ні было калісь цяжка, мы цяпер горды ўсведамленнем таго, што ўпершыню ў гісторыі чалавецтва будуем соцыялізм. Музей Леніна—яркая ілюстрацыя пераможнага шляху, які прашла наша партыя ў барацьбе са сваімі шматлікімі ворагамі».

Курсанты два разы пабывалі ў Музеі рэволюцыі, дзе слухалі цікавыя лекцыі аб народніках і аб рэволюцыі 1905 года. Наведалі Музей Чырвонай арміі, пушкінскую выстаўку, якая зрабіла на іх вялікае ўражанне. Азнаёміліся з Трэцьякоўскай карціннай галерэяй. Былі ў маўзалеі Леніна. Па некалькі раз ездзілі на метро, зачараваныя веліччу гэтай выдатнай будовы соцыялізма. У маскоўскай оперы слухалі «Аіду», у тэатры Меерхольда глядзелі «Гора ад ума».

Паездка ў Маскву многаму навучыла, узбагаціла ведамі, пашырыла кругагляд прапагандыстаў. На агульным сходзе яны так запісалі свае ўражанні: «у Маскве мы азнаёміліся з практычным тварэннем нашай партыі — Музеем Леніна, з цудоўнай соцыялістычнай пабудовай— метро, бачылі культурныя каштоўнасці нашай краіны, наведалі яе лепшыя тэатры. Пакідаючы Маскву, мы абяцаем апраўдаць высокае званне прапагандыста ідэй Леніна—Сталіна, прыкласці ўсе сілы для павышэння свайго тэарэтычнага ўзроўню і якасці работы, каб стаць узорам прапагандыста, вартым звання члена вялікай партыі Леніна— Сталіна».

* * *

На 1937 год аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) устанавіў для ЦК КП(б)Б наступны план перападрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў. На 3-месячных курсах мы павінны перападрыхтаваць 650 кіраўнікоў гурткамі па гісторыі партыі, на 2-месячных—167 заг. партыйнымі кабінетамі пры райкомах партыі, пры буйных прадпрыемствах, МТС і соўгасах і на 2-месячных—30 заг. культпропаддзеламі гаркомаў і райкомаў партыі.

Гэта заданне цалкам выцякае з рашэнняў лютаўскага і красавіцкага пленумаў ЦК нашай партыі і з указанняў таварыша Сталіна аб тым, што

> «... неабходна ўзняць палітычную работу нашай партыі на належную вышыню, паставіўшы ў цэнтры ўвагі задачу палітычнай асветы і большэвіцкай загартоўкі партыйных, совецкіх і гаспадарчых кадраў».

Тым часам, вопыт склікання курсаў у гэтым годзе сведчыць ужо аб тым, што не ўсе партыйныя кіраўнікі зразумелі ўказанне таварыша Сталіна аб важнасці падрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў.

ЦК КП(б)Б рашыў выклікаць з 15 сакавіка г. г. на курсы 260 прапагандыстаў. Не гледзячы на гэта, курсы пачалі заняткі са 150 слухачамі, хоць камплектаванне цягнулася звыш двух тыдняў. Многія з курсантаў прышлі без вопыту прапагандысцкай работы, а некаторыя маюць даволі сур'ёзныя партыйныя спагнанні. Горацкі райком партыі прыслаў на курсы тав. Хадзякова, які мае два партыйныя спагнанні і ніколі прапагандыстам не быў. Бабруйскі райком прыслаў тт. Гарэліка і Рубінава, якія таксама ніколі не працавалі прапагандыстамі. Кармянскі райком прыслаў тав. Гурэвіча, палітычна зусім непадрыхтаванага. Жлобінскі райком прыслаў тав. Рубанава, якога мандатная камісія ніяк не магла прыняць на курсы, ды і сам ён не меў жадання вучыцца.

Гэты, далёка няпоўны, пералік фактаў сігналізуе аб недаацэнцы важнасці падрыхтоўкі прапагандыстаў, аб яўна няўдачным камплектаванні курсаў.

Пара раз і назаўсёды зразумець, што падрыхтоўка прапагандыстаў—важнейшае звяно ва ўсёй сістэме партыйнай работы, што за камплектаванне і паспяховасць курсантаў нясуць адказнасць не толькі ЦК КП(б)Б і яго аддзел партыйнай прапаганды, але і акруговыя, гарадскія, раённыя камітэты партыі.

Пара раз і назаўсёды пакончыць з нецярпімымі разважаннямі аб тым, што на курсы можна пасылаць абы каго, людзей палітычна і тэхнічна малаграматных, няхай, моў, яны падвучацца, а калі з іх і не выйдзе прапагандыстаў, дык і бяда невялікая. Падобныя гнілыя тэорыі трэба расцэньваць, як антыпартыйныя адносіны да выхавання і далейшага ідэйнага ўзбраення прапагандысцкіх кадраў.

Нашым партыйным гурткам і школам патрэбны высокакваліфікаваныя прапагандысцкія кадры. Іх абавязаны даць курсы. Трэба толькі аднесціся да гэтай справы з усёй сур'ёзнасцю і адказнасцю. Пара зразумець, што высокаякасная пастаноўка партыйнай вучобы на курсах узброіць прапагандыстаў ленінска-сталінскай тэорыяй, дасць ім магчымасць лепш зразумець, засвоіць і праводзіць на практыцы лозунг правадыра нашай партыі аб аўладанні большэвізмам.

Рашэнне ЦК ВКП(б) аб курсах перападрыхтоўкі прапагандыстаў у Беларусі з'явілася сур'ёзным папярэджаннем і ў той-жа час аказала

агромную дапамогу партыйным арганізацыям Беларусі ў выпраўленні буйных памылак і недахопаў. Ці справіліся мы ўжо з пастаўленай ЦК ВКП(б) перад намі задачай падрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў? Не, і далёка яшчэ не. У гэтым напрамку зроблены толькі першыя крокі.

Памятаючы рашэнні лютаўскага пленума ЦК ВКП(б) і даклад таварыша Сталіна, мы павінны яшчэ з большай рашучасцю і смеласцю ўзяцца за гэту справу, павысіць якасць выкладання на курсах, каб практычнаю справай адказаць на рашэнне ЦК ВКП(б) аб падрыхтоўцы прапагандыстаў.

---

І. Лук'яновіч

# Крытыка „па-крычаўску“

*(Замест агляду)*

Крычаўская райгазета «Соцыялістычны шлях» (рэдактар тав. Пыко) у нумары 38 ад 30 сакавіка змясціла перадавіцу, прысвечаную справаздачна-выбарчым сходам у пярвічных партарганізацыях. Перадавіца нічым не адрозніваецца ад іншых матэрыялаў, якія змяшчае газета «Соцыялістычны шлях». Яна такая-ж бяззубая і палітычна бесхрыбетная. Газета не асмельваецца поўным голасам крытыкаваць недахопы пярвічных партарганізацый і райкома КП(б)Б. Крытыкуе іх так, каб ад гэтай крытыкі ніхто не пацярпеў.

Газета, напрыклад, піша:

> «Асабліва абураючым з'яўляецца той факт, калі партарганізацыя РВК прачытала справу аб члену партыі Наркевічу, якая праляжала ў РК КП(б)Б па віне сакратара РК КП(б)Б таварыша Казачка і дзелавода райкома з 1935 года. Заява сугуба партыйнага характару і патрабавала неадкладнага вырашэння, але па невядомым прычынам не разгледжана да апошняга часу» [1]).

Райгазета не адважылася расказаць сваім чытачам аб сутнасці справы члена партыі Наркевіча, не адважылася таму, што хацела змазаць астрату пытання. А справа аб Наркевічу вельмі яскрава характарызуе стыль работы Крычаўскага райкома партыі. Увосень 1935 года Лоеўскі РК паведаміў сакратара Крычаўскага РК аб тым, што член партыі Наркевіч, працуючы ў Лоеве, рэкамендаваў для ўступлення ў партыю 13 чалавек, з якіх 9 чалавек у час праверкі партыйных дакументаў былі выкрыты, як кулакі і бандыты (Бандарэнка, Сычоў, Казіміраў і інш.) і выключаны з партыі. Не гледзячы на тое, што Наркевіч рэкамендаваў у партыю яўных ворагаў, сакратар Крычаўскага райкома партыі тав. Казачок не разгледзеў справу Наркевіча на бюро РК і выдаў яму партыйны білет.

Гэты прыклад вельмі навучальны. Ён ярка паказвае, што ў Крычаўскай партарганізацыі і асабліва ў сакратара тав. Казачка не было большэвіцкай рэволюцыйнай пільнасці. Раённая газета не асмелілася поўным голасам расказаць пра гэта сваім чытачам. Газета хацела засакрэціць гэты абураючы факт.

А вось другі яркі прыклад падхалімажу і ўгодніцтва рэдактара газеты «Соцыялістычны шлях» тав. Пыко перад нам. сакратара РК тав. Бедынерманам. Тав. Берына—нам. дырэктара па палітчастцы МТС—

---

[1]) Друкуецца з захаваннем арфаграфіі і стылю арыгінала.—*Рэд.*

прыслала ў рэдакцыю ў пачатку красавіка артыкул, у якім рэзка крытыкавала работу райкома партыі і нам. сакратара тав. Бедынермана. У артыкуле гаварылася аб тым, што ніхто з кіраўнікоў райкома не быў на сядзібе і ў майстэрні МТС, не цікавіўся работай пярвічных партарганізацый. Бедынерман ігнараваў тав. Берыну, як члена РК КП(б)Б і кандыдата бюро, на пасяджэнні яна не выклікалася, а калі прыходзіла сама, то тэхсакратар не адзначаў яе прозвішча ў пратаколе.

Рэдактар газеты тав. Пыко не палічыў патрэбным надрукаваць артыкул, бо ў ім вельмі востра крытыкаваліся паводзіны Бедынермана, і ў парадку падхалімства паслаў яго на рэагаванне ў РК КП(б)Б. Гэты ўчынак тав. Пыко з'яўляецца нічым іншым, як грубейшым заціскам крытыкі. Ён сведчыць аб баязні рэдактара крытыкаваць райком партыі і яго работнікаў.

У нумары ад 18 сакавіка газета змясціла артыкул «Пад знакам большэвіцкай крытыкі», у якім нясмела, упоўголаса спрабавала ўскрыць недахопы паасобных звенняў партарганізацыі. Газета паведамляла, што начальнік Учдора прыняў на работу ад'яўленую трацкістку Гурэвіч Любу. У гэтым-жа артыкуле, таксама мелькам, гаварылася аб бюракратычных паводзінах нам. сакратара РК тав. Бедынермана ў адносінах парторга чыгункі тав. Кайкова, які на працягу 4 гадзін не мог папасці на прыём да нам. сакратара. Таксама мімаходам гаварылася аб тым, што па ініцыятыве жонкі нам. сакратара Бедынермана знят з работы загадчык сталоўкі дэмабілізаваны чырвонаармеец тав. Фралоў.

Праз 5 дзён, у нумары ад 23 сакавіка, рэдакцыя надрукавала папраўку, паведамляючы, што жонка Бедынермана ніякага дачынення да зняцця Фралова з пасады загадчыка сталоўкі не мае. Адносна мер, прынятых па астатніх фактах, газета не палічыла патрэбным паведаміць. У чытачоў склалася думка, што рэдактар даў папраўку ў сувязі з учынкам жонкі нам. сакратара ў парадку падхалімства. Тав. Пыко і сам цяпер заяўляе, што гэта папраўка не адпавядае рэчаіснасці. У яго распараджэнні ёсць заява тав. Фралова і паказанні іншых работнікаў спажывецкай кааперацыі, якія ясна гавораць аб беспадстаўным зняцці з работы дэмабілізаванага чырвонаармейца тав. Фралова. Аднак у рэдакцыі не хапае большэвіцкай смеласці прызнаць сваю памылку. Заметка «Пад знакам большэвіцкай крытыкі» сведчыць аб гніла-ліберальных адносінах рэдактара да разгортвання крытыкі і самакрытыкі.

28 сакавіка на справаздачна-выбарчым сходзе партарганізацыі райвыканкома выступіў тав. Навак і радам фактаў даказаў, што Марозаў з'яўляецца ворагам народу—трацкістам. За крытыку і самакрытыку Марозаў выжываў людзей з апарата Учдора, акружаў сябе трацкістамі (Сандлер, Гурэвіч і інш.), трымаў цесную сувязь з ад'яўленым ворагам народу, расстраляным трацкістам Серабраковым. Работу Учдора Марозаў канчаткова правалiў.

Як-жа адгукнулася на гэтыя факты раённая газета? У нумары ад 30 сакавіка змешчан артыкул—«На выбарчых сходах». Гаворачы аб тым, як прайшоў выбарчы сход партарганізацыі райвыканкома, рэдактар не палічыў патрэбным сказаць аб выступленні члена партыі тав. Навак, які выкрыў Марозава як трацкіста і на прыкладах паказаў, што нам. сакратара райкома партыі тав. Бедынерман і інструктар тав. Левіна змазвалі пытанне аб Марозаве.

Чым вытлумачыць гніла-ліберальныя адносіны рэдактара крычаўскай газеты тав. Пыко да разгортвання бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, да ўскрыцця фактаў сямейственасці і ўгодніцтва? Адказ на гэта пытанне дае знаёмства з апаратам рэдакцыі. Увосень 1935 г., калі тав. Пыко пераязджаў на пасаду рэдактара з чэрвеньскай газеты ў крычаўскую, ён паклапаціўся ўзяць «сваіх» людзей. У Крычаў Пыко прыехаў са сваёй арцеллю: прывёз Касоўскага, які працуе зараз нам. рэдактара, і Ліўшыц—адказнага сакратара. У апараце рэдакцыі пануе паўнейшая сямейственасць, старонкі газеты ў большасці запаўняюцца артыкуламі сваіх работнікаў, газета не звязана з партыйнымі масамі, адарвана ад працоўных.

Становіцца незразумелым, чаму рэдактар тав. Пыко, ведаючы аб тым, што ў райкоме партыі ляжыць кампраметуючы матэрыял на работнікаў газеты—кандыдата партыі Касоўскага і члена ЛКСМБ Ліўшыц,—не адважваецца смела, па-большэвіцку крытыкаваць недахопы работы райкома партыі і яго работнікаў, з усёй рашучасцю ўскрыць сямейственасць у рабоце райвыканкома. Ясней кажучы, паміж рэдакцыяй і РК КП(б)Б існуе кругавая парука. Адзін другога не хочуць пакрыўдзіць. Газета не крытыкуе райком, а райком не спяшаецца разабраць кампраметуючы матэрыял на рэдакцыйных работнікаў—Касоўскага і Ліўшыц.

---

## Прыкладны план лекцый па курсу „Партыйнае будаўніцтва“

*(для курсаў інструктароў РК КП(б)Б, сакратароў парткомаў і парторгаў)*

Тэма I. „ВКП(б)—партыя новага тыпу“.
„ II. „У барацьбе з якімі ворагамі вырас і загартаваўся большэвізм“.
„ III. „Ад апазіцыі да прамой контррэвалюцыі“.
„ IV. „Арганізацыйная пабудова партыі“.
„ V. „Аб членах і кандыдатах партыі і іх абавязках“.
„ VI. „Падбор, расстаноўка і выхаванне кадраў“.
„ VII. „Агітацыйна-прапагандысцкая работа партыі“.
„ VIII. „Ленін і Сталін аб рабоце сярод моладзі і партыйнае кіраўніцтва комсамолам“.

## Прыкладны спіс літаратуры да вучэбнай праграмы курсу

### Літаратура да тэмы I. „ВКП(б)—партыя новага тыпу“

Маркс —„Крытыка готскай праграмы“, т. XV, стар. 269—287.
„ .—Пісьмо Маркса—Энгельса Бабелю, Лібкнехту і інш. Архіў, т. I(VI), стар. 141—157.

Маркс і Энгельс—„Аб праграме і тактыцы германскай соцыял-дэмакратыі, зборнік выдав. „Прыбой“—1930 г.

Ленін —„Крок наперад, два крокі назад“, т. VI, стар. 201—220.
„ —„Дзіцячая хвароба „левізны“ ў комунізме“, гл. II, III, IV, стар. 175—186 (т. XXV).
„ —„Аб большэвізме“, т. XVI, стар. 250—251.
„ —„Прамова аб ролі комуністычнай партыі“ на II Кангрэсе Комуністычнага Інтэрнацыянала, т. XXV, стар. 347—350.

Сталін—„Ленін як арганізатар і правадыр ВКП(б)“, зборнік „Сталін аб Леніне“, Партвыд. 1934 г.
„ —„Аб асновах ленінізма“:
а) уступ, стар. 1—2.
б) гістарычныя карэнні ленінізма, стар. 3—7.
в) метад, стар. 7—12.
г) тэорыя, стар. 12—21.
д) партыя, стар. 62—67.

Сталін—„Пытанні ленінізма“, выд. X.
„ —„К пытанням ленінізма“:
а) азначэнне ленінізма, стар. 102—103,
б) галоўнае ў ленінізме, стар. 103—105.
„ —„Яшчэ раз аб социял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі“, гл. І „Папярэдняя заўвага“, зб. „Аб апазіцыі“, стар. 439—445.
„ —„Аб індустрыялізацыі краіны і аб правым ухіле“, „Пытанні ленінізма“, IX выд., стар. 371—384.
„ —„Аб некаторых пытаннях гісторыі большэвізма“ (пісьмо ў рэдакцыю журнала „Пролетарская революция“) „Пытанні ленінізма“, X выд., стар. 467—477.
Праграма ВКП(б) (гл. дадатак да XXIV тома Леніна, стар. 691—707).
Статут ВКП(б) (гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 596—604).

## ДАДАТКОВАЯ ЛІТАРАТУРА

Ленін—„Соцыялізм і вайна“, т. XVIII, стар. 218—223.

### Літаратура да тэмы II.—У барацьбе з якімі ворагамі вырас і загартаваўся большэвізм

Ленін —„Што рабіць“, т. IV, стар. 383—394.
„ —„Заўвага на другі праект праграмы Плеханава“, т. V, стар. 18—34.
„ —„Крок наперад, два крокі назад“, т. VI, стар. 163—166, 264—276.
„ —„Дзве тактыкі“, т. VIII, стар. 35—48, 76—79, 86—90.
„ —„Пісьмо Багданаву і Гусеву“, т. VII, стар. 100—103.
„ —„Пісьмо Цэнтральнаму камітэту“, т. VIII, стар. 246—247.
„ —„Аб фракцыі староннікаў адзавізма і богабудаўніцтва“, т. XIV, стар. 144—160.
„ —„Ліквідацыя ліквідатарства“, т. XIV, стар. 104—110.
„ —„Аб парушэнні адзінства, якое прыкрываецца крыкамі аб адзінстве“, т. XVII, стар. 379—394.
„ —„Распад „жнівеньскага“ блоку“, т. XVII, стар. 251—253.
„ —„Аб новай фракцыі прымірэнцаў або добрачынных“, т. XV, стар. 228—243.
„ —„Аб чырвані сораму ў Іудушкі-Троцкага“, (Ленінскі зборнік, т. XXI).
„ —„Аб народніцтве“, т. XVI, стар. 283—286.
„ —„Марксізм і рэвізіянізм“, т. XII, стар. 183—189.
„ —„Соцыялізм і вайна“, т. XVIII, стар. 218—223. (Рэкамендуецца паўторна).
„ —„Аб лозунгу Злучаных Штатаў Еўропы“, т. XVIII, стар. 230—233.
„ —„Што сказаў суд над РСДР фракцыяй“, т. XVIII, стар. 129—133.
„ —„Пісьма аб тактыцы“, т. XX, стар. 99—108.
„ —„Аб выступленні Каменева ў ЦВК з поваду Стокгольмскай канферэнцыі“, т. XXI, стар. 78—79.
„ —„К пытанню аб аб'яднанні інтэрнацыяналістаў“, т. XX, стар. 381—382.
„ —„Пісьмо да членаў партыі большэвікоў“, т. XXI, стар. 350—352

Ленін —„Пісьмо ў Цэнтральны камітэт", т. XXI, стар. 353—356.
„ —„Ультыматум большасці ЦК меншасці, т. XXII, стар. 38—39.
„ —„Ад Цэнтральнага камітэта", т. XXII, стар. 57—61.
„ —„Дзіцячая хвароба „левізны" ў комунізме", гл. IV, т. XXV, стар. 173—186.
„ —„Рэзалюцыя ЦК па пытанню аб апазіцыі ўнутры ЦК", т. XXX, стар. 360—361.
„ —„Аб левым рэбячэстве і дробнай буржуазнасці", т. XXII, стар. 505—528.
„ —„Дзіўнае і пачварнае", т. XXII, стар. 297—303.
„ —„Даклад аб адзінстве партыі і анарха-сіндыкалісцкім ухіле", т. XXVI, стар. 265—271.
„ —„Яшчэ раз аб профсаюзах, аб бягучым моманце", т. XXVI, стар. 111—145.

Сталін—„Трацкізм або ленінізм", збор. „Аб апазіцыі", стар. 101—124.
„ —„Нацыянальныя моманты ў партыйным і дзяржаўным будаўніцтве" (даклад на XII З'езде РКП(б)).
„ —„Марксізм і нацыянальнае пытанне", стар. 111—129.
„ —„Яшчэ раз аб соцыял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі", зборнік „Аб апазіцыі", стар. 439—458 (паўторна).
„ —„Нашы рознагалоссі", зборнік „Аб апазіцыі", стар. 97—98.
„ —„Кастрычніцкая рэволюцыя і тактыка рускіх комуністаў", „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 75—101.
„ —„Аб перманентнай рэволюцыі", „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 105—107.
„ —„Аб некаторых пытаннях гісторыі большэвізма" (пісьмо ў рэдакцыю журнала „Пролетарская революция"), „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 467—477.
„ —„Адказ тт. Алехновічу і Арыстову", „Большевик" № 16 за 1932 г., стар. 46—48.
„ —„Аб індустрыялізацыі краіны і правым ухіле ў ВКП(б)" „Пытанні ленінізма", выд. IX, 371—384.
„ —„Аб правым ухіле ў ВКП(б)", з прамовы на пленуме ЦК ВКП(б) у красавіку 1929 г. „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 240—287.
„ —„Галавакружэнне ад поспехаў", „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 322—327.
„ —„Аб ухілах у галіне нацыянальнага пытання" (з даклада на XVI з'ездзе ВКП(б) „Пытанні ленінізма", выд. IX, стар. 562—568.
„ —„Аб ухіле да нацыяналізма" (са справаздачнага даклада ХУII З'езду ВКП(б), гл. зборн. „Артыкулы і прамовы аб Украіне", стар. 222—223.
„ —„Аб рабоце ў вёсцы" (Прамова на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) 1933 г.), „Пытанні ленінізма", выд. X., стар. 513—524.
„ —„Пісьмо з Сольвычэгодскай ссылкі", „Большевик", № 1—2, 1932 г.
„ —„Пісьмо з Каўказа", „Большевик", № 4, 1932 г.

Пастанова ЦК і ЦКК ВКП(б) ад 1-X 1930 г. аб фракцыйнай рабоце Сырцова, Ламінадзе і інш. (гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. II., стар. 668—669.

Пастанова прэзідыума ЦКК ВКП(б) ад 9-Х 1932 г. аб удзельніках і пасобніках контррэволюцыйнай групы Руціна, Іванова, Галкіна і інш. (гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, т. II, стар. 669—670).

Рэзалюцыя аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК ВКП(б) ад 7—12 студзеня 1933 г.—аб антыпартыйнай групіроўцы Эйсманта, Талмачова і Смірнова А. П. (гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, т. II, стар. 531—532).

Працэс трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра (гл. „Праўда“ ад 19--20—21—22—23—24 жніўня 1936 г.).

## ДАДАТКОВАЯ ЛІТАРАТУРА

Ленін —„Рэволюцыйны авантурызм“, т. V, стар. 145—152.
„ —„Рознагалоссі ў еўрапейскім рабочым руху“, т. XV, стар. 5—9.
„ —„Аб нараджаючымся кірунку імперыялістычнага эканамізма“, т. XXX, стар. 250—256.
Сталін—„Палітычная справаздача ЦК XVI З'езду ВКП(б)“ (даклад і заключнае слова) „Пытанні ленінізма“, выд. X.
„ —„К пытанням аграрнай палітыкі ў СССР“, „Пытанні ленінізма“, выд. X, стар. 299—304.

### Літаратура да тэмы III. Ад апазіцыі да прамой контррэволюцыі

Ленін —„Пісьма аб тактыцы“, т. XX, стар. 105—108.
„ —„Заключнае слова па дакладу аб „бягучым момацне“, т. XX, стар. 180—182.
„ —„Дзве рэплікі“, т. XX, стар. 185.
„ —„Заключнае слова на красавіцкай канферэнцыі“, т. XX, стар. 252—253.
„ —„Прамова па нацыянальнаму пытанню на красавіцкай канферэнцыі“, т. XX, стар. 275—279.
„ —„Аб выступленні Каменева“, т. XXI, стар. 78—79.
„ —„Пісьмо да таварышоў“, т. XXI, стар. 334—349.
„ —„Пісьмо да членаў партыі большэвікоў“, т. XXI, стар. 350—352.
„ —„Пісьмо ў Цэнтральны камітэт“, т. XXI, стар. 353—361.
„ —„Рэзалюцыя ЦК РСДРП(б) аб апазіцыі ўнутры ЦК“, т. XXX, стар. 360—361.
„ —„Аб рэволюцыйнай фразе“, т. XXII, стар. 261—269.
„ —„Мір ці вайна“, т. XXII, стар. 275—276.
„ —„Чарговыя задачы совецкай улады“, т. XXII, стар. 407—468.
„ —„Першапачатковы праект рэзалюцыі X З'езда РКП аб адзінстве“, стар. 259—261.
Сталін—„Трацкізм ці ленінізм“, зб. „Аб апазіцыі“, стар. 117—124.
„ —„Палітычная фізіяномія рускай апазіцыі“, зб. „Аб апазіцыі“, стар. 711—717.
„ —„Трацкісцкая апазіцыя раней і цяпер“, зб. „Аб апазіцыі“, стар. 741—744.
„ —„Палітычная справаздача XVI З'езду партыі“, „Пытанні ленінізма“, выд. X, стар. 414—429.
„ —„Аб некаторых пытаннях гісторыі большэвізма“, „Пытанні ленінізма“, выд. X, стар. 476—477.
„ —„Працэс трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра“ („Праўда“, ад 19, 20, 21, 22, 23, 24 жніўня 1936 г.), або асобныя брашуры („Большевик“ № 20 1936 г. Кансультацыя, стар. 54—71).

## Літаратура да тэмы IV. Арганізацыйная пабудова партыі.

### I. Асноўныя прынцыпы арганізацыйнай пабудовы партыі

Ленін —„Пісьмо да таварыша аб нашых арганізацыйных задачах“' т. V, стар. 179—192.
„ —„Праект статута Расійскай соц.-дэм. раб. партыі“, т. VI, стар. 12—13.
„ —„Даклад аб статуце партыі“ (II З‘езд РСДРП), т. VI, стар. 24.
„ —„Прамова пры абмеркаванні статута партыі“, (II З‘езд РСДРП) т. VI, стар. 31—33.
„ —„Расказ аб II З‘ездзе РСДРП“, т. VI, стар. 49—60.
„ —„Крок наперад, два крокі назад“, т. VI, стар. 188—242
„ —„Прамова пры абмеркаванні статута партыі (на III З‘ездзе РСДРП), т. VII, стар. 285—287.
„ —„Аб рэарганізацыі партыі“, т. VIII, стар. 373—381.
„ —„Тактычная платформа да аб‘яднанага З‘езда“.
„ —„Асновы арганізацыі партыі“, т. IX, стар. 50.
„ —„Дзіцячая хвароба „левізны“ ў комунізме“, раздз. II.
„ —„Адна з асноўных умоў поспеху большэвікоў“, т. XXV стар. 173—175.
Сталін—„Аб асновах ленінізма“, раздз. VIII—Партыя, „Пытанні ленінізма“, выд. X, стар. 62—72.
„ —„Партыя і рабочы клас у сістэме дыктатуры пролетарыята“ „Пытанні ленінізма“, выд. X, раздз. V, стар. 113—131.

### ДАДАТКОВАЯ ЛІТАРАТУРА

Ленін —„Прамова аб ролі комуністычнай партыі“ (на II Кангрэсе Комуністычнага Інтэрнацыянала), т. XXV, стар. 347—350.
„ —„Умовы прыёму ў Комуністычны Інтэрнацыянал“, т. XXV, стар. 279—284.
Сталін—„Аб чарговых задачах партыйнага будаўніцтва“ (даклад і заключнае слова на XIII усесаюзнай канферэнцыі ВКП(б) 13—18 студзеня 1924), гл. зборн. „Аб апазіцыі“, стар. 51—81.

Статут РСДРП, прыняты на III з‘ездзе, гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, т. I, стар. 52—54.

Статут Комуністычнага Інтэрнацыянала.

Рашэнне VII кангрэса Комінтэрна па дакладу тав. Дзімітрава аб умацаванні комуністычных партый, раздз. VI і раздз. III з даклада тав. Дзімітрава на VII кангрэсе Комінтэрна—аб умацаванні компартый і барацьбе за палітычнае адзінства пролетарыята. Гл. партвыд. (рэзалюцыя VII кангрэса Комінтэрна), стар. 28—31, 89—96.

### 2. Змяненні статута партыі на розных этапах гісторыі ВКП(б)

Ленін —„Праект статута РСДРП“, т. VI, стар. 12—13.
„ —„Прамова пры абмеркаванні статута партыі на II з‘ездзе РСДРП“, т. VI, стар. 31—33.

Статут РСДРП, прыняты на IV з‘ездзе. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 64—84.

Статут РСДРП, прыняты на V з‘ездзе. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 111—112.

Змены арганізацыйнага статута партыі, прынятыя Пражскай канферэнцыяй РСДРП. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 194—195.

„Рэзалюцыя нарады ЦК РСДРП з партыйнымі работнікамі аб будаўніцтве нелегальнай арганізацыі“, (Кракаў) „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 200—201.

Статут РСДРП(б), прыняты на VI З'ездзе РСДРП(б). Дадатак да XXI т. твораў Леніна, стар. 478—479, або „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 266—267.

„Рэзалюцыя VIII З'езда РКП(б) па арганізацыйнаму пытанню“, гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 311—314.

Статут ВКП(б), прыняты VIII канферэнцыяй РКП(б). Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, выд. 1936 г., стар. 326—331.

Рэзалюцыя IX З'езда РКП(б) па арганізацыйнаму пытанню. Дадатак да XXV тома твораў Леніна, стар. 563—566 або „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, выд. 1936 г., стар. 350—353.

Статут РКП(б), прыняты XII канферэнцыяй РКП(б). Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, выд. 1936 г., стар. 464—470.

**Сталін**—„Арганіз. справаздача ЦК на VIII з'ездзе ВКП(б) і заключнае слова. Гл. стэнагр. справаздача, стар. 116—133, 240—248.

**XIII З'езд РКП(б).** Рэзалюцыя аб чарговых задачах партыйнага будаўніцтва“. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 581—590.

**Пленум ЦК ВКП(б) і ЦКК ад 17.I.25 г.**—Рэзалюцыя аб выступленні Троцкага. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 651—656.

**XIV канферэнцыя РКП(б)**—Рэзалюцыя аб партыйным будаўніцтве. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 414.

**XIV з'езд РКП(б)**—Даклад т. Андрэева аб змяненні статута партыі. Стэнаграф. справаздача, стар. 876—882, 892—894.

Статут, прыняты XIV з'ездам РКП(б). Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 82—92.

**Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК ВКП(б) 9/VIII 1927 г.**—Рэзалюцыя аб парушэнні партыйнай дысцыпліны Зіноўевым і Троцкім. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 195—199.

**Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК 21-23/X 1927 г.**—Аб выключэнні Зіноўева і Троцкага з ЦК. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 225.

**XV з'езд ВКП(б)**—Аб апазіцыі. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 264—266.

Статут ВКП(б), прыняты на XVII з'ездзе. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 596—604.

Кагановіч—Арганізацыйная справаздача ЦК на XVII з'ездзе ВКП(б). Стэн. справаздача, стар. 548—566.

## ДАДАТКОВАЯ ЛІТАРАТУРА

**Сталін**—„Аб соцыял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі“. Зборнік „Аб апазіцыі“, стар. 325—419.

„ —„Яшчэ раз аб соцыял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі“, там-жа, стар. 437—448.

Працэс трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра. „Правда“, ад 19, 20, 21, 22, 23, 24 жніўня 1936 г.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК ВКП(б) ад 7-12 студзеня 1933 г. Аб антысовецкай групіроўцы Эйсмонта, Талмачова, Смірнова А. П. і інш. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 531—532.

Пастанова ЦК і ЦКК ВКП(б) ад 1/XII 1930 г. Аб фракцыйнай рабоце Сырцова, Ламінадзе і інш. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 568—669.

Пастанова прэзідыума ЦКК ВКП(б) ад 9/X 1932 г. Аб контррэвалюцыйнай групе Руціна, Іванова, Галкіна і інш. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. II, стар. 669—670.

### 3. Ленін і Сталін аб ролі і значэнні партапарата.

Ленін —„Пісьмо да таварыша аб нашых арганізацыйных задачах", т. V, стар. 179—192.
„ —„Праект рэзалюцыі III з'езда", т. VII, стар. 133.
„ —„III з'езд РСДРП", т. VII, стар. 282.
„ —„Салаўя баснямі не кормяць", т. VII, стар. 51—56.
„ —„З хворай галавы на здаровую", т. VII, стар. 205.
„ —„Прамова па дакладу аб дзейнасці ЦК 8 мая", т. VII, стар. 207.
„ —„Крызіс меншавізма", т. X, стар. 188.
—„Прамова пры адкрыцці канферэнцыі 2 снежня", т. XXIV, стар. 557.
„ —„Прамова на маскоўскай губпартканферэнцыі", т. XXV, стар. 492—493.
„ —„Прамова на агульным сходзе камуністаў Замаскварэчча, 29-IX. 1920 г.", т. XXV, стар. 515.
„ —„С. І. Гусеву", т. XXVIII, стар. 457.
Сталін —„Чарговыя задачы партыйнага будаўніцтва" (даклад на XIII канферэнцыі РКП).
„ —„Арг. справаздача ЦК на XII з'езде РКП(б)", стэн. справазд., стар. 49—62.
„ —„Арг. справаздача ЦК на XIII з'езде РКП(б), стэн. справазд., стар. 116—133.
Молатаў—„Арг. справазд. ЦК на XIV з'ездзе РКП(б), стэн. справазд., стар. 39—52.

Аб плане работ аргбюро ЦК на сакавік—жнівень 1926 г. (Прамова тав. Сталіна на пасяджэнні аргбюро ЦК), „Известия" ЦК ВКП(б) 1926 г. № 16—17 (131—138), стар. 1—2.

Даклад тав. Молатава аб плане работы аргбюро ЦК (на пасяджэнні аргбюро), „Известия" ЦК ВКП(б), 1926 г. № 11 (131—132), стар. 3—5.

Аб плане работ аргбюро ЦК (прамова тав. Молатава на пасяджэнні аргбюро ЦК) „Известия" ЦК ВКП(б), 1927 г. № 16 (189), стар. 1—4.

Кагановіч—„Бліжэйшыя задачы работы аргаддзелаў, „Известия" ЦК РКП(б), 1923 г. № 1, стар. 3—10.

„Аб рабоце ячэек" (з даклада тав. Кагановіча на нарадзе заўаргаў губкомаў і абкомаў 23—30 снежня 1922 г. („Известия" ЦК РКП(б), 1923 г., № 2, стар. 62—67.

Палажэнне аб асноўных аддзелах губкомаў і ўкомаў РКП (студзень 1921 г.). „Справочник партийного работника", 1921 г., стар. 52—55.

Структура партыйных камітэтаў на месцах і іх арганізацыйная работа (па анкетных даных Усерасійскай майскай канферэнцыі). „Известия" ЦК РКП(б) 1921 г. № 31, стар. 8—10.

Нарада сакратароў абкомаў, аббюро і губкомаў РКП—27-29 снежня 1921 г. „Аб рабоце парт'ячэек". „Известия" ЦК РКП(б), 1922 г.. № 1(37), стар. 34.

Аб рабоце цэхавых ячэек (пастанова ЦК РКП(б) ад 29 чэрвеня 1925 г. „Справочник партийного работника)", вып. 5, стар. 238—240.

Аб чарговых задачах работы вытворчых партыйных ячэек. (Пісьмо ЦК усім арганізацыям і ячэйкам РКП), „Справочник партийного работника“, вып. 5, стар. 232—238.

Пабудова і формы партарганізацыі ў вёсцы, „Справочник партийного работника“, вып. 5, стар. 240—241.

Аб рабоце совецкіх ячэек з пункту погляду барацьбы з бюрократызмам і інш. недахопамі совецкіх і гаспадарчых органаў. (Пастанова ЦК ад 15. XI—26 г. („Известия“ ЦК ВКП(б), 1926 г. № 49 (170), стар. 2—3.

Палажэнне аб рабоце ячэек ВКП(б) (Пастанова ЦК ад 26 мая 1927 года).

Палажэнне аб адказных інструктарах ЦК ВКП(б) „Известия“ ЦК РКП(б), 1925 г., № 17—18 (92—93), стар. 8.

Аб рабоце адказных інструктароў ЦК. (Пастанова ЦК ад 28 сакавіка 1927 г.). „Справочник партработника“, вып. 6, ч. I, стар. 509—510.

Аб пастаноўцы партыйнай інфармацыі і мерах па яе палепшанню. (Пастанова ЦК ад 2 ліпеня 1926 г.) „Справочник партийного работника“, вып. 6, ч. I, стар. 563—570.

Чарговыя задачы партыйнай інфармацыі і статыстыкі і арганізацыйнае ўмацаванне інформстатработы. „Известия“ ЦК ВКП(б) 1926 г. № 19—20 (140—141). Дадатак.

Інструкцыя рэвізійным камісіям па рэвізіі фінансаў партарганізацый і правядзенне бюджэтнай дысцыпліны. „Справочник партийного работника“, вып. 6, ч. I, стар. 521—524.

Аб інфармацыйных і статыстычных справаздачах (усім губкомам, абкомам, нацыянальным ЦК партыі, абласным бюро ЦК РКП(б). „Известия“ ЦК РКП(б). 1922 г. № 6(42), стар. 30—32.

**Кагановіч**—„Арганізацыйныя пытанні. Партыйнае і совецкае будаўніцтва“. (Даклад на XV з'ездзе РКП(б), стэнагр. справазд., стар. 525—547).

„ —„Чарговыя задачы партработы і рэарганізацыя партработы“ (брошюра ГИЗ, 1930 г.).

„ —„Аб унутрыпартыйнай рабоце і аддзелах кіруючых парторганаў“. Партвыд. 1934 г.

„ —„Выкладанне прамовы на нарадзе работнікаў АКПО ЦК ВКП(б)“ (журнал „Партийное строительство“) № 17—18 за 1935 г.

### Літаратура да тэмы V. Аб членах і кандыдатах партыі і іх абавязках

Ленін —„Аб умовах прыёму новых членаў у партыю“. Дзве запіскі В. М. Молатаву, т. XXVII, стар. 209—212.

„ —„Першапачатковы праект рэзалюцыі X з'езда РКП аб адзінстве партыі“, т. XXVI, стар. 259—261.

„ —„Першапачатковы праект рэзалюцыі X з'езда РКП аб сіндыкалісцкім і анархісцкім ухіле ў нашай партыі, т. XXVI, стар. 261—264.

„ —„Даклад аб адзінстве партыі і анарха-сіндыкалісцкім ухіле“ 16 сакавіка, т. XXVI, стар. 265—271.

„ —„Аб чыстцы партыі“, т. XXVII, стар. 12—14.

**Сталін**—„Ленін, як арганізатар і правадыр РКП(б)“. Збор. „Сталін аб Леніне“ (артыкул да 50-годдзя Леніна з дня яго нараджэння або „Правда“ № 86, красавік 1920 г.).

**Сталін** — „Аб Леніне“. Прамова на вечары крэмлёўскіх курсантаў. Гл., „Сталін аб Леніне“, або „Правда“ ад 28 студзеня 1924 г.

„ —„Аб некаторых пытаннях гісторыі большэвізма“. „Пытанні ленінізма“, вып. X, стар. 467—477.

„ —„Прамова на II з‘ездзе Саветаў СССР“.

„ —„Даклад на XVII з‘ездзе ВКП(б)“, раздзел III—Партыя. (Рэкамендуецца паўторна).

X З‘езд РКП(б)—„Рэзалюцыя аб кантрольных камісіях“, Гл. „ВКП(б у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 377—378.

„ „ „ „ —„Аб партыйным будаўніцтве“.

„ „ „ „ —„Аб адзінстве партыі“.

„ „ „ „ —„Аб сіндыкалісцкім і анархісцкім ухіле ў нашай партыі“. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 365—377.

XI З‘езд РКП(б)—„Аб умацаванні і новых задачах партыі“. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 438—444.

XI З‘езд РКП(б)—„Рэзалюцыя снежаньскай 1921 г. канферэнцыі РКП па пытанню аб умацаванні партыі, у сувязі з улікам вопыту праверкі асабовага складу“. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 444—450.

Пленум ЦК РКП(б) ад 29—31 студзеня 1924 г.—„Аб прыёме рабочых ад станка ў партыю“. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 573—574.

Пленум ЦК ВКП(б) ад 31 сакавіка—2 красавіка 1924 г.—„Аб норме прадстаўніцтва на XIII З‘ездзе“. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 575.

Пленум ЦК ВКП(б) ад 16—24 XI 1928 г.—„Аб вярбоўцы рабочых і рэгуляванні росту партыі“. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 304—310.

16 канферэнцыя ВКП(б)—„Аб чыстцы і праверцы членаў і кандыдатаў ВКП(б)“. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 356—362.

Пленум ЦК ВКП(б) ад 21—25 XII 1935 г.—„Рэзалюцыя па дакладу тав. Ежова аб выніках праверкі партыйных дакументаў“. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. II, стар. 646—652.

## ДАДАТКОВАЯ ЛІТАРАТУРА

Зборнік. Статут партыі—непарушная аснова партыйнага жыцця. Выд. Партвыд. ЦК ВКП(б), 1936 г.

Усім арганізацыям РКП(б) аб перарэгістрацыі, „Известия“ ЦК РКП(б) № 1 ад 28 мая 1919 г., стар. 1.

Аб усерасійскай перарэгістрацыі членаў РКП(б), аб увядзенні адзінага партыйнага білета. „Справочник партработника“ ад 1921 г., стар. 69—77.

Палажэнне аб адзіным партыйным білеце. Інструкцыя аб адзіным партыйным білеце. „Известия“ ЦК РКП(б) за 1922 г. № 1 (37).

Увядзенне адзінага партбілета. Аб парадку выдачы партбілета новага ўзору. „Справочник партийного работника“, выпуск II, стар. 128—130.

Учот і размеркаванне партсіл. Нарада сакратароў абкомаў, аббюро і губкомаў РКП(б) ад 27—29 снежня 1921 г. „Известия“ ЦК РКП(б) за 1922 г. № 1 (37).

Учот змен статута партыі. „Справочник партработника“, выпуск III, стар. 136—137.

Аб парадку выдачы партбілетаў і атрыманні іх членамі партыі „Справочник партработника“, выпуск IV, стар. 151.

Аб учоце членаў партыі. „Справочник партработника", выпуск VI, ч. I. стар. 527—546.

Аб увядзенні новага партбілета—Пастанова ЦК ВКП(б) ад 9 жніўня 1926 г. „Справочник партработника", выпуск VI, ч. I, стар. 546—547.

Аб тэрміне абмену партбілетаў і інструкцыі аб парадку абмену і учоту іх. Пастанова ЦК ВКП(б) ад 19 лістапада 1926 г. „Справочник партработника", выпуск VI, ч. I, стар. 547.

Інструкцыя аб парадку учоту і выдачы адзінага партбілета. Пастанова ЦК ВКП(б) ад 19 лістапада 1926 г. „Справочник партработника", выпуск VI, ч. I, стар. 543—553.

Аб мерапрыемствах па палепшанню учоту і статыстыкі ў ячэйках і партыйных камітэтах. Пастанова ЦК ВКП(б) ад 16 верасня 1927 г. „Справочник партработника", выпуск VI, ч. I, стар. 601.

Матэрыялы і дакументы аб праверцы і абмене партдакументаў у 1935—36 гг.

Рашэнне ЦК ВКП(б) аб ходзе праверкі партдакументаў па Курскай, Заходняй, Харкаўскай і іншых абласцях у раённых арганізацыях.

Рашэнне ЦК ВКП(б) аб парадку пераезду членаў ВКП(б) з адной арганізацыі ў другую.

Інструкцыя ЦК аб пастаноўцы учотна-статыстычнай работы ў партыйных арганізацыях.

### Літаратура да тэмы VI. Падбор, расстаноўка і выхаванне кадраў

**Ленін** —„Задачы рускіх соцыял-дэмакратаў". Раздз. „Пецербургскім рабочым і соцыялістам ад Саюза Барацьбы", том II, стар. 188—190.
„ —„Насушнае пытанне", т. II, стар. 500—504.
„ —„Праект заявы рэдакцыі „Искра" и „Заря", т. IV, стар. 5—13.
„ —„Насушныя задачы нашага руху", т. IV, стар. 55—59.
„ —„З чаго пачаць", т. IV, стар. 107—112.
„ —„Гутарка з абаронцамі эканамізма", т. IV, стар. 342—343.
„ —„Што рабіць?", т. IV, стар. 426—429, 438—442, 459—464, 486.
„ —„Пісьмо ў рэдакцыю „Искра", т. VI, стар. 120—123.
„ —„Пісьмо А. А. Багданаву і С. І. Гусеву", т. VII, стар. 102.
„ —„Дзве тактыкі", т. VII, стар. 110.
„ —„Новыя задачы і новыя сілы", т. VII, стар. 148—150.
„ —„Пісьмо Цэнтральнаму камітэту РСДРП", т. VIII, стар. 5—6.
„ —„Аб рэарганізацыі партыі", т. VIII, стар. 373—376.
„ —„На прамую дарогу", т. XII, стар. 169—172.
„ —„З поваду двух пісем", т. XII, стар. 393—394, 402.
„ —„Нарада пашыранай рэдакцыі „Пролетария", т. XIV, стар. 95.
„ —„Іван Васільевіч Бабушкін", т. XIV, стар. 396—399.
„ —„Рэзалюцыя нарады ЦК РСДРП з партработнікамі", т. XVI, стар. 230.
„ —„Як В. Засуліч забівае ліквідатарства". т. XVI, стар. 634—636.
„ —„Ці ўтрымаюць большэвікі дзяржаўную ўладу", т. XXI, стар. 258, 259, 262, 270.
„ —„Прамова памяці Я. М. Свердлова" на экстранай нарадзе ВЦВК 18 сакавіка 1919 г., т. XXIV, стар. 79—83.
„ —„Аб кандыдатуры М. І. Калініна на пост старшыні ВЦВК", т. XXIV, стар. 188—190.
„ —„Вынікі партыйнага тыдня ў Маскве і нашы задачы", т. XXIV, стар. 490—493.

Ленін —„Заключнае слова па палітычнаму дакладу ЦК 2-га снежня“, т. XXIV, стар. 574—575.
„ —„VII Усерасійскі З‘езд Саветаў“, т. XXIV, стар. 621—625.
„ —„Прамова на III Усерасійскім З‘ездзе РКСМ, том XXV, стар. 389—390.
„ —„Яшчэ раз аб профсаюзах“, т. XXVI, стар. 131.
„ —„Аб харчовым падатку“, т. XXVI, стар. 343—344.
„ —„Наказ ад СТО мясцовым совецкім установам“, том XXVI, стар. 373—374.
„ —„VII маскоўская губпартканферэнцыя“, т. XXVII, стар. 73—78.
„ —„IX Усерасійскі З‘езд Саветаў“, т. XXVII, стар. 137—139.
„ —„Аб міжнародным і ўнутраным становішчы“, том XXVII, стар. 178—179.
„ —„Б. А. Наскову, С. І. Гусеву“, т. XXVIII, стар. 98—101, 454—455, 465.

Сталін—„Аб асновах ленінізма“, „Пытанні ленінізма“, выд. X, стар. 72—74.
„ —„Аб вырошчванні і ўмацаванні марксісцкіх кадраў у нацрэспубліках і абласцях“, зб. „Артыкулы і прамовы аб Украіне“, стар. 204—207.
„ —„Аб задачах гаспадарнікаў“, „Пытанні ленінізма“, выд. X, стар. 439—447.
„ —„Новая абстаноўка—новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва“ (6 умоў тав. Сталіна) „Пытанні ленінізма“, выд. X, стар. 448—466.
„ —„Справаздачны даклад XVII з‘езду ВКП(б), „Пытанні ленінізма“, выд. X, стар. 589—595.
„ —„Прамова на выпуску ваенных акадэмікаў 4 мая 1935 г. Партвыд. 1935 г.
„ —„Выступленне на нарадзе рабочых і работніц-стаханаўцаў“. Партвыд. 1935 г., стар. 361—376. „Першая ўсесаюзная нарада рабочых і работніц-стаханаўцаў“.

Пісьмо ЦК ВКП(б) ад 5 лютага 1925 г. аб вылучэнні і ўцягненні ў практычную работу новаўступіўшых у партыю рабочых („Справочник партработника“, вып. V, стар. 249).

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 7 сакавіка 1927 г. „Аб задачах партыі ў справе вылучэння рабочых і сялян у дзяржапарат.“ („Известия“ ЦК—12).

Тэзісы і пастановы оргбюро па пытанню аб учоце і размеркаванні работнікаў дзяржаўных і гаспадарчых органаў, 30 лістапада 1923 г. „Справочник партработніка“, вып. IV, стар. 144—146.

Перамяшчэнне партработнікаў „Справочник партработника“, вып. III, стар. 134—136.

Пісьмо ЦК РКП(б) аб умацаванні вясковых арганізацый партыйнымі сіламі. (Да ўсіх арганізацый РКП, да ўсіх членаў партыі), „Справочник партработника“, вып. 5, стар. 253—255.

Работа партыі ў справе вылучэння работнікаў. (Са зборніка справаздач аддзелаў ЦК ВКП(б), выданага к XV партыйнаму з‘езду. „Известия“ ЦК ВКП(б) 1927 г. № 42—43 (215—216), стар. 3—6.

Аб праверцы складу работнікаў крэдытных устаноў з пункту погляду іх умацавання і падрыхтоўкі новых кадраў. (Пастанова ЦК ад 27 чэрвеня 1927 г. „Известия“ ЦК ВКП(б), 1927 г. № 29 (202), стар. 5—6.

Аб праверцы складу работнікаў дзяржгандлюючых і сіндыкатных органаў у мэтах умацавання і падрыхтоўкі новых кадраў. (Пастанова

ЦК ВКП(б) ад 20 чэрвеня 1927 г. „Известия" ЦК ВКП(б), 1927 г. № 24—25 (197—198).

Аб праверцы складу работнікаў спажывецкай кааперацыі ў мэтах умацавання і падрыхтоўкі новых кадраў. Пастанова ЦК ВКП(б) ад 14 чэрвеня 1927 г. „Известия" ЦК ВКП(б). 1927 г. № 24—25.

„Аб размеркавальнай рабоце мясцовых партыйных арганізацый". Пастанова ЦК ад 25 ліпеня 1927 г. „Справочник партийного работника", вып. 6, ч. I, стар. 555—557.

„Агульны арганізацыйны план правядзення Усесаюзнага партыйнага перапісу 1926 г.". Пастанова ЦК ад 15 кастрычніка 1926 г. „Справочник партработника", вып. VI, ч. I, стар. 602—608.

„Перапіс адказных работнікаў". „Известия" ЦК РКП, 1922 г. № 8 (33), стар. 37—44.

„Учот і размеркаванне", „Справочник партработника", вып. II, стар. 83—87.

### Літаратура да тэмы VII. Агітацыйна-прапагандысцкая работа партыі

#### 1. Ленін і Сталін аб партыйнай прапагандзе, агітацыі і друку, і чарговыя задачы работы ў гэтай галіне

Ленін —„З чаго пачаць?", т. IV, стар. 107—113.
„ —„Што рабіць?", т. IV, стар. 414—418, 479—492.
„ —„Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура" т. VIII, стар. 386—390.
„ —„Заява рэдакцыі „Искра", т. IV, стар. 37—41.
„ —„Капіталізм і друк", т. XVII, стар. 280—282.
„ —„Пісьмо да таварышоў", т. VI, стар. 372—376.
„ —„З мінулага рабочага друку ў Расіі", т. XVII, стар. 341—347.
„ —„Да 4-гадовага юбілею „Бедноты", т. XXVII, стар. 206.
„ —„Да 10-гадовага юбілею „Правды", т. XXVII, стар. 292—296.

Сталін—„Аб асновах ленінізма", „Метад—тэорыя", „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 7—24.
„ —„Да пытанняў аграрнай палітыкі ў СССР", „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 299—317.
„ —„Справаздачны даклад XVII з'езду партыі, разд. III, Партыя, „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 578—589.

Кагановіч—„Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б), раздз. III, аб перабудове масавай работы і партыйных арганізацый". Стэн. справаздача, стар. 548—566.

### ДАДАТКОВАЯ ЛІТАРАТУРА

Ленін —„Першапачатковы накід артыкула „Чарговыя задачы савецкай улады", т. XXII, стар. 412—417.
„ —„Аб характары нашых газет", т. XXIII, стар. 212—214.
„ —„Даклад на I Кангрэсе „Аб буржуазнай дэмакратыі і літаратуры пролетарыята", т. XXIV, стар. 7—20.
—„Друк, як калектыўны арганізатар" (зборнік „Ленін і Сталін аб пролетарскім друку"), Леноблиздат, 1933 г. або „Правда" № 99, ад 2 мая 1923 г.
„Чым далей у лес"—„Правда" № 102 ад 10 мая 1923 г.

### 2. Арганізацыя партыйнай асветы

Ленін —„Пісьмо вучням Капрыйскай партыйнай школы“, т. XIV, стар. 119—123.
„ —„Прамова на III усерасійскім з‘ездзе РКСМ 2.X. 1920 г.“ т. XXV, стар. 384—397.
„ „Тэзісы аб вытворчай прапагандзе“, т. XXV, стар. 478—480.
Сталін—„Справаздачны даклад XVII з‘езду партыі; раздзел III—Партыя (рэкамендуецца паўторна).
„ — Гутарка з першай рабочай амерыканскай дэлегацыяй ад 9 IX 1927 г. „Пытанні ленінізма“, выд. X, стар. 159—194.
„ —„Друк, як калектыўны арганізатар“ (гл. зборнік „Ленін і Сталін аб пралетарскім друку“).
Кагановіч—„За большэвіцкае вывучэнне гісторыі партыі“, прамова на сходзе, прысвечаным 10 гадавіне ІКП.

II з‘езд РСДРП аб пастаноўцы прапаганды. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 31.

III з‘езд РСДРП аб прапагандзе і агітацыі. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“. ч. I, стар. 49.

VI з‘езд РСДРП(б) аб прапагандзе. Гл. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 268.

VIII з‘езд РКП(б) аб палітычнай прапагандзе і культурна-асветнай рабоце ў вёсцы. „ВКП(б) у рэзалюцыях“. ч. I, стар. 317.

X з‘езд РКП(б) аб арганізацыі курсаў па вывучэнню марксізма. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 390.

XI з‘езд РКП(б) аб друку і прапагандзе па пытанню аб рабоце сярод работніц і сялянак. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 454.

XII з‘езд РКП(б) па пытаннях прапаганды, друку і агітацыі. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 515.

XII з‘езд РКП(б) аб пастаноўцы антырэлігійнай агітацыі і прапаганды. „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 524.

## ДАДАТКОВАЯ ЛІТАРАТУРА

**С. М. Кіраў**—„Прамова на XVII з‘ездзе ВКП(б)“—раздзел аб партыйнай вучобе. Стэнаграф. справазд., стар. 258.
**А. А. Андрэеў**—„Прамова пры адкрыцці Вышэйшай школы прапагандыстаў пры ЦК ВКП(б)“, „Правда“ ад 26.II—36 г.
**П. П. Постышэў**—„Аб некаторых задачах марксісцка-ленінскай асветы“, „Комуністычная рэволюцыя“ № 3 за 1936 г. або Партвыд. 1935 г.

### 3. Арганізацыя агітацыйнай работы

Ленін —„Палітычная агітацыя і класавы пункт погляду“. т. IV, стар. 353—357.
„ —„Пісьмо „Паўночнаму саюзу“, т. V, стар. 127—130.
„ —„Да пытання аб дакладах камітэтаў і груп Рас. Соц. Дэм. Раб. партыі агульнапартыйнаму з‘езду“, т. V, стар. 212—219.
„ —„Пачатак дэманстрацыі“, т. XIV, стар. 391—393.
„ —„Аб ачыстцы рускай мовы“, т. XXIV, стар. 662.
„ —„Пленум Усерасійскага цэнтральнага совета прафесіянальных саюзаў“, т. XXIV, стар. 234—235.
„ —„Прамова на ўсерасійскай нарадзе палітпрасветаў губернскіх і павятовых аддзелаў народнай асветы ад 3-XI 1920 г., т. XXV, стар. 448—456.

**Сталін**—„Аб рабоце ў вёсцы"—Прамова на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) ад 11 студзеня 1933 г. „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 513—524.

„ —„Галавакружэнне ад поспехаў", „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 322—327.

ДАДАТКОВАЯ ЛІТАРАТУРА

**Ленін** — „Прадмова да брашуры „Майскія дні" ў Харкаве" т. IV, стар 47—52.

Расказы старых рабочых аб рабоце таварыша Сталіна ў Закаўказзі. „В помощь партучебе", № 27.

III з'езд РСДРП аб прапагандзе і агітацыі. „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. I, стар. 49.

VIII з'езд РКП(б) аб культурна-асветнай рабоце ў вёсцы. „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. I, стар. 317.

IX з'езд РКП (б) аб рабоце сярод жаночага пролетарыята. „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. I, стар. 354.

X з'езд РКП(б) аб Галоўпалітасвеце і агітацыйна-прапагандысцкіх задачах партыі. „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. I, стар. 388.

XI з'езд РКП(б) аб друку і па пытанню аб рабоце сярод работніц і сялянак. „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. I, стар. 454.

XII з'езд РКП(б) па пытаннях прапаганды, друку і агітацыі ў пастаноўцы антырэлігійнай агітацыі і аб рабоце РКП(б) сярод работніц і сялянак. „ВКП(б) у рэзалюцыях" ч. I, стар. 515, 524, 532.

XIII з'езд РКП(б) аб антырэлігійнай рабоце і аб рабоце сярод работніц і сялянак. „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. I, стар. 615—631.

Рашэнне пленума ЦК ВКП(б) ад 7—12 лютага 1927 г. аб перавыбарах Советаў. „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. II, стар. 172.

Рашэнне пленума ЦК ВКП(б)—снежань, 1930 г. аб перавыбарах Советаў. „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. II, стар. 455.

**Літаратура да тэмы VIII. Ленін і Сталін аб рабоце сярод моладзі і партыйным кіраўніцтве комсамолам**

**Ленін** —„Задачы саюзаў моладзі", т. XXX, стар. 403—417.

„ —„Нашай змене", т. XXX, стар. 398.

**Сталін**—Арганізацыйная справаздача XII з'езду РКП(б). Стэнаграф. справазд., стар. 51—52.

„ —Даклад XIII з'езду РКП(б). Стэнаграф. справазд., стар. 5.

„ —Аб выніках XIII з'езда РКП(б) (даклад на курсах сакратароў укомаў), „Правда" № 136—137, 19 і 20 чэрвеня 1924 г.

„ —Аб задачах журнала „Красная молодежь". „Красная молодежь", № 1—5, студзень 1925 г.

„ —„Аб задачах комсамола". „Пытанні ленінізма", выд. IX, стар. 186—190.

„ —„Да пытанняў ленінізма". „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 115.

„ —„VII з'езду ВЛКСМ", „Правда", № 66, 23-III 1926 г.

„ —„Прамова на VIII з'ездзе ВЛКСМ", „Комсомольская правда", № 113; 17-V 1928 г.

„ —„Прамова на I з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў". „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 535.

* * *

Акрамя літаратуры, рэкамендаванай па данаму прыкладнаму спісу, неабходна на курсах прапрацаваць рад асноўных работ Леніна („Што рабіць?“, „Дзіцячая хвароба „левізны“ ў комунізме“, „Дзяржава і рэволюцыя“, „Развіццё капіталізма ў Расіі“ і інш. і Сталіна („Кастрычніцкая рэволюцыя і тактыка рускіх комуністаў“, „Кастрычніцкі пераварот і нацыянальнае пытанне“, „Аб соцыял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі“, „Пісьмо ў рэдакцыю „Пролетарская революция“ і інш).

Слухачы курсаў, у залежнасці ад іх узроўню развіцця і падрыхтоўкі, павінны вывучыць некаторыя з гэтых работ з дапамогай спецыяльна вылучаных кансультантаў.

---

П Паспелаў

# Барацьба Бухарына і Рыкава супроць Леніна і партыі

(*Гістарычны агляд*)

Яшчэ да рэволюцыі Бухарын выступаў супроць Леніна па пытанню аб дыктатуры пролетарыята са сваёй асобай лініяй, якая азначала разрыў з марксізмам. У 1936 годзе ў журнале «Интернационал молодежи» з'явіўся артыкул Бухарына (за подпісам Nota Bene) накіраваны супроць Леніна. У гэтым артыкуле Бухарын праводзіў поўанархісцкі погляд, што соцыялісты павінны адносіцца прынцыпова варожа да ўсякай дзяржавы. «Для соцыял-дэмакратыі, якая з'яўляецца або, па крайняй меры, павінна быць выхавальніцай мас, цяпер больш, чым калі-небудзь неабходна падкрэсліваць сваю прынцыповую варожасць да дзяржавы»,—пісаў Бухарын. Падкрэсліваючы прынцыповую варожасць да ўсякай дзяржавы наогул, Бухарын скатваўся, такім чынам, да адмаўлення дыктатуры пролетарыята. Ён прапаведваў анархісцкую тэорыю «адмены», «узрыву» дзяржавы замест ленінскай тэорыі «злому» буржуазнай дзяржаўнай машыны.

Крытыкуючы поўанархісцкія погляды Бухарына, Ленін пісаў:

«Ад анархістаў нас адрознівае (α) выкарыстанне дзяржавы **цяпер** ( ) у час **рэволюцыі** пролетарыята («дыктатура пролетарыята»)— пункты, важнейшыя для практыкі, зараз-жа. (Іх якраз і **забыў** Бухарын![1]). Ленін указваў, што Бухарын «замест выкрыцця кауцкіянцаў, **дапамог** ім сваімі памылкамі!!»[2])

Бухарын на ўсім працягу гісторыі нашай партыі блытаў палітычна і тэарэтычна. Вось што пісаў пра яго Ленін яшчэ ў 1916 годзе:

> «ён (1) даверлівы да плётак і (2) у палітыцы д'ябальскі **няўстойлівы.**
>
> Вайна штурхнула яго да ідэй поўанархічных. На нарадзе, якая вынесла бернскія рэзалюцыі (вясна 1915 года), ён даў **тэзісы** (у мяне ёсць!)—верх недарэчнасці; сорам; поўанархізм»[3]).

У 1925 годзе Бухарын друкуе ў зборніку «Революция права» артыкул «Да тэорыі імперыялістычнай дзяржавы». Гэты артыкул быў у свой час не прыняты Леніным для друкавання ў «Сборнике социал-демократа». Бухарын палічыў магчымым, праз год пасля смерці Ле-

---

1) **Ленінскі зборнік**, т. XIV, стар. 257.
2) Там-жа, стар. 259.
3) **В. І. Ленін**. Творы, т. XXIX, стар. 229—230.

ніна, вылезці ў друк з адвергнутым вялікім настаўнікам партыі артыкулам. Больш таго, ён зрабіў да артыкула кашчунственную заўвагу, у якой сцвярджаў, што ў спрэчцы аб дзяржаве быў праў ён, Бухарын, а не Ленін.

Перыяд Брэсцкага міру (люты—сакавік 1918 года), калі маладая, не ўзмацнеўшая, бяззбройная Совецкая рэспубліка сустрэлася з узброеным да зубоў германскім імперыялізмам, быў адным з цяжэйшых момантаў пролетарскай рэволюцыі. Брэсцкі мір быў геніяльным манеўрам Леніна, даўшым магчымасць атрымаць перадышку для ўмацавання совецкай улады, для арганізацыі ўзброеных сіл рэволюцыі. Бухарын і Пятакоў, якія ўзначальвалі фракцыю так званых «левых комуністаў», імкнуліся сарваць гэты ленінскі манеўр. Яны адыгрывалі па сутнасці здрадніцкую ролю, штурхаючы совецкую ўладу на пагібель пад прадлогам «рэволюцыйнай вайны», яўна безнадзейнай у тых умовах. Яны выносілі сапраўды страхотныя, правакацыйныя рэзалюцыі, у якіх гаварылася аб «мэтазгоднасці»... ісці на страту совецкай улады!

Так літаральна і было запісана ў рэзалюцыі Маскоўскага абласнога бюро ад 24 лютага 1918 года:

**«У інтарэсах міжнароднай рэволюцыі мы лічым мэтазгодным ісці на магчымасць страты совецкай улады, якая становіцца цяпер чыста фармальнай».**

Сваёй авантурысцкай палітыкай «левыя» комуністы аблягчалі імперыялізму яго задачу—задушыць маладую Совецкую рэспубліку. Ленін прама ўказваў, што сваёй барацьбой супроць заключэння міру «левыя» комуністы «на справе **дапамаглі** германскім імперыялістам і **перашкодзілі** росту і развіццю рэволюцыі ў Германіі» [1]).

Барацьба «левых» комуністаў супроць Леніна даходзіла да такой жорсткасці, што левыя эсэры вялі перагаворы з Бухарыным і Пятаковым аб прамой **змове** з мэтай арышту Леніна і стварэння ўрада з «левых» комуністаў і левых эсэраў. Старшынёй Соўнаркома замест Леніна контррэволюцыйныя змоўшчыкі хацелі зрабіць Пятакова. Факт гэтых злачынных перагавораў з левымі эсэрамі прызнаваў сам Бухарын у 1924 годзе (гл. «Праўду» ад 3 студзеня 1924 г.).

«Левыя» комуністы сваю барацьбу супроць партыі і Леніна вялі, фактычна блакіруючыся з Троцкім, які таксама злачынна зрываў справу міру. Сярод «левых» комуністаў было нямала людзей, якія ў далейшым выступілі супроць партыі, як трацкісты (Пятакоў, Радэк, Прэабражэнскі і інш.). «Левыя» комуністы вялі жорсткую барацьбу супроць партыі не толькі па пытанню аб заключэнні Брэсцкага міру. Яны выступалі таксама супроць умацавання дыктатуры пролетарыята, супроць першых крокаў соцыялістычнага будаўніцтва, якія рабіла партыя пад кіраўніцтвам Леніна пасля заключэння міру.

«Левых» комуністаў Ленін характарызаваў, як «ашалелых дробных буржуа». Соцыяльная прырода дробных уласнікаў, якія варожа адносіліся да пролетарскай дысцыпліны, наглядна праяўлялася ў выступленнях Бухарына і іншых «левых» супроць Леніна па пытаннях арганізацыі соцыялістычнай гаспадаркі, дысцыпліны працы, адзінаначалля, здзельнай аплаты працы, учоту і кантролю і т. д.

У перыяд VII і VIII партыйных з'ездаў Бухарын выступае супроць

---

[1]) В. І. Ленін. Творы т. XXII, стар. 307.

партыі і супроць Леніна па такому важнейшаму пытанню, як праграма партыі.

У чым заключалася сутнасць спрэчкі аб праграме партыі? Бухарын прапанаваў выкінуць з праграмы аналіз таварнай вытворчасці, крызісаў і замяніць гэта аналізам «чыстага імперыялізма». Бухарын лічыў, што асноўныя супярэчнасці капіталістычнага ладу (канкурэнцыя, крызісы) у эпоху імперыялізма ў рамках паасобных капіталістычных краін «зняты». У такой пастаноўцы былі закладзены асновы праваапартуністычнай тэорыі «арганізаванага капіталізма». Яшчэ ў 1917 годзе ў дыскусіі аб праграме Бухарын пісаў наступнае:

«Ранейшы раздроблены і неарганізаваны капіталізм замяняецца **«капіталізмам арганізаваным».** (Журнал «Спартак» № 2, стар. 6).

Далей Бухарын прама дагаварваўся да меншавіцкага тэзіса, што новы тып капіталістычных адносін у эпоху імперыялізма знішчае супярэчнасці капіталістычнага грамадства ў рамках адной краіны.

У артыкуле «Крушэнне капіталізма» Бухарын ставіць пытанне: «Ці знішчае гэты **новы** тып капіталістычных адносін супярэчнасці капіталістычнага грамадства? Ці знішчае ён перш за ўсё **анархію** сучаснага способу вытворчасці?» І, *німала не саромячыся*, адказвае: «Калі абмяжоўвацца толькі рамкамі дзяржаўнай арганізацыі, г. зн. рамкамі капіталістычнай бацькаўшчыны, то можна адказаць на гэтае пытанне ў сцвярджальным сэнсе». (Журнал «Спартак» № 10, стар. 6).

Пярэчачы супроць бухарынскай тэорыі «чыстага імперыялізма», Ленін гаварыў на VIII з'ездзе партыі:

«Чысты імперыялізм без асноўнай базы капіталізма ніколі не існаваў, нідзе не існуе і ніколі існаваць не будзе. Гэта ёсць няправільнае абагульненне ўсяго таго, што гаварылася аб сіндыкатах, картэлях, трэстах, фінансавым капіталізме, калі паказвалі фінансавы капіталізм так, як быццам ніякіх асноў старога капіталізма пад ім няма...

... Калі напісаць праграму так, як хацеў тав. Бухарын,—такая праграма будзе няверна» [1]).

З антыленінскай тэорыі «чыстага імперыялізма», якую Бухарын упарта адстойваў, вырасла бухарынская праваапартуністычная тэорыя «арганізаванага капіталізма», якая радніла яго з меншавіцкім II Інтэрнацыяналам.

Бухарын выступіў супроць Леніна пры абмеркаванні праграмы і па пытанню аб вырастанні капіталістычных элементаў з дробнай сялянскай гаспадаркі.

Ва ўпартым адмаўленні небяспечнасці росту капіталістычных элементаў з дробнаўласніцкай сялянскай гаспадаркі можна прасачыць карэнні бухарынскай праваапартуністычнай тэорыі «мірнага ўрастання кулака ў соцыялізм», адмаўлення ім неабходнасці соцыялістычнай перапрацоўкі сялянства.

Трэба адзначыць, што пры абмеркаванні праграмы на VII з'ездзе партыі Бухарын прапанаваў абвясціць неадкладнае адміранне пролетарскай дзяржавы. Гэта прапанова была звязана з яго памылкамі ў перыяд вайны, калі ён выступаў супроць дыктатуры пролетарыята. Пярэчачы Бухарыну, Ленін гаварыў:

---

[1]) **В. І. Ленін.** Творы, т. XXIV, стар. 131—132.

«Загадзя абвяшчаць адміранне дзяржавы будзе парушэннем гістарычнай перспектывы» [1]).

Пры абмеркаванні праграмы на VIII з'ездзе партыі Бухарын выступіў супроць Леніна па нацыянальнаму пытанню.

Ленін і Сталін распрацавалі праграмныя погляды большэвікоў па нацыянальнаму пытанню, як частку тэорыі пролетарскай рэволюцыі. Без ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі была-б немагчыма перамога Вялікай пролетарскай рэволюцыі, перамога соцыялізма ў СССР.

Бухарын і Пятакоў яшчэ ў гады вайны выступілі супроць Леніна, адмаўляючы значэнне нацыянальнага пытання ў эпоху імперыялізма. Тым самым яны на практыцы асуджалі пролетарскую рэволюцыю на ізаляцыю і паражэнне, адштурхоўваючы рэзервы, рэволюцыйныя магчымасці нацыянальна-вызваленчага руху прыгнечаных краін. Погляды Бухарына і Пятакова Ленін называў «карыкатурай на марксізм».

На VIII з'ездзе партыі Бухарын заявіў, што большэвіцкі лозунг права нацый на самавызначэнне нібы супярэчыць прынцыпам пролетарскай дыктатуры.

У 1921 годзе Бухарын зноў выступае супроць Леніна ў дыскусіі аб профсаюзах. Вядома, што гэта дыскусія, узнятая Троцкім, прынесла вялікую шкоду, стварыла крызіс партыі ў цяжэйшых умовах пачатку 1921 года. Бухарын спачатку ўзяў на сябе ролю «буфера» у дыскусіі, але на справе выступаў толькі супроць Леніна, як саюзнік Троцкага. Бухарын здрадніцкі распальваў дыскусію, падліваючы ў яе, паводле выражэння Леніна, «буферны карасін».

У тэзісах Бухарына зноў праявіліся анарха-сіндыкалісцкія хістанні. Даўно ўжо разыходзячыся з Леніным па пытанню аб дыктатуры пролетарыята, у профсаюзнай дыскусіі Бухарын пачаў адмаўляць кіруючую ролю партыі ў адносінах да гаспадарчых арганізацый. Ён прапанаваў, каб профсаюзы прызначалі так званыя «абавязковыя» кандыдатуры ў адпаведныя гаспадарчыя главкі без зацверджання гэтых кандыдатур партыяй. Бухарын адмаўляў кіраўніцтва комуністычнай партыі беспартыйнымі рабочымі, працяглую работу па асвеце і выхаванню працоўных мас («школа» комунізма).

Аб пазіцыі Бухарына Ленін пісаў: «...верхам распаду **ідэйнага** з'яўляюцца тэзісы Бухарына і К°... Гэта—поўны разрыў з комунізмам і пераход на пазіцыю сіндыкалізма» [2]).

Ленін папярэджваў Бухарына, што аб'ектыўная логіка фракцыйнай барацьбы супроць партыі і ўпартае настойванне на сваіх ухіленнях ад комунізма можа завесці яго вельмі далёка.

«Чым далей будзе... Бухарын абараняць яўна нявернае тэарэтычна і абманнае палітычна сваё ухіленне ад комунізма, тым сумней будуць плады ўпартасці» [3]).

У 1920 годзе Ленін рэзка крытыкаваў у сваіх заўвагах кнігу Бухарына «Эканоміка пераходнага перыяду», ускрываючы ў ёй адсутнасць марксісцкага, дыялектычнага падыходу, багданаўскую схаластыку Бухарына.

Незадоўга да сваёй смерці Ленін зрабіў яшчэ адно папярэджанне

1) **В. І. Ленін.** Творы, т. XXII, стар. 365.

2) **В. І. Ленін.** Творы, т. XXVI, стар. 92.

3) Там-жа, стар. 145.

Бухарыну. «...Яго тэарэтычныя погляды,—пісаў Ленін пра Бухарына,—вельмі з вялікім сумненнем могуць быць аднесены да зусім марксісцкіх, бо ў ім ёсць нешта схаластычнае (ён ніколі не вучыўся і, думаю, ніколі не разумеў зусім дыялектыкі)».

Але Бухарын не паслухаў гэтых папярэджанняў Леніна. Яго старыя ўхіленні ад марксізма, ад комунізма паслужылі асновай для ідэалогіі правага кулацкага ўхілу.

* * *

Другі лідэр правага ўхілу—Рыкаў таксама не раз вёў барацьбу супроць Леніна і партыі. У гады рэакцыі Рыкаў займаў прымірэнчую пазіцыю ў адносінах да ўсіх антыпартыйных груп—да ліквідатараў, Троцкага, да «адзавістаў». Рыкаў разам з Каменевым, Зіноўевым, Томскім і інш. перашкаджаў Леніну змагацца з гэтымі антыпартыйнымі групамі, разам з іншымі прымірэнцамі здраджваў Леніна.

На красавіцкай канферэнцыі 1917 года Рыкаў разам з Каменевым выступіў супроць красавіцкіх тэзісаў Леніна, супроць лініі партыі на перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Рыкаў адкрыта заяўляў, што ў Расіі соцыялістычная рэволюцыя немагчыма. «Адкуль узойдзе сонца соцыялістычнага перавароту?—пытаў Рыкаў.—Я думаю,—гаварыў ён,—што па ўсіх умовах, абывательскаму ўзроўню, **ініцыятыва соцыялістычнага пераваpоту належыць не нам. У нас няма сіл, аб'ектыўных умоў для гэтага».** (Сёмая («красавіцкая») Усерасійская і Петраградская агульнагарадская канферэнцыя РСДРП(б), Партвыдат, 1934 г., стар. 93).

На красавіцкай канферэнцыі Ленін характарызаваў погляды Рыкава, як «разрыў з марксізмам», як «пародыю на марксізм».

Рыкаў вёў барацьбу супроць Леніна і партыі ў час Кастрычніцкага паўстання, ён быў супроць Кастрычніцкай рэволюцыі. Пасля Кастрычніцкага пераваропу Рыкаў разам з Каменевым і Зіноўевым імкнецца перавесці дыктатуру пролетарыята на рэйкі буржуазнай дэмакратыі. Гэтыя людзі, тармозячы рэволюцыйную работу, прад'яўляюць партыі ультыматум—уключыць ва ўрад меншавікоў і правых эсэраў, патрабуюць адмаўлення ад соцыялістычнай рэволюцыі. ЦК партыі ў рэзалюцыі ад 15(2) лістапада 1917 года, напісанай Леніным, асудзіў іх злачынныя хістанні і падкрэсліў, што **«склаўшаяся ўнутры ЦК апазіцыя цалкам адыходзіць ад усіх асноўных пазіцый большэвізма і пролетарскай класавай барацьбы наогул, паўтараючы глыбока немарксісцкія славечкі аб немагчымасці соцыялістычнай рэволюцыі ў Расіі»** [1]). 17(4) лістапада 1917 года Рыкаў падае заяву аб выхадзе са складу ЦК і з урада, з паста наркомунутрспраў. Ленін заклеймiў гэты ганебны ўчынак Рыкава, як дэзерцірства і штрэйкбрэхерства.

## II

Бухарын не вынес урокаў з папярэджанняў Леніна, які не раз сурова крытыкаваў бухарынскія ўхіленні ад марксізма. Пасля смерці Леніна Бухарын арганізуе антыпартыйную «школку», якую «выхоўвае» на проціпастаўленні сябе, Бухарына,—Леніну. Як высняецца цяпер з прызнанняў некаторых удзельнікаў гэтай «школкі», Бухарын прама заўляў гэтым людзям, што моў, у спрэчках з Леніным ён, Бухарын,

---

[1]) В. І. Ленін. Творы, т. XXX, стар. 360, падкрэслена намі.—П. П.

быў праў, а Ленін памыляўся, што Ленін мог разбіць Бухарына толькі таму, што ў апошняга не было сваіх кадраў.

Якія-ж «кадры» стаў групаваць вакол сябе Бухарын? Сярод гэтых людзей, якія лічыліся «моладдзю», значная частка да ўступлення ў нашу партыю паспела пабываць у кадэтаў, у эсэраў і т. д. Гэтыя людзі ніколі нічога агульнага не мелі з рабочым класам, былі арганічна чужды ўсім традыцыям большэвізма.

Бухарын літаральна дэмаралізоўваў свае гнілыя «кадры», ліслівіў ім і ўнушаў, што яны, моў, павінны адыгрываць кіруючую ролю ў партыі, як «тэарэтыкі».

У сваю чаргу «вучні» выслаўлялі Бухарына—гэтага блытаніка, эклекціка, які неаднаразова поўнасцю парываў з комунізмам. Адлюстраваннем такіх настрояў і з'явіўся антыпартыйны артыкул Марэцкага, які сцвярджаў, што Бухарын нібы быў праў у спрэчцы з Леніным аб дзяржаве.

У гэтым дэмаралізаваным асяроддзі Слепковых, Марэцкіх, Кузьміных на працягу раду год выношвалася ідэалогія правага ўхілу, асновай якога з'явіліся старыя антыленінскія памылкі Бухарына па такіх карэнных пытаннях, як дыктатура пролетарыята.

Яшчэ ў той перыяд, калі Бухарын змагаўся разам з партыяй супроць трацкістаў і зіноўеўцаў, у яго намячалася свая асобая лінія па раду пытанняў. Па сутнасці, ён змагаўся супроць трацкістаў са сваіх асобых пазіцый. Так была справа з лозунгам «узбагачайцеся», асуджаным партыяй, і з тэорыяй «урастання» капіталістаў у соцыялізм. Так была справа са сцверджаннем Бухарына на XIV з'ездзе партыі, дзе ён гаварыў, што к соцыялізму мы нібыта «будзем плесціся чарапашым крокам».

З пераходам да рэканструкцыйнага перыяда класавая барацьба ў краіне абвастраецца, узмацняецца супраціўленне капіталістычных элементаў соцыялістычнаму наступленню. Ускрываецца шкодніцкая дзейнасць буржуазных спецыялістаў, звязаных з капіталістычным акружэннем (шахцінская справа). Кулацтва актыўна супраціўляецца правядзенню хлебазагатовак.

Іменна ў гэты перыяд правыя апартуністы афармляюцца як антыпартыйная фракцыя і вядуць ярасныя атакі на партыю.

У перыяд ліпеньскага (1928 г.) Пленума ЦК правыя склаліся як закончаная антыпартыйная фракцыя са сваім цэнтрам у складзе Бухарына, Рыкава, Томскага.

Пад кіраўніцтвам гэтага цэнтра разгортваецца фракцыйная дзейнасць правых у маскоўскай арганізацыі. Кучка правых апартуністаў (Угланаў, Котаў, Кулікоў, Руцін і інш.), якія пазней сталі махровымі контррэволюцыянерамі, спрабавала падняць раённыя партарганізацыі супроць партыі, але была разбіта. Гнусную антыпартыйную дзейнасць развівае Томскі сярод бюракратычных элементаў профсаюзнага апарата, вырошчваючы з іх ворагаў партыі і народу.

Восенню 1928 года Бухарын выступае ў друку з «Заметкамі эканаміста», накіраванымі на зрыў палітыкі індустрыялізацыі, якую праводзіла партыя.

Ва ўмовах рэканструкцыйнага перыяда, калі ішоў «апошні і рашучы бой» з унутраным капіталізмам, што вырастаў з дробнай сялянскай гаспадаркі, калі сталі выкарчоўвацца самыя карэнні капіталізма, калі класавая барацьба ў краіне абвастрылася, правыя актывізаваліся і выступілі як прамая агентура кулацтва. Правыя элементы

ў партыі выступалі заадно з такімі контррэвалюцыйнымі ідэолагамі кулацтва, як Кандрацьеў, Чаянаў і інш. Правым спачувалі шкоднікі з Промпартыі (Рамзін і інш.).

Лінія правых на захаванне адсталасці нашай краіны, на адмаўленне ад калектывізацыі, на захаванне кулацтва, на адмаўленне ад палітыкі індустрыялізацыі вяла да ўзмацнення капіталістычных элементаў, да рэстаўрацыі капіталізма. Палітыка правых літаральна штурхала партыю ў пастку, пагражала найвялікшымі небяспекамі як з пункту погляду ўнутранай палітыкі, так і міжнароднай.

Калі-б у партыі перамагла лінія правага ўхілу, лінія захавання адсталасці нашай краіны, нам-бы, бясспрэчна, пагражаў лёс Кітая. Совецкі Саюз стаў-бы лёгкай здабычай імперыялістычных разбойнікаў, здабычай фашызма. Але партыя Леніна—Сталіна разбіла правы ўхіл. Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна наша краіна з адсталай стала передавой індустрыяльнай дзяржавай, непрыступнай крэпасцю соцыялізма, якой не страшны ніякія напады ворагаў.

Важнейшую ролю ў справе разгрому правага ўхілу адыгрываў красавіцкі (1929 г.) Пленум ЦК ВКП(б). У пачатку 1929 г. ускрыты былі фракцыйныя перагаворы Бухарына з трацкістамі, што адбываліся ў ліпені 1928 г. Пры разборы гэтага пытання лідэры правых выступаюць з гнуснай фракцыйнай «дэкларацыяй», поўнай нечуваных паклёпніцкіх выпадаў супроць партыі, узятых з арсенала кадэцкага лідэра Мілюкова.

На красавіцкім Пленуме ЦК правыя зноў выступілі са сваёй платформай, накіраванай супроць соцыялістычнага будаўніцтва. У процівагу пяцігадоваму плану Рыкаў высунуў апартуністычную «двухгодку» з мэтай дыскрэдытаваць і сарваць правядзенне пяцігодкі, сарваць асігнаванні на справу індустрыялізацыі. Правыя выступілі супроць новых вытворчых форм змычкі з вёскай, прапаноўвалі цалкам развязаць рыначную стыхію пад выглядам «нармалізацыі рынку», прапаноўвалі даць поўную свабоду развіццю кулака ў вёсцы і прыватнага гандляра ў горадзе.

Прамова таварыша Сталіна «Аб правым ухіле ў ВКП(б)», сказаная на красавіцкім Пленуме ЦК, мела велізарнейшае значэнне. Яна завяршала ідэйны разгром правага ўхілу, да канца ўскрыла антыленінскі характар сістэмы поглядаў правых апартуністаў.

Поўны разрыў Бухарына з марксісцка-ленінскай тэорыяй класавай барацьбы з'явіўся асновай поглядаў правага ўхілу.

«Знішчэнне класаў **шляхам жорсткай класавай барацьбы пролетарыята,**—вось формула Леніна.

Знішчэнне класаў **шляхам патухання класавай барацьбы і ўрастання капіталістаў у соцыялізм,**—вось формула т. Бухарына...

У гэтым аснова ўсіх памылак т. Бухарына і яго прыяцеляў»,—указваў таварыш Сталін[1]).

Таварыш Сталін паказаў, што палітычная сутнасць бухарынскай групоўкі зводзіцца да разлажэння соцыялістычнага будаўніцтва, да здачы пазіцый капіталістычным элементам, гэта значыць да здрадніцтва рэволюцыі.

«Ці разумее група т. Бухарына, што адмовіцца ад барацьбы з правым ухілам значыць **здрадзіць** рабочаму класу, **здрадзіць** рэволю-

---

[1]) І. Сталін. „Пытанні ленінізма“, стар. 254.

цыі?»—так заканчваў таварыш Сталін сваю прамову аб правым ухіле[1]).

Пленум ЦК у спецыяльнай рэзалюцыі асудзіў права-апартуністычную, фракцыйную дзейнасць Бухарына, Рыкава, Томскага і папярэдзіў іх, куды расце гэта антыпартыйная лінія.

XVI з'езд партыі ў сваім рашэнні па справаздачы ЦК ВКП(б) указаў, што «ажыццяўленне лініі правых ухілістаў, якія з'яўляюцца аб'ектыўна агентурай кулацтва, азначала-б зрыў будаўніцтва сацыялізма і аднаўленне капіталізма ў нашай краіне». З'езд абвясціў погляды правай апазіцыі несумяшчальнымі з прыналежнасцю да ВКП(б).

III

На працягу доўгіх год, да самага апошняга часу ЦК ВКП(б) даваў магчымасць правым выправіць і загладзіць свае грахі перад партыяй. Лідэры правых, у адрозненне ад трацкістаў, не выключаліся з партыі, паколькі яны заявілі аб адмаўленні ад сваіх антыленінскіх, антыпартыйных поглядаў. Аднак пасля фармальнага прызнання сваіх памылак 1929—30 гг. правыя сталі прымяняць сістэму двурушніцтва, самага подлага ашуканства партыі і перайшлі да антысавецкіх поглядаў, метадаў і прыёмаў барацьбы.

Характэрным дакументам гэтага апошняга этапа ў развіцці правага ўхілу з'яўляецца контррэвалюцыйная платформа так званай руцінска-слепкоўскай групы. Гэта групоўка бухарынцаў была цесна звязана з трацкістамі і зіноўеўцамі, у тым ліку з Каменевым і Зіноўевым, і прама ставіла ў сваёй платформе задачу аднаўлення ў СССР капіталізма. Як цяпер высвятлілася, гэта платформа была ўхвалена лідэрамі правых. У пастанове прэзідыума ЦКК ВКП(б) ад 9 кастрычніка 1932 года ўказвалася, што гэта група ворагаў комунізма і савецкай улады, здраднікаў партыі і рабочага класа, стварыла падпольным шляхам **«буржуазную, кулацкую арганізацыю па аднаўленню ў СССР капіталізма і, у прыватнасці, кулацтва»[2]).**

У ліпені 1928 года Бухарын вядзе здрадніцкія бясчэсныя перагаворы з Каменевым аб блоку з трацкістамі. У 1932 годзе па справе так званай руцінска-слепкоўскай групы, якая ўзначальвалася, як пасля высветлілася, лідэрамі правага ўхілу, устанаўляецца сувязь правых са злейшымі ворагамі народу—трацкістамі, з Каменевым і Зіноўевым. У 1936 годзе і ў 1937 годзе ўдзельнікі аб'яднанага трацкісцка-зіноўеўскага антысавецкага цэнтра і ўдзельнікі трацкісцкага «паралельнага» антысавецкага цэнтра заявілі на судзе аб сваіх контррэвалюцыйных сувязях і перагаворах з правымі. Падсудныя сцвярджалі, што правыя былі асвядомлены аб пераходзе трацкісцка-зіноўеўскай фашысцкай банды наёмнікаў капітала да метадаў тэрору, шпіянажу, дыверсій, шкодніцтва, што правыя раздзялялі здрадніцкую платформу рэстаўрацыі капіталізма.

Так цягнецца ганебны ланцуг найцяжэйшых, агідных здрад правых двурушнікаў і здраднікаў, ланцуг іх «блокаў» са злейшымі ворагамі народу—трацкістамі і зіноўеўцамі.

---

[1]) **І. Сталін.** „Пытанні ленінізма", стар. 287.

[2]) „ВКП(б) у рэзалюцыях і рашэннях". Частка II, стар. 669. Партвыдат. 1936 г.

Трацкісты даўно ўжо перасталі быць палітычнаю плынню ў радах рабочага класа. У свой час гэта меншавіцкая плынь мела вядомыя карэнні ў эканоміцы нашай краіны, у сувязі з наяўнасцю капіталістычных элементаў. Цяпер карэнні трацкізма не ў нашай краіне, а ў капіталістычным акружэнні, а сам трацкізм з палітычнай плыні ператварыўся ў агалцелую, разбойніцкую банду наёмнікаў фашызма, у банду крывавых забойц, шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў, якія не адважваюцца гаварыць адкрыта аб сваёй праграме нават бліжэйшым супольнікам.

Што датычыць правых, то яны таксама перасталі быць палітычнаю плынню, таксама ператварыліся ў агалцелую банду ворагаў народу, непрымірыма варожых марксізму-ленінізму, гатовых на ўсе і ўсялякія злачынствы супроць нашай радзімы.

Для правых, як для палітычнай плыні, таксама няма ўжо зараз карэнняў у эканоміцы нашай краіны, бо ліквідаваны капіталістычныя элементы, жывіўшыя іх, у першую чаргу кулацтва. Тыя рэшткі капіталістычных элементаў у нашай краіне, якія яшчэ ёсць і падтрымліваюцца, гальванізуюцца капіталістычным акружэннем, жывяць і будуць жывіць правых і трацкістаў не як палітычную плынь, а як банду фашысцкіх мярзаўцаў.

Гэту эвалюцыю трацкізма і правых ад палітычнай плыні да банды злачынцаў, да банды наёмнікаў міжнароднага капітала неабходна цвёрда засвоіць, каб умець распазнаць ворага і своечасова яго біць.

**„Правда“**

---

# У ДАПАМОГУ ПАРТОРГУ І САКРАТАРУ ПАРТКОМА

## Учот комуністаў у пярвічных партарганізацыях

Новы ўчот, калі яго правільна арганізаваць, кладзе канец арганізацыйнай распушчанасці, забяспечвае навядзенне большэвіцкага парадку ў нашым уласным партыйным доме.

Хоць асноўная учотна-статыстычная работа згрупавана ў райкоме ці гаркоме партыі, аднак няправільна было-б думаць, што роля пярвічных партарганізацый ад гэтага змяншаецца. Наадварот, ад правільнай пастаноўкі учоту комуністаў у пярвічных партарганізацыях залежыць і чоткая работа райкома.

Інструкцыя ЦК ВКП(б) аб учоце членаў і кандыдатаў партыі дакладна вызначае абавязкі сакратароў парткомаў і парторгаў пярвічных партарганізацый:

а) арганізацыя персанальнага учоту ўсіх членаў і кандыдатаў партыі, якія ўваходзяць у склад пярвічнай партыйнай арганізацыі;

б) прыём на учот прыбываючых з райкома, гаркома комуністаў, прынятых у партыю і аднаўленых, а таксама зняцце з учоту комуністаў, выбываючых з пярвічнай партарганізацыі;

в) пастаноўка на агульных сходах пярвічнай партарганізацыі рэгулярных паведамленняў аб прыбываючых у арганізацыю і выбываючых з яе комуністаў;

г) рэгулярнае прадстаўленне ў райком, гарком паведамленняў аб зменах ва учотных даных членаў і кандыдатаў партыі, прадугледжаных у другім раздзеле учотнай карткі комуніста;

д) правядзенне сістэматычнай растлумачальнай работы сярод членаў і кандыдатаў аб парадку учоту комуністаў і абавязках комуністаў у адносінах своечасовага інфармавання партыйнай арганізацыі аб зменах у іх учотных даных;

е) праверка работы парторгаў цэхаў, аддзелаў у адносінах учоту комуністаў».

Пярвічныя партарганізацыі вядуць кнігу учоту членаў і кандыдатаў партыі, куды заносяцца самыя неабходныя звесткі аб комунісце: прозвішча, імя і імя па бацьку, год нараджэння, партыйны стаж, нумар партыйнага білета і соцыяльнае становішча. У кнігу учоту заносяцца члены партыі асобна і кандыдаты асобна. Такі-ж парадак учоту павінен весціся і ў кандыдацкіх групах.

У буйных партарганізацыях, якія налічваюць у сваім складзе звыш 200 комуністаў, уводзяцца спецыяльныя карткі персанальнага учоту. У гэтых картках адзначаецца дадаткова: асвета комуніста, спецыяльнасць, прабыванне ў комсамоле, якую работу выконвае, хатні адрас.

Сакратар парткома і парторг абавязаны асабіста вывучаць членаў

і кандыдатаў партыі, заносіць у кнігу учоту неабходныя даныя аб іх, не перадавяраючы нікому гэтай справы.

Узяцца на учот у пярвічнай партарганізацыі комуніст можа толькі тады, калі ён прад'явіць сакратару парткома ці парторгу свой партбілет або кандыдацкую картку і атрыманы ім у райкоме прымацавальны талон установўленай формы. Сакратар парткома і парторг звярае партбілет з данымі прымацавальнага талона і, калі няма паміж імі разыходжанняў, рэгіструе комуніста ў кнізе учоту. Прынятых у кандыдаты пярвічныя партарганізацыі бяруць на учот толькі пасля таго, як яны атрымаюць у райкоме кандыдацкія карткі і прымацавальныя талоны.

Зняцца з учоту ў пярвічнай партарганізацыі комуніст можа толькі з дазволу райкома партыі. Калі комуніст выбывае ў партарганізацыю іншага раёна ці горада, ён абавязан прад'явіць у пярвічную партарганізацыю адмацавальны талон, атрыманы ім у райкоме ці гаркоме партыі. Калі-ж комуніст пераходзіць на работу ў межах данага раёна, ён абавязан атрымаць у сваім райкоме прымацавальны талон і прад'явіць яго ў тую пярвічную партарганізацыю, куды ён пераходзіць.

Адмацавальныя і прымацавальныя талоны не сапраўдны без адпаведнай адзнакі сакратара парткома ці парторга. Аб кожным выпадку зняцця комуніста з учоту сакратар парткома ў той-жа дзень робіць адзнаку ў кнізе учоту. Калі комуніст механічна выбыў з партыі ці выключан, то адзнака ў кнізе учоту робіцца пасля таго, як райком прышле аб гэтым спецыяльнае паведамленне, а на памершых—пасля адсылкі ў райком партбілета ці кандыдацкай карткі.

Сакратары парткомаў і парторгі павінны дабіцца, каб кожны комуніст добра ўясніў свае абавязкі, звязаныя з учотам, і строга іх выконваў, своечасова паведамляючы партком аб зменах у сваіх учотных даных: адукацыя, вывучэнне моў, перамена заняткаў. Сакратары парткомаў і парторгі абавязаны неадкладна паведамляць аб гэтым у райком партыі для ўнясення ва учотную картку комуніста.

Да гэтага часу многія сакратары парткомаў і парторгі пярвічных партарганізацый яшчэ не ўяснілі інструкцыі ЦК ВКП(б) аб учоце членаў і кандыдатаў партыі. Так, напрыклад, партком Гомсельмаша толькі 26 снежня паведаміў гарком аб тым, што член партыі Каплунскі з 15 лістапада знаходзіцца на іншай рабоце. Партком камбіната «Спартак» (Гомель) толькі 20 снежня паведаміў аб тым, што член партыі Пушэль перамяніў работу з 3 чэрвеня. Парторг пярвічнай арганізацыі кустпрамарцелей (Ветка) да апошняга часу вёў учот комуністаў на простым кавалку паперы, на працягу двух месяцаў не паведаміў райкому аб зменах ва учотных даных члена партыі Сімановіча. У цэлым радзе пярвічных партарганізацый кнігі учоту комуністаў, кнігі паведамленняў, прымацавальныя талоны і іншыя учотныя матар'ялы хаваюцца ў адкрытых канцылярскіх сталах. Не рэдкі выпадкі, калі парторгі трымаюць учотныя дакументы на сваёй кватэры.

Перавыбары партыйных органаў павінны выявіць усе недахопы ў рабоце па учоту комуністаў. Пры перавыбарах неабходна дабіцца таго, каб кіруючыя партыйныя органы дакладна выконвалі ўказанне ЦК ВКП(б) аб пастаноўцы учоту комуністаў

**А. Піпкін.**
**Заг. учотсектарам АКПО**

# ЖЫЦЦЁ МЯСЦОВЫХ ПАРТАРГАНІЗАЦЫЙ

## Партыйна-палітычную работу—на ўзровень новых задач

Бюро ЦК КП(б)Б у свой час зрабіла сур'ёзнае папярэджанне Клімавіцкай партарганізацыі аб запушчанасці ўнутрыпартыйнай работы, аб неканкрэтным кіраўніцтве парторгамі. Аднак бюро райкома партыі па-ранейшаму несур'ёзна, павярхоўна адносіцца да пытанняў унутрыпартыйнага жыцця пярвічных арганізацый. Выхаванне комуністаў, прапаганда, палітычная агітацыя адышлі на задні план перад пытаннямі гаспадарчымі. Сакратар райкома партыі тав. Каган і бюро ў цэлым не зразумелі, што іх задача—не падмяняць сабою гаспадарчыя апараты, а палітычнай мабілізацыяй мас забяспечваць правядзенне лініі партыі на ўсіх участках социялістычнага будаўніцтва. Яны яшчэ і зараз моцна трымаюцца той думкі, што райвыканкому нельга самастойна даверыць ні адно гаспадарчае мерапрыемства, інакш яно будзе правалена. Таму райком партыі займаецца літаральна ўсімі гаспадарчымі пытаннямі.

Пытанні ўнутрыпартыйнай работы абмяркоўваюцца павярхоўна. Так, напрыклад, 28 снежня бюро райкома заслухала інфармацыю парторга тав. Еўменева аб становішчы ўнутрыпартыйнай работы ў пярвічнай арганізацыі Кісялёва-Будзянскага сельсовета. Гэта пытанне заняло толькі дзве мінуты. Такое фармальнае кіраўніцтва прывяло да поўнага правалу партыйна-палітычнай работы ў Кісялёва-Будзянскім сельсовеце. Парторг Еўменеў месяцамі не бывае ў пярвічнай партарганізацыі. Сходы праводзяцца без усякай падрыхтоўкі. Няма сістэматычнай палітмасавай работы ў калгасах, не кажучы ўжо аб аднаасобніках.

У пярвічнай арганізацыі горсовета (парторг тав. Даніленка) пытаннямі ўнутрыпартыйнага жыцця не займаюцца ўжо год. На абвестцы дня партыйных сходаў стаяць выключна гаспадарчыя пытанні: як выконваецца план мясанарыхтовак, фінплан і т. п.

Макеевіцкая партарганізацыя (парторг тав. Петрачэнка) заслухаўшы акт, складзены зоатэхнікам тав. Дамбровым аб падзежы цяляці ў калгасе, пастанавіла: «Прапанаваць старшыні калгаса тав. Галойдзіну купіць цяля за свой кошт і перадаць гэта пытанне на прэзідыум сельсовета для аштрафавання Галойдзіна ў грашовай суме.»

Лазовіцкая партарганізацыя (парторг. тав. Данека) пабудавала план сваёй работы выключна на гаспадарчых дакладах: аб выкананні мясанарыхтовак, фінплана, рубкі і вывазкі лесу і т. п.

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) указаў партыйным арганізацыям:

> «Ва ўсёй рабоце па прыёму ў партыю партыйныя арганізацыі павінны сур'ёзнейшую ўвагу звярнуць на групу спачуваючых, як на важнейшы рэзерв для папаўнення радоў ВКП(б)».

У Клімавіцкай партарганізацыі 113 спачуваючых, з якіх 29 пераведзены па чыстцы партыі ў 1933 г.

Аб тым, як партыйная арганізацыя працуе са спачуваючымі, расказваюць самі спачуваючыя.

Спачуваючыя тт. Гаўрыленка і Кісялёў (МТС) гавораць: «Пачынаючы з 1935 года, мы вывучаем статут партыі, але нічога са статута не ведаем. Заняткі праводзяцца нерэгулярна, і кожны раз мы пачынаем тэму з пачатку. У апошнія тры месяцы і зусім не займаемся. Партыйных даручэнняў не маем».

Спачуваючыя тт. Панасенка і Малыгін расказваюць, што яны нідзе не займаюцца і ніякіх партдаручэнняў не маюць.

Яшчэ горш справа з выхаваннем спачуваючых на сяле. Калі ў раённым цэнтры хоць час ад часу і цікавяцца вучобай спачуваючых, то на сяле не вядзецца з імі абсалютна ніякай работы. Як бюро райкома, так і пярвічныя арганізацыі, не адчуваюць адказнасці за выхаванне спачуваючых. Парторгі самаўхіліліся ад работы са спачуваючымі, цалкам усклаўшы яе на так званых партпрымацаваных.

Таварыш Сталін на Надзвычайным VIII з'ездзе советаў гаварыў:

> «Калі народ сям-там і выбярэ варожых людзей, то гэта будзе азначаць, што наша агітацыйная работа пастаўлена з рук вон дрэнна, і мы ўпаўне заслужылі такую ганьбу, калі-ж наша агітацыйная работа будзе ісці па-большэвіцку, то народ не прапусціць варожых людзей у свае вярхоўныя органы. Значыць, трэба працаваць, а не хныкаць, трэба працаваць, а не чакаць таго, што ўсё будзе прадастаўлена ў гатовым выглядзе ў парадку адміністрацыйных распараджэнняў».

Клімавіцкая партарганізацыя ўсё яшчэ сур'ёзна не задумалася над пытаннем пастаноўкі палітычнай агітацыі. Раённы камітэт не арганізаваў шырокага растлумачэння масам палітыкі партыі, міжнародных і ўнутраных пытанняў, не перабудаваў агітацыю ў адпаведнасці з рашэннямі ЦК ВКП(б). З агітатарамі і чытчыкамі слаба працуюць, асабліва з нізавымі агітатарамі, якія адчуваюць вялікую патрэбу ў інструктажы. Адказнасць за інструктаж агітатараў бюро райкома цалкам усклала на парторгаў пярвічных арганізацый, добра ведаючы аб слабым палітычным узроўні большасці парторгаў, асабліва вясковых (Данека, Пеўзнер і інш.). У выніку—Канстытуцыя СССР вывучалася фармальна, а ў многіх калгасах і зусім не вывучана. Гурткі па вывучэнню Сталінскай Канстытуцыі ў калгасах не створаны. У калгасах «Чырвоны Дзедзін», «Новы Дзедзін» прапрацавалі толькі праект Канстытуцыі. Зусім не вывучана Канстытуцыя Беларускай ССР, нават на прадпрыемствах горада, у МТС і на пленуме горсовета. У раён накіравана вялікая колькасць брашур з дакладамі таварыша Сталіна і Канстытуцыяй, але ў дамах соцкультуры іх цяжка знайсці, а ў многіх калгасах (імя ДПУ, «Чырвоны Дзедзін» і інш.) няма ні аднаго экземпляра. Раённы камітэт партыі ні разу не цікавіўся тым, як агітатары растлумачваюць Сталінскую Канстытуцыю.

Дамы соцкультуры ёсць амаль у кожным сельсовеце. Але як яны працуюць? Загадчыкі—малаграматныя некультурныя людзі, не карыстаюцца аўтарытэтам сярод калгаснікаў. У Кісялёва-Будзянскім, Студзянецкім, Макеевіцкім і іншых сельсоветах дамы соцкультуры не працуюць і не адчыняюцца на працягу многіх месяцаў.

Палітычная агітацыя ў Клімавіцкім раёне запушчана таму, што бюро райкома партыі безадказна, бюракратычна аднеслася да падбору

агітацыйных кадраў. Яно не зразумела значэння агітатараў і бяседчыкаў, цесна звязаных з масамі. Бяздзейнасць пярвічных арганізацый і абыякавыя адносіны бюро райкома да палітычна-масавай работы сярод рабочых, калгаснікаў, служачых стварылі глебу для цэлага раду класава-варожых вылазак. Карыстаючыся адсутнасцю рэволюцыйнай пільнасці, варожыя элементы вядуць сваю гнусную работу на Механінскім спіртзаводзе, рэктыфікатным, у горсовеце і інш. участках.

Раённы камітэт партыі не здолеў арганізаваць работу сваіх чатырох інструктароў. Яны выкарыстоўваліся на розных сельскагаспадарчых кампаніях і былі адарваны ад пярвічных партарганізацый. Інструктарскі апарат яшчэ не навучыўся канкрэтна дапамагаць парторгам у партыйна-масавай рабоце. Раённы камітэт партыі, ведаючы аб запушчанасці партыйнай работы у пярвічных арганізацыях, не правяраў работу інструктароў. Раённыя работнікі фармальна адбывалі свой «нарад» у калгасах. Не давёўшы справы да канца, яны спяшылі вярнуцца назад.

Прапрацоўваючы гістарычны дакумент нашай эпохі—Сталінскую Канстытуцыю, комуністы не стараліся, каб кожны калгаснік засвоіў Канстытуцыю, а абмяжоўваліся тым, што зачытвалі тэкст.

Прыведзеныя факты гавораць аб тым, што сістэма парткіраўніцтва ў Клімавіцкім раёне пабудавана на голай шумісе, на прыняцці мноства «разгорнутых» рашэнняў, якія потым можна і не выконваць.

Клімавіцкая партыйная арганізацыя і яе кіраўніцтва абавязаны зразумець, што далей так працаваць, так кіраваць нельга. Рашэнні Пленума ЦК ВКП(б), даклад і заключнае слова таварыша Сталіна з'яўляюцца магутнаю зброяй у перабудове ўсёй партыйнай работы, праграмай большэвіцкага, сталінскага стылю кіраўніцтва, умацавання сувязі партыі з масамі.

Толькі пры ўмове большэвіцкага выканання пастаноў Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна Клімавіцкая партарганізацыя даб'ецца палепшання ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы.

**І. Грыништэйн**
Інструктар АКПО ЦК КП(б)Б

---

## Што ўскрыў справаздачна-выбарчы сход Добрушскай партарганізацыі

У Добрушскім раёне ёсць такое буйнае прамысловае прадпрыемства, як папяровая фабрыка «Герой працы». Па маштабу вытворчасці фабрыка з'яўляецца буйнейшай у Совецкім Саюзе і займае першае месца па выкананню плана. На фабрыцы занята каля 3.000 рабочых—старых і моладзі. Сярод іх многа стаханаўцаў, ударнікаў.

Як бачым, раённы камітэт партыі меў удзячную глебу для шырокага разгортвання і добрай пастаноўкі партыйнай работы. Тым не менш, ён не скарыстаў гэтай магчымасці. Сакратар райкома тав. Бангайціс за два гады работы ў Добрушы наведаў фабрыку толькі 3—4 разы.

Нядаўна ў Добрушскім раёне закончыўся справаздачна-выбарчы партыйны сход. Работа бюро Добрушскага райкома партыі і яго сакратароў тт. Бангайціса і Паўловіча падверглася разгорнутай большэвіцкай крытыцы. Радавыя члены партыі напомнілі ім усю горкую праўду аб іх рабоце, пачынаючы ад пагардлівых, нячуткіх адносін да комуністаў і канчаючы забыццём асноўных прынцыпаў большэвізма.

У час праверкі і абмену партыйных дакументаў бюро Добрушскага райкома забыла ўлічыць асаблівасці гісторыі свайго раёна. У свой час былы гаспадар Добрушскай папяровай фабрыкі князь Паскевіч замацоўваў на зямлі значную частку рабочых, у раёне працавала эсэраўская арганізацыя. Раённы камітэт партыі праявіў у гэтым пытанні палітычную слепату, не выкрыў яўных ворагаў, якія спрабавалі замаскавацца партбілетам. ЦК КП(б)Б адмяніў праверку партдакументаў у Добрушскай партарганізацыі і прапанаваў тав. Бангайцісу паўторна правесці самую ўважлівую і сур'ёзную праверку. Аднак і пасля паўторнай праверкі партыйныя білеты атрымала група контррэволюцыйных трацкістаў і іншых ворагаў народу, выкрытых толькі ў апошні час.

Да моманту апублікавання важнейшых дакументаў партыі—рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б), даклада і заключнага слова таварыша Сталіна—крытыка і самакрытыка ў Добрушы былі не ў пашане. На справаздачна-выбарчым сходзе сакратар райкома тав. Бангайціс зрабіў бяззубы, несамакрытычны даклад. Ён яўна стараўся змазаць сур'ёзнейшыя недахопы работы райкома партыі і накіраваць крытыку па няправільным шляху. Ужо адзін той факт, што тав. Бангайціс ні словам не абмовіўся аб тым, як у раёне ідзе падрыхтоўка да веснавой пасеўнай кампаніі, сведчыць аб палітычнай недаацэнцы райкомам партыі гэтага важнейшага пытання, аб неразуменні ім апошніх рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б).

Тав. Бангайціс яўна заціскаў крытыку і самакрытыку. Калі член партыі тав. Смалякоў сігналізаваў аб адной трацкістцы і крытыкаваў ліберальныя адносіны да яе тав. Бангайціса, то апошні перакінуў тав. Смалякова ў другі раён.

У працэсе спрэчак выявіўся такі агідны факт. У канцы 1935 года на адной з нарад інжынерна-тэхнічных работнікаў фабрыкі «Герой працы» інструктар райкома партыі тав. Левіт неабгрунтавана абвінаваціў усіх інжынерна-тэхнічных работнікаў у сабатажы ўдарніцтва і соцспаборніцтва. Калі газета «Чырвоны папернік» кваліфікавала гэта антыпартыйнае выступленне Левіта, як недарэчнае, то бюро РК хацела вынесці рэдактару вымову за абразу і падрыў аўтарытэта райкома. Такімі метадамі райком папярэджваў крытыкаў быць асцярожней.

Метад заціску крытыкі і самакрытыкі ад кіраўнікоў райкома пераймалі многія адказныя раённыя работнікі. Так, напрыклад, дырэктар соўгаса імя Ланге тав. Матусевіч зняў з работы тт. Царанкова і Войскага за тое, што яны асмеліліся яго крытыкаваць.

Аб адсутнасці крытыкі і самакрытыкі, аб страце кіраўнікамі райкома большэвіцкай пільнасці сведчыць і той факт, што ў Добрушскім раёне доўгі час арудавалі Ліхтэнштэйн, Врублеўскі і іншыя трацкісты, шпіёны, дыверсанты. На фабрыцы «Герой працы» сакратаром аддзела кадраў працаваў п'яніца Бужынскі. За водку ён выдаваў любы дакумент зусім невядомым яму людзям. Так, адна жанчына, прапрацаваўшы некалькі месяцаў на фабрыцы, за літр водкі атрымала ў яго даведку на выезд у пагранічны раён. Прахадзімец Бужынскі тварыў свае гнусныя справы пад носам у раду комуністаў, у тым ліку і дырэктара фабрыкі тав. Гайсіна. Толькі нядаўна Бужынскі быў выкрыт.

Бюро райкома партыі і яго сакратар адарваліся ад мас. Рабочы фабрыкі тав. Галавачоў па-большэвіцку крытыкаваў зазнайства сакратара райкома тав. Бангайціса. Як лепшы ўзор сувязі з рабочымі масамі, ён прывёў у прыклад незабыўнага Сергея Міронавіча Кірава: «Кіруючы Ленінградскай вобласцю, Сергей Міронавіч знаходзіў час і месца для сустрэчы з рабочымі, а тав. Бангайцісу не хапае для гэтага часу».

Захапіўшыся гаспадарчымі пытаннямі, папяровай мітуснёю ўнутры райвыканкома, работнікі РВК і райкома партыі амаль не бывалі на вёсцы, сярод рабочых фабрыкі, не ведалі, як жывуць і працуюць комуністы ў пярвічных партарганізацыях.

Шкоднае зазнайства і бесклапотнасць прытупілі густ да арганізацыйна-палітычнай работы, прывялі да запушчанасці важнейшыя ўчасткаў: як партасвета, работа з кандыдатамі партыі і спачуваючымі, кіраўніцтва і сувязь з пярвічнымі арганізацыямі.

На фабрыцы «Герой працы» частка комуністаў (тт. Волкава, Канавалава і інш.) трапіла ў «пасіўныя». Рашылі ад іх пазбавіцца. Прызначылі старшынямі калгасаў, сельсоветаў, брыгадзірамі, ведаючы, што з такой работай ім не справіцца. Калі прызначаныя сталі адмаўляцца—іх выключылі з партыі. Такія адносіны да жывога чалавека, да сумленнага работніка не раз праяўляліся ў практыцы работы райкома. За малейшы праступак—выключэнне з партыі. Тав. Сайнякова, які не заплаціў членскіх узносаў за свой прыработак да асноўнай зарплаты, выключылі з партыі, замест таго каб растлумачыць яму, што партыйныя ўзносы трэба плаціць з усяго

заработку. Каб аднавіць тав. Сайнякова ў партыі, патрабавалася ўмяшанне ЦК КП(б)Б.

Унутрыпартыйнымі пытаннямі бюро РК цікавілася мала. Дрэнна пастаўлена была партыйная вучоба. Прапагандысты падбіраліся часта фармальна, з імі ніхто не працаваў. У партыйнай арганізацыі чыгункі гуртком па вывучэнню гісторыі ВКП(б) да апошніх дзён кіраваў выключаны з партыі. Партыйныя сходы ў большасці выпадкаў праходзілі фармальна. Груба парушаўся прынцып унутрыпартыйнай дэмакратыі. Некаторыя партарганізатары працавалі па прызначэнню. На выбарчым сходзе партарганізацыі фабрыкі «Герой працы» упаўнаважаны райкома партыі падмяніў сабой прэзідыум.

Сямейственасць і грызня паміж членамі раённага камітэта, адсутнасць адзінства ў самім бюро былі адной з асноўных прычын дрэннай работы. Райком ігнараваў такую важнейшую задачу, як павышэнне ўраджайнасці. Для правядзення гаспадарча-палітычных кампаній райком партыі пасылаў у калгасы комуністаў, але не правяраў, як яны выконваюць даручэнні. Ні райком партыі, ні райвыканком недаацанілі аднаасобнага сектара сялянскай гаспадаркі, хоць удзельная вага яго ў Добрушскім раёне значная. Раённыя работнікі (былы старшыня райвыканкома тав. Шляхтуноў, тав. Смалякоў) парушалі статут сельскагаспадарчай арцелі. Добрушскі райвыканком у масавым маштабе накладаў штрафы на калгаснікаў.

Замест палітмасавай работы ў сельсоветах і калгасах рад таварышоў займаўся голым адмініstраваннем, што выкарыстоўваў класавы вораг. Так было ў Кармянскім сельсовеце, дзе група эсэраў, карыстаючыся прытупленнем большэвіцкай пільнасці, разгарнула сваю контррэволюцыйную работу.

Добрушскі раён не можа пахваліцца сваімі паказчыкамі ні ў палітычнай, ні ў гаспадарчай галіне работы і знаходзіцца ў радах адстаючых раёнаў рэспублікі, што можна вытлумачыць толькі небольшэвіцкім стылем кіраўніцтва райкома.

Таварыш Сталін указаў, што скромнасць упрыгожвае большэвіка. Не так разумее скромнасць тав. Бангайціс. На прывітанне комуніста ён не лічыць патрэбным адказаць. У сваім справаздачным дакладзе ён абрушыўся на недысцыплінаванасць некаторых комуністаў, будучы сам недысцыплінаваным. Баючыся крытыкі, тав. Бангайціс на працягу трох месяцаў утойваў рашэнне ЦК КП(б)Б аб праверцы партыйных дакументаў па Добрушскай партарганізацыі. Выбарчы сход нават не ўнёс яго ў спіс для галасавання. Кандыдатуру другога сакратара—тав. Паўловіча—агульны выбарчы сход аднагалосна зняў са спісу тайнага галасавання за правал работы, за сувязь і патуранне чуждым элементам.

Агульны раённы выбарчы партсход выбраў у члены раённага камітэта 17 лепшых, адданых і любячых партыйную работу таварышоў, з якіх палова—радавыя комуністы з рабочых і калгаснікаў. Першым сакратаром Добрушскага РК КП(б)Б выбран на пленуме райкома тав. Марцынкоўскі, другім—тав. Бухцілаў.

Перад новым складам Добрушскага райкома партыі стаіць асноўная задача—улічыць дапушчаныя мінулым кіраўніцтвам райкома правалы і недахопы ў рабоце і на аснове рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна перабудаваць яе так, каб Добрушская партыйная арганізацыя стала адной з перадавых у КП(б)Б.

**А. Раб—скі.**

# Як праходзяць справаздачна-выбарчыя сходы ў Крупскай партарганізацыі

Справаздачна-выбарчыя сходы пярвічных партарганізацый у Крупскім раёне ўскрылі сур'ёзнейшыя прарывы ў кіраўніцтве райкома пярвічнымі арганізацыямі, грубае парушэнне статута партыі, нячулыя адносіны да «маленькіх» людзей.

Выступаўшыя ў спрэчках на справаздачна-выбарчых сходах партарганізацый Крупскага райвыканкома адзначылі правал масава-палітычнай работы сярод беспартыйных, несур'ёзныя адносіны райкома партыі да падбору прапагандысцкіх кадраў. Прапагандысты Падута, Аноцкі, Гурэвіч часта мяняліся, зрывалі партыйную вучобу. Былі выпадкі, што партыйныя сходы скліваліся а 6 гадзіне раніцы. Не ведаючы аб часе партыйнага сходу, комуністы не рыхтаваліся да яго. Сакратар партыйнага камітэта райвыканкома тав. Лапарэвіч не зразумеў, што партыйныя сходы з'яўляюцца адною з сур'ёзных форм палітычнага выхавання комуністаў, што да іх павінны сур'ёзна рыхтавацца не толькі партком, але кожны член і кандыдат партыі.

На справаздачна-выбарчым партыйным сходзе былі ўскрыты абураючыя факты засмечанасці выкладчыцкага складу чуждымі элементамі (Бобрская, Жаберыцкая, Выдрыцкая і іншыя школы), фармальна-бюракратычнага кіраўніцтва Наркомасветы БССР школамі, няведання кадраў, якім даручана комуністычнае выхаванне дзяцей.

На-жаль, не ўсе комуністы партарганізацыі райвыканкома зразумелі задачы перабудовы партработы на аснове ясных дырэктыў Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна. Так, комуніст Бардзілоўскі заявіў на партсходзе: «Тут справа не ў райкоме, а трэба сваіх крытыкаваць».

З прычыны слабога разгортвання крытыкі і самакрытыкі сярод часткі комуністаў наглядаліся нездаровыя ўзаемаадносіны. Членаў партыі падраздзялялі на «старажылаў» і «вылучэнцаў». Партком не вёў паслядоўнай барацьбы з сямейственасцю, падхалімствам, п'янкай і адрывам ад партыйнага жыцця паасобных комуністаў.

На справаздачна-выбарчых сходах выяўлены факты грубейшага парушэння статута партыі. Парторг пярвічнай арганізацыі Ігрушацкага сельсовета тав. Дзінчукоў заявіў, што ён 3 гады працуе парторгам па прызначэнню райкома і ніколі не рабіў справаздачы перад партыйнаю масай. Гэта далёка не адзінічны выпадак. Парторгі, як правіла, па 3 гады не рабілі справаздач, не выбіраліся на партсходах.

Адрыў ад мас прывёў да сямейственасці, заціску крытыкі, да падхалімства, асабліва ў пярвічных партарганізацыях Ухвальскага, Староаслабодскага, Дзенісавіцкага сельсовета, райсаюза.

Таварыш Сталін на пленуме ЦК ВКП(б) ускрыў карэнні сур'ёзных недахопаў, палітычнай слепаты і бесклапотнасці ў партыйнай і гаспадарчай рабоце і намеціў практычныя меры для іх ліквідацыі.

Таварыш Сталін указаў, што на даным этапе:

> «Неабходна дапоўніць стары лозунг аб аўладанні тэхнікай, які адпавядае перыяду шахцінскіх часоў, новым лозунгам аб палітычным выхаванні кадраў, аб аўладанні большэвізмам і ліквідацыі нашай палітычнай даверлівасці, лозунгам, зусім адпавядаючым цяперашняму пераж ываемаму перыяду».

Перабудова ўнутрыпартыйнай работы заключаецца ў сістэматычным выхаванні комуністаў, у павышэнні іх ідэйна-палітычнага ўзроўню.

Крытыка і самакрытыка, што разгарнуліся на аснове рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б), значна ўзнялі актыўнасць комуністаў. Са 134 членаў і кандыдатаў партыі Крупскай партарганізацыі ў спрэчках на справаздачна-выбарчых сходах не выступіў толькі адзін кандыдат партыі.

У партарганізацыі соўгаса «Перадавы» сход цягнуўся два дні. На гэтым сходзе выступіў член партыі з 1929 г.—брыгадзір паляводчай брыгады соўгаса тав. Дабрынскі, які лічыўся пасіўным комуністам. Тав. Дабрынскі ўскрыў рад абураючых фактаў заціску крытыкі і ганенняў з боку дырэктара соўгаса тав. Фрэйндорфа і намесніка начальніка палітаддзела соўгаса тав. Бабцова. Тав. Дабрынскі расказаў, што замест дапамогі ў рабоце і партвучобе, замест уцягнення ў партыйнае жыццё, яго на працягу аднаго года 6—8 раз пераводзілі на розныя работы ўнутры соўгаса. Ён указаў, што паасобныя члены партыі вядуць паміж сабою беспрынцыпную грызню, што кіраўніцтва соўгаса дапускае безгаспадарнасць, грубасць, нячулыя адносіны да людзей. Зразумела, што калі-б парторг тав. Бабцоў і начальнік палітаддзела тав. Лоеўскі па-сапраўднаму разгарнулі ўнутрыпартыйную масава-палітычную работу і ўзначалілі стаханаўскі рух, у соўгасе не было-б 17% падзежу свінапагалоўя за адзін толькі першы квартал гэтага года.

На справаздачна-выбарчым сходзе партарганізацыі Старасабодскага сельсовета (самага дальнага—ад раённага цэнтра 45 клм) выяўлена запушчанасць партыйнай і масава-палітычнай работы ў калгасах. У справаздачным дакладзе парторг тав. Клінт (ён-жа старшыня сельсовета) паведаміў, што з праведзеных у мінулым годзе 15 партыйных сходаў ні на адным сур'ёзна не абмяркоўваліся пытанні ўнутрыпартыйнага характару, палітычнага выхавання комуністаў. Часам слухаліся індывідуальныя справаздачы, але ўсе яны зводзіліся да абмеркавання гаспадарчых непаладак у тым ці іншым калгасе. Пярвічная партарганізацыя не мела плана работы, не правярала, як комуністы выконваюць партыйныя даручэнні, склікала партсходы ад выпадку да выпадку, зусім не кіравала комсамолам.

Не дзіва, што комуністы гэтай партарганізацыі не стаялі ў авангардзе калгасных мас, не ўзначальвалі стаханаўскага руху. Узяць для прыкладу калгас «Пролетарская перамога». На чале калгаса стаіць член партыі тав. Рупец, радавой калгасніцай працуе кандыдат партыі Мацура Васіліса Сямёнаўна. Здавалася-б, што гэтыя два таварышы павінны былі працаваць у кантакце, дапаўняць адзін другога ў рабоце, старацца вывесці калгас з адстаючых у перадавыя. А на самай

справе паміж імі існуе нездаровы антаганізм. Старшыня калгаса тав. Рупец зусім не карыстаецца аўтарытэтам сярод калгаснікаў, бо няўважлівы да іх патрэб, да самай гаспадаркі, грубіяніць, займаецца п'янкай. Калгас дрэнна падрыхтаваўся да веснавой сяўбы, не ачысціў насення, запусціў цягло, не арганізаваў работу брыгадных звенняў. Парторг усё гэта бачыў, але і не падумаў дапамагчы комуністам у палітычным выхаванні калгаснікаў.

Сакратар райкома партыі тав. Новікаў і раённыя работнікі—рэдкія госці ў калгасе. Яны не цікавяцца работаю «маленькіх» людзей, не прыслухоўваюцца да іх думак, не рэагуюць на нездаровыя з'явы ў пярвічнай партарганізацыі Старaслабодскага сельсовета.

Справаздачна-выбарчыя сходы далі райкому партыі багаты матэр'ял. З выступленняў комуністаў райком павінен зрабіць для сябе палітычныя вывады, каб у далейшым не дапускаць парочнай сістэмы кіраўніцтва і перабудаваць усю сваю работу на аснове рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна.

**І. Лахман.**

---

# Справаздачна-выбарчы сход у Жлобінскай партарганізацыі

Узросшая актыўнасць партыйных мас, выклі́каная рашэннямі лютаўскага пленума ЦК ВКП(б), дакладам і заключным словам таварыша Сталіна, знайшла свой яркі адбітак на справаздачна-выбарчым сходзе Жлобінскай партарганізацыі. Ужо адзін той факт, што па справаздачнаму дакладу сакратара райкома тав. Лехерзака выступіла больш 60 комуністаў, гаворыць аб тым, што пульс партыйнага жыцця ў партарганізацыі забіў па-іншаму.

Замест хвалебных выступленняў «штатных» прамоўцаў у абмеркаванні работы райкома прынялі актыўны ўдзел шырокія партыйныя масы, радавыя комуністы, «маленькія» людзі. Яны выступілі з суровай крытыкай недахопаў работы райкома партыі і аддзелаў ЦК КП(б)Б.

Адсутнасць большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, палітычная бесклапотнасць, слабасць арганізацыйна-партыйнай і палітвыхаваўчай работы сярод комуністаў, празмернае захапленне гаспадарчымі поспехамі, парушэнне прынцыпаў унутрыпартыйнай дэмакратыі, прытупленне рэволюцыйнай пільнасці—вось змест той крытыкі і самакрытыкі, якая разгарнулася па справаздачнаму дакладу сакратара райкома.

Аб палітычнай слепаце кіраўнікоў партарганізацыі сведчыць той факт, што да апошняга часу на Жлобінскім чыгуначным вузле і ў іншых арганізацыях раёна арудавалі контррэволюцыйныя трацкісцкія шкодніцкія элементы. Былы начальнік палітаддзела чыгункі Смолін не рэагаваў на сігналы аб шкодніцкай рабоце трацкіста Гусева і іншых. Сакратар парткома чыгункі тав. Лушчыцкі (ён-жа член бюро райкома партыі) стаў на шлях заціску крытыкі. Тав. Лушчыцкі ўзнімаў справы супроць комуністаў, якія спрабавалі крытыкаваць яго дзейнасць або работу палітаддзела ў цэлым. Так, напрыклад, пад націскам палітаддзела партарганізацыя чыгункі абвясціла вымову комуністу тав. Падэлісу за тое, што на нарадзе актыва Жлобінскага вузла ён асмеліўся крытыкаваць работу палітаддзела. Выступленне тав. Падэліса было кваліфікавана, як апартуністычнае, мяжуючае з трацкізмам.

Райком партыі не палічыў патрэбным пацікавіцца работай палітаддзела і пярвічнай партарганізацыі чыгуначнага вузла, што прывяло да поўнага развалу партыйна-выхаваўчай і палітмасавай работы. Райком партыі і яго кіраўнікі самаўхіляліся ад кантролю работы чыгуначнай партарганізацыі. Яны лічылі, што стварэнне палітаддзела аслабаніла іх ад кіраўніцтва работай чыгуначных партарганізацый. Тым часам, у пастанове ЦК ВКП(б) ясна ўказана, што стварэнне палітаддзелаў чыгункі не знімае з райкомаў і гаркомаў партыі адказнасці за работу партыйных арганізацый чыгункі і за работу самой чыгункі.

У спрэчках па справаздачнаму дакладу выявіліся факты прамога заціску крытыкі і самакрытыкі кіруючымі работнікамі райкома і асабіста тав. Лехерзакам.

Тав. Будніцкі ў сваім выступленні расказваў, што калі ён на адным з пленумаў райвыканкома ўказаў на тое, што прадстаўнікі райкома партыі, у тым ліку і былы сакратар райкома Скараход, прыязджаючы ў сельсоветы, пагардліва адносяцца да нізавых работнікаў, то на другі дзень тав. Скараход выклікаў яго да сябе ў кабінет і пачаў крычаць: «Як ты смееў крытыкаваць работнікаў райкома ў прысутнасці беспартыйных? Я табе прапаную ўзяць свае словы назад». Тав. Будніцкі адмовіўся выканаць гэта запатрабаванне. Тады тав. Скараход у другі раз выклікаў яго да сябе і ўпарта настойваў: «Вазьмі свае словы назад, бо і Лехерзак таксама асудзіў тваё выступленне».

Адарванасць ад партыйных мас, заціск крытыкі і самакрытыкі, безадказнасць перад партыйнымі масамі стварылі глебу для сямейственасці і падхалімства, для грубага парушэння рэвалюцыйнай законнасці.

Характэрна выступленне на справаздачна-выбарчым сходзе раённага пракурора—комуніста тав. Лейнава: «Калі я выязджаў на раён, за мною ўсюды хадзілі сяляне са скаргамі на работнікаў сельсовета. Хоць я і пракурор, але скаргамі не займаўся, бо стараўся хутчэй выканаць планавае заданне». Такім чынам пракурор, які абавязан у першую чаргу змагацца супроць беззаконнасці, сам парушаў рэвалюцыйную законнасць. Замест таго, каб зацікавіцца скаргамі сялян на незаконныя дзеянні работнікаў сельсовета, ён адмахваўся ад скарг.

Абыякава адносіліся да скарг працоўных і старшыня райвыканкома тав. Лютко, і сакратар райкома партыі тав. Лехерзак. Райком партыі і райвыканком не толькі не змагаліся з фактамі незаконнай канфіскацыі ў сялян маемасці, з няправільным накладаннем на іх розных штрафаў і інш., а самі праз сваіх упаўнаважаных патуралі сельсоветам у незаконных дзеяннях.

Тав. Лейнаў, прызнаючы свае памылкі, усё-ж імкнууўся апраўдацца аб'ектыўнымі прычынамі. Крыўдзячыся на райком партыі і райвыканком за тое, што яго—пракурора—пасылалі ў якасці ўпаўнаважанага для правядзення розных палітычна-гаспадарчых кампаній, ён заявіў: «Вось чаму нам цяжка выпраўляць перагібы ў раёне». Гэтыя разважанні тав. Лейнава па сутнасці антыпартыйны і не мабілізуюць комуністаў на барацьбу з фактамі грубага парушэння рэвалюцыйнай законнасці. Характэрна, што ні адзін з комуністаў, выступаўшых пасля тав. Лейнава, не даў яму большэвіцкага адпору. Відаць, раённыя кіраўнікі згадзіліся з довадамі пракурора, лічачы нармальнаю з'явай дапускаць парушэнне рэвалюцыйнай законнасці, не рэагаваць на скаргі працоўных. Новы склад райкома партыі павінен будзе прыняць рашучыя меры супроць парушальнікаў рэвалюцыйнай законнасці і пакончыць з разважаннямі аб цяжкасці барацьбы з імі.

* * *

Суровай крытыцы на справаздачна-выбарчым сходзе Жлобінскай партарганізацыі падверглася таксама і работа вышэйстаячых савецкіх і гаспадарчых органаў. Наркамзем БССР, замест жывога аператыўнага кіраўніцтва работай райза, засыпаў яго цыркулярамі. СНК БССР, Наркомгандаль. Наркамфін і іншыя цэнтраль-

ныя органы неаператыўна кіравалі раённымі арганізацыямі. Актыўнасць комуністаў сведчыць аб тым, што яны правільна зразумелі рашэнні Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна і пры дапамозе разгорнутай бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі ўскрываюць усе недахопы ў сваёй рабоце, каб як хутчэй іх ліквідаваць.

Задача новага складу Жлобінскага РК КП(б)Б і яго сакратароў—уважліва вывучыць матэрыялы выступленняў на справаздачна-выбарчым сходзе і неадкладна прыняць канкрэтныя меры для ліквідацыі дапушчаных памылак і недахопаў. Райком партыі абавязан дапамагчы партыйнай арганізацыі чыгуначнага вузла ў ліквідацыі слядоў шкодніцкай дзейнасці контррэволюцыйных трацкісцкіх і шкодніцкіх элементаў.

Пасля рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б) і выступлення таварыша Сталіна некаторыя кіраўнікі совецкіх і гаспадарчых арганізацый, прывучаныя да дробнай штодзеннай апекі з боку райкома партыі, замяшаліся і не ведаюць, што ім рабіць, як самастойна арганізаваць работу. У першую чаргу гэта адносіцца да райза і райфінаддзела. Замяшанасць іх кіраўнікоў прывяла к таму, што сельскагаспадарчыя работы і фінансавы план па мабілізацыі сродкаў знаходзяцца пад пагрозай зрыву.

Таварыш Сталін у сваім заключным слове на Пленуме ЦК папярэджваў партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікоў аб тым, што нельга кідацца ад адной крайнасці да другой:

> «Калі нашы партыйныя таварышы, захапляючыся гаспадарчымі поспехамі, адыходзілі ад палітыкі, гэта была крайнасць, каштаваўшая нам вялікіх афяр. Калі цяпер некаторыя нашы таварышы, беручыся за ўзмацненне партыйна-палітычнай работы, уздумаюць адыйсці ад гаспадаркі, то гэта будзе другая крайнасць, якая будзе нам каштаваць не меншых афяр. Нельга шарахацца ад адной крайнасці да другой. Нельга аддзяляць палітыку ад гаспадаркі. Мы не можам адыйсці ад гаспадаркі так сама, як не можам адыйсці ад палітыкі.
>
> ... Узмацненне партыйна-палітычнай работы заключаецца не ў тым, каб адыйсці ад гаспадарчай работы і гаспадарчага кіраўніцтва, а ўсяго толькі ў тым, каб не дапускаць больш практыкі падмены і абязлічання гаспадарчых органаў, у тым ліку і асабліва зямельных органаў, нашымі партыйнымі арганізацыямі. Неабходна, стала быць, усвоіць метад бальшэвіцкага кіраўніцтва гаспадарчымі органамі, які заключаецца ў тым, каб сістэматычна дапамагаць гэтым органам, сістэматычна ўмацоўваць іх і кіраваць гаспадаркай не паміма гэтых органаў, а праз іх».

Задача новага складу райкома партыі, кіраўнікоў совецкіх і гаспадарчых арганізацый і ўсіх комуністаў—сур'ёзна вывучыць і ажыццявіць на практыцы рашэнні апошняга Пленума ЦК ВКП(б), даклад і заключнае слова таварыша Сталіна, паклаўшы іх у аснову перабудовы ўсёй партыйна-масавай і палітвыхаваўчай работы. У гэтых гістарычных дакументах канкрэтна і вычарпальна ўказана, як трэба перабудаваць партыйную, совецкую і гаспадарчую работу, кіраўніцтва ўсімі ўчасткамі социялістычнага будаўніцтва. Выкананне гэтых указанняў—доўг і абавязак кожнай партыйнай арганізацыі і ўсіх комуністаў, кожнага совецкага і гаспадарчага кіраўніка.

**А. Ст—нэ.**

# У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КП(б)Б

## Аб грубейшым парушэнні пастановы пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў ЦК ВКП(б) аб выбарах кіруючых парторганаў ва Уздзенскай райпартарганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

1. Адзначыць, што Уздзенскі РК КП(б)Б і яго сакратар тав. Банцыраў грубейшым чынам парушылі рашэнне лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) аб выбарах партыйных органаў. Справаздачна-выбарчыя сходы ў пярвічных партарганізацыях збіраліся без дастатковай падрыхтоўкі. Крытыка і самакрытыка пры абмеркаванні справаздач парткомаў і парторгаў разгорнуты не былі. Буйнейшыя недахопы і палітычныя прарывы, якія ёсць у рабоце пярвічных партарганізацый і РК, не былі выкрыты. Гэта сведчыць аб тым, што комуністы не засвоілі рашэння лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б).

2. Пры выбарах кіруючых парторганаў (партарганізацыі РК КП(б)Б, рэдакцыі газеты «Калгаснік Уздзеншчыны», Магільнянскага сельсовета, Стальбоўскага сельсовета, МТС і промарцелі) былі дапушчаны грубейшыя парушэнні ўказання ЦК ВКП(б) аб выбарах кіруючых парторганаў. Наперакор прамым указанням ЦК ВКП(б) пры падліку галасоў апрача выбраных членаў счотнай камісіі прысутнічаў прадстаўнік РК КП(б)Б. У партарганізацыі Магільнянскага сельсовета справаздача парткома заслухана на адкрытым партыйным сходзе. У большасці пярвічных партарганізацый не складаліся пратаколы падліку галасоў. Адсутнічала абмеркаванне вылучаных кандыдатур.

Бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Адмяніць праведзеныя выбары кіруючых парторганаў у пярвічных партарганізацыях Уздзенскага раёна, як праведзеныя з парушэннем рашэння Пленума ЦК ВКП(б).

2. Указаць бюро Уздзенскага РК і тав. Банцыраву на тое, што імі груба парушаны рашэнні лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і рашэнне ЦК ВКП(б) аб выбарах, большэвіцкая крытыка і самакрытыка пры выбарах разгорнуты не былі.

3. Прапанаваць Уздзенскаму РК КП(б)Б склікаць сход райпартактыва і далажыць аб гэтай пастанове бюро ЦК КП(б)Б, падвергнуўшы рэзкай крытыцы памылкі бюро і сакратара РК КП(б)Б.

Бюро ЦК КП(б)Б зварачвае ўвагу Уздзенскай партарганізацыі на неабходнасць шырокага разгортвання большэвіцкай крытыкі работы партарганізацыі і РК КП(б)Б, не гледзячы на асобы, і забяспечыць выбары ў кіруючыя парторганы найбольш правераных і актыўных комуністаў.

# Аб ходзе выбараў парторганаў у Бабруйскай райпартарганізацыі

*Пастанова ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што справаздачна-выбарчыя партыйныя сходы ў пярвічных партарганізацыях горсовета і райвыканкома Бабруйскай партарганізацыі прайшлі на нізкім палітычным узроўні. На гэтых партыйных сходах не былі ўскрыты і раскрытыкаваны сур'ёзнейшыя памылкі і промахі ў рабоце пярвічных партарганізацый і РК КП(б)Б.

Гэта сведчыць аб тым, што партарганізацыі горсовета і РВК, а таксама райком КП(б)Б і яго сакратары т.т. Чэрнышоў і Хацкевіч не зрабілі яшчэ ўсіх неабходных вывадаў з рашэння Пленума ЦК ВКП(б), не разгарнулі крытыкі і самакрытыкі і большэвіцкай барацьбы з сямейственасцю і падхалімствам у партарганізацыі.

Бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Адмяніць праведзеныя выбары партыйных органаў у пярвічных партарганізацыях горсовета і райвыканкома.
2. Прапанаваць РК КП(б)Б растлумачыць партарганізацыі гэта рашэнне і забяспечыць неадкладнае выпраўленне дапушчаных памылак у ходзе правядзення выбараў парторганаў, падвергнуць крытыцы памылкі і недахопы кіруючых партыйна-совецкіх органаў раёна.
3. Прыняць да ведама, што Бабруйскі райком рэагаваў на факты заціску крытыкі з боку рэдакцыі бабруйскай райгазеты і давёў аб гэтых фактах да ведама партарганізацыі.
4. Бюро ЦК КП(б)Б патрабуе ад Бабруйскай партарганізацыі разгортвання шырокай крытыкі і самакрытыкі недахопаў работы Бабруйскага РК і ўсёй партыйнай арганізацыі.

---

## Аб партыйным кіраўніцтве Кіраўскага раёна

*Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 11|IV 1937 г.*

1. Адзначыць, што з прычыны нездавальняючага кіраўніцтва з боку Бюро і сакратара Кіраўскага РК тав. Вільчэка партыйна-палітычная работа ў раёне запушчана, і кіраўніцтва адарвалася ад партыйных мас.

2. У выніку адарванасці кіраўніцтва ад партыйных мас, ігнаравання партыйна-палітычнай работы і з-за палітычнай слепаты ў раёне былі дапушчаны грубейшыя парушэнні рэвалюцыйнай законнасці, скажэнне совецкіх законаў і прамое самавольства ў адносінах аднаасобных гаспадарак і калгаснікаў (Любаніцкі сельсовет, Паўлаўскі сельсовет, Казулінскі сельсовет і інш.).

3. З прычыны прытуплення рэвалюцыйнай пільнасці Кіраўскі РК партыі праглядзеў ворагаў партыі і совецкай улады, засеўшых у райспажыўсаюзе і іншых арганізацыях, якія спайвалі партыйных і совецкіх работнікаў, жульнічалі, раскрадвалі незаконна адабраную маемасць і разлагалі калгасы.

4. Выключная запушчанасць партыйнай і палітычнай работы ў масах прывяла да таго, што важнейшыя дакументы нашай партыі, як Сталінская Канстытуцыя і даклад таварыша Сталіна на Надзвычайным VIII Усесаюзным з'ездзе советаў або зусім не былі даведзены да калгаснікаў і аднаасобнікаў, або былі даведзены з вялікім спазненнем. Сетка партыйнай асветы па сутнасці была ліквідавана, заняткі ў школах і гуртках сістэматычна адмяняліся па матывах «мясанарыхтовак», «падрыхтоўкі да веснавой сяўбы» і т. д. Пытаннямі выхавання комуніста райком не займаўся.

Выходзячы з гэтага, Бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

Перадаць пытанне аб партыйным кіраўніцтве Кіраўскага раёна на абмеркаванне райпартсходу.

Камандзіраваць для ўдзелу ў рабоце райпартсходу члена ЦК КП(б)Б.

Вынікі абмеркавання пытання аб партыйным кіраўніцтве Кіраўскага раёна заслухаць на Бюро ЦК КП(б)Б.

Сакратар ЦК КП(б)Б **ШАРАНГОВІЧ.**

# Аб дні большэвіцкага друку

*Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б*

Паварот у палітычным жыцці краіны, які адбываецца на аснове Сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР, патрабуе ад усіх работнікаў большэвіцкага друку і партыйных арганізацый карэннай перабудовы работы.

5 мая—Дзень большэвіцкага друку і 25-годдзя «Праўды»—усе акруговыя, гарадскія, раённыя камітэты КП(б)Б і рэдакцыі газет павінны правесці пад знакам барацьбы за выкананне рашэнняў апошняга Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна ў яго дакладзе і заключным слове.

Бюро ЦК КП(б)Б абавязвае акруговыя, гарадскія і раённыя камітэты КП(б)Б усе праводзімыя ў Дзень друку арганізацыйна-масавыя мерапрыемствы забяспечыць партыйным кіраўніцтвам, дабіваючыся ўсебаковага пашырэння і ўмацавання сувязей газет з масамі, прыцягнення да супрацоўніцтва ў газетах новых аўтарскіх кадраў, узмацнення партыйнага кіраўніцтва друкам і аднаўлення ва ўсіх партыйных работнікаў густу да большэвіцкай прапаганды і друкаванага слова.

Адзначаючы Дзень друку, неабходна паказаць масам выключную ролю таварышоў Леніна і Сталіна, як правадыроў і арганізатараў большэвіцкай партыі, асабіста штодзенна кіраваўшых дзейнасцю друку, вучыўшых яго непрымірымай барацьбе з усімі ворагамі рабочага класа, выхоўваўшых кадры большэвіцкага друку, арганізаваўшых вакол партыі праз друк шматмільённыя масы рабочых і сялян.

Растлумачыць масам і актыву друку, што дапаўненне старога лозунга аб аўладанні тэхнікай новым лозунгам «Аб палітычным выхаванні кадраў, аб аўладанні большэвізмам і ліквідацыі нашай палітычнай даверлівасці»—патрабуе ад усіх работнікаў друку большэвіцкага правядзення крытыкі і самакрытыкі, не гледзячы на асобы, і штодзеннага кіраўніцтва і накіравання работы нашага друку партыйнымі арганізацыямі.

У азнаменаванне Дня большэвіцкага друку і 25-годдзя газеты «Праўда» Бюро ЦК КП(б)Б абавязвае гарадскія, акруговыя, раённыя камітэты КП(б)Б і рэдакцыі газет правесці наступныя мерапрыемствы:

1. У гарадах: Менску, Гомелі, Віцебску, Магілеве 5-га мая правесці агульна-гарадскія сходы партыйнага актыва, рабкораў, чытачоў газет, стаханаўцаў і працоўнай інтэлігенцыі. На сходах заслухаць і абмеркаваць даклад «Дваццаціпяцігоддзе «Праўды» і задачы большэвіцкага друку» (дакладчыкамі павінны быць першыя сакратары партарганізацый); рэдактары газет робяць судаклады: «Работа ў газеце з пісьмамі працоўных і аўтарскія кадры ў газеце».

2. У гарадах: Бабруйску, Барысаве, Оршы, Рэчыцы і акруговых цэнтрах з 5 па 12 мая правесці сходы партыйнага актыва, рэдактароў шматтыражных газет, членаў рэдкалегій насценных газет, актыва рабселькораў і чытачоў з дакладам сакратара АК, ГК і РК КП(б)Б на тую-ж тэму, што і ў гарадах Менску і інш. Рэдактары гарадскіх і акруговых газет робяць справаздачу аб рабоце газет за 1936 год і да Дня друку.

3. У астатніх раёнах Беларусі правесці з 5 па 10 мая раённыя сходы партыйнага актыва, чытачоў, рабселькораў, стаханаўцаў, рэдактароў насценных і шматтыражных газет, на якіх заслухаць даклад сакратара райкома КП(б)Б аб 25-годдзі «Правды» і задачах большэвіцкага друку і справаздачу рэдактара лепшай шматтыражнай або насценнай газеты.

4. Абавязаць сакратароў гаркомаў, акругкомаў, райкомаў і рэдактароў газет падвесці вынікі правядзення сходаў у азнаменаванне Дня друку і 25-гадовага юбілею «Правды», вывады абмеркаваць на бюро ГК, АК і РК КП(б)Б і вынесці адпаведныя рашэнні.



Уп. Галоўлітбела № Л—1905.
Тыраж 6 000.
387.200 друк. зн. (7 арк.)
Здана ў набор 25/IV—37 г.
Падпісана да друку 11/V—37 г.

*Рэдкалегія* { Г. Рубінштэйн (адк. рэдактар), Л. Готфрыд, Н. Казюк

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 525

ЦАНА 40 кап.




# УВАГА!

Рэдакцыя журнала „Большэвік Беларусі“ даводзіць да ведама ўсіх падпісчыкаў, што на падставе пастановы Бюро ЦК КП(б)Б журнал „Большэвік Беларусі“ з палітыка-эканамічнага штомесячніка рэарганізуецца ў журнал партыйнага будаўніцтва. Акрамя агульнага аддзела, у якім будуць асвятляцца пытанні арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, партыйнай прапаганды, палітагітацыі і пытанні большэвіцкага друку,—у журнале, пачынаючы з № 3, уводзяцца аддзелы: „У дапамогу прапагандысту“, „У дапамогу парторгу і сакратару парткома“, „Жыццё мясцовых партарганізацый“ і „У Цэнтральным Камітэце КП(б)Б“.

У аддзелах журнала „Большэвік Беларусі“: „У дапамогу прапагандысту“, „У дапамогу парторгу і сакратару парткома“ сістэматычна будуць давацца кансультацыі па пытаннях партыйнай прапаганды, палітагітацыі і арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, а ў астатніх двух аддзелах будзе асвятляцца жыццё мясцовых партарганізацый і паведамленні аб важнейшых рашэннях ЦК КП(б)Б па пытаннях партыйнага будаўніцтва і ўнутрыпартыйнага жыцця.

Назва журнала застаецца ранейшай—
„Большэвік Беларусі“

## УМОВЫ ПАДПІСКІ РАНЕЙШЫЯ

| | | |
|---|---|---|
| На 1 мес. | — | 40 кап. |
| „ 3 „ | — | 1 р. 20 „ |
| „ 6 „ | — | 2 „ 40 „ |
| „ 9 „ | — | 3 „ 60 „ |

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:

штомесячна ўсімі райбюро „Саюздруку“, упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, усюды на пошце і пісьманосцамі.